Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 15 (4559) 16 красавіка 2010 г.

## У нумары:





Брэсцкая абласная бібліятэка імя Максіма Горкага адзначыла сваё 70-годдзе. Юбілейныя мерапрыемствы доўжыліся тры дні, падчас якіх адбываліся найцікавейшыя сустрэчы рознай эмацыянальнай і інфармацыйнай насычанасці. За гады існавання кніжная скарбніца сапраўды ператварылася ў сучасны цэнтр выхавання інтэлектуальнай эліты — паплечнікамі і добрымі яе сябрамі сталі выкладчыкі і студэнты Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта, журналісты, краязнаўцы, дзеячы культуры і адукацыі, прычым не толькі рэгіёна, а і ўсёй краіны.




# Рэйтынг — высокі, аўтарытэт — заслужаны

Як досыць адметная ўстанова культуры яна са звычайнай чытальні ператварылася ў сапраўдны сучасны сацыякультурны цэнтр, дзе згуртоўваюцца лепшыя прадстаўнікі грамадскасці, і менавіта тут, на падмурку цікавасці да кнігі, знітоўваюцца іх інтарэсы.

Бібліятэка развіла, ператварыўшы ў пастаянныя шматбаковыя сумесныя праекты дзейнасць у такіх галінах як прапаганда ведаў, культурна-асветніцкая і навуковая праца, краязнаўства і даследаванне гісторыі кнігадрукавання, бібліятэказнаўства і выкананне інфармацыйна-бібліяграфічных запытаў. У выніку чытачы розных прафесій, заняткаў, узроўню ведаў і кругагляду могуць карыстацца неабходнай ім літаратурай на рускай, польскай, беларускай, французскай, нямецкай, украінскай мовах, стварацць цікавыя навукова-папулярныя артыкулы ды духоўна сталець.

І ў дні юбілейных святкаванняў дзверы бібліятэкі гасцінна расчыняліся не толькі перад гасцямі, а і для штодзённых яе наведвальнікаў — чытачоў. Акрамя таго, што гэтымі днямі, як звычайна, працавалі ўсе аддзелы, яшчэ праходзілі найцікавейшыя прэзентацыі новых кніг, адбылася найяскравейшая экспрэс-выстаўка кніг і друкаваных перыядычных выданняў з фондаў абласной скарбніцы. У межах дзелавога кірунку яркім акордам прагучала навукова-практычная канферэнцыя, якую ўступным словам адкрыў начальнік упраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама Рыгор Бысюк. Рыгор Рыгоравіч, між іншым, паведаміў, што праз некаторы час сустракацца ўсім надарыцца ў нанова рэканструяваным памяшканні. Праект рэканструкцыі зацверджаны, і хуткім часам павінны распачацца працы па добраўпарадкаванні духоўнай скарбніцы рэгіёна. Рашэнне, якое наспела даўно, мусіць палепшыць стан самой кнігазахавальніцы.

Установа шчыльна супрацоўнічае з Бяла-Падляскай бібліятэкай, Інстытутам Гётэ, франка-беларускай залай пры Пасольстве Францыі ў Беларусі, з Расійскай нацыянальнай бібліятэкай у Санкт-Пецярбургу, з калегамі Літвы, Украіны. Тут бяруць свой пачатак і знаходзяць працяг найцікавейшыя даследчыя, краязнаўчыя, гістарычныя праекты.




Што да праектаў, то іх існаванне засведчылі ўдзельнікі навукова-практычнай канферэнцыі "70 год. Брэсцкая абласная бібліятэка імя Максіма Горкага: набыткі, калекцыі, падарункі". З трыадзінства апошніх слоў вынікала, што скарбніцы ёсць чым ганарыцца і што яшчэ яна мусіць збіраць у свае фонды. Пра Берасцейскія старадрукі ў фондзе Расійскай нацыянальнай бібліятэкі распавёў доктар філалагічных навук, загадчык аддзела рэдкай кнігі РНБ г.Санкт-Пецярбурга Мікалай Нікалаеў; загадчык кафедры гісторыі славянскіх народаў БрДУ імя А. С. Пушкіна Аляксандр Вабішчэвіч праанансаваў дагэтуль нераспрацаваную тэму "Бібліятэкі ў грамадска-культурным жыцці Заходняй Беларусі (1921—1939гг)"; выступленне "Епіскап Зігмунд Лазінскі — бібліяфіл" прапанаваў прысутным дацэнт Палескага універсітэта Аляксандр Ільін; пра бібліятэкі і іх ролю ў падрыхтоўцы навуковай і творчай эліты распавёў дацэнт кафедры беларускага літаратуразнаўства БрДУ Генадзь Праневіч.

Прагучала шмат іншых выступленняў — менавіта па праблемах існавання бібліятэк у сучасным свеце ва ўмовах татальнай глабалізацыі. На прафесійную размову сабраліся: намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Людміла Кірухіна ды прадстаўнікі абласных кніжных скарбніц — дырэктар Мінскай абласной бібліятэкі, старшыня Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі Наталля Чуева, дырэктар Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага Лідзія Мальцава, дырэктар Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі імя У. І. Леніна Валянціна Дуброва, дырэктар Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна Ілона Сарокіна. Пасля плённага дзелавога дня, якому папярэднічала сустрэча з былымі і сённяшнімі працаўнікамі, ветэранамі-бібліятэкарамі, на ўрачыстым пасяджэнні, як і належыць, уручаліся ўзнагароды. Ганаровыя граматы і падзяку Міністэрства культуры Беларусі, а таксама прывітальны адрас ад міністра Паўла Латушкі ўрычыла галоўны спецыяліст Ганна Гамеза, граматы ад Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта ўручыў лепшым супрацоўнікам намеснік старшыні аблвыканкама Леанід Цупрык, а ад абласнога ўпраўлення культуры — яго кіраўнік Рыгор Бысюк. Своеасаблівым віншавальным падарункам сталіся выдатнейшыя песні ў выкананні ансамбля "Акапэла" музычнага каледжа, танцы выхаванцаў харэаграфічнай школы, ансамбля "Берасцяначка", выступленні артыстаў Брэсцкай абласной філармоніі, інтэрмедыя-імправізацыя артыстаў Брэсцкага тэатра лялек.

Той факт, што на юбілейных урачыстасцях прысутнічалі дэлегаты амаль усіх устаноў культуры Брэста і кіраўнікі абласных цэнтральных бібліятэчных сістэм яшчэ раз пацвердзіла высокі рэйтынг і аўтарытэт, што мае ў колах грамадскасці абласная кніжная скарбніца.

Як зазначыла пры канцы мерапрыемстваў дырэктар Брэсцкай абласной бібліятэкі імя Максіма Горкага Тамара Данілюк, "бібліятэка — гэта тая ўстанова, якая забяспечвае чалавеку адукацыю на працягу ўсяго яго жыцця". Гэта ў скарбніцы і ёсць асноўнаю мэтаю, на якую цяпер працуе ўвесь калектыў.

Ірына ТУЛУПАВА

На здымках: намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Людміла Кірухіна ўручае падарунак юбілярам; Брэцкая Біблія — з фондаў абласной кніжнай скарбніцы.

Фота Кастуся Дробава і аўтара.

## Пункцірам

● Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь узнагародзіла нагрудным знакам "Выдатнік друку Беларусі" рэдактара аддзела — члена рэдакцыйнай калегіі газеты "Культура" рэдакцыйна-выдавецкай установы "Культура і Мастацтва" Барыса Крэпака.

● Большая частка графічных лістоў, прадстаўленых на выстаўцы "Накіды і малюнкі рускіх мастакоў XIX — XX стагоддзяў" у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, экспануецца ўпершыню. Накіды Івана Шышкіна, Яфіма Волкава, Барыса Кустодзіева, Філіпа Малявіна, замалёўкі ілюстрацый Канстанціна Рудакова да рускай літаратурнай класікі, анімалістычныя малюнкі Валянціна Сярова паводле баек Івана Крылова, іншыя малявядомыя работы з фондаў музея, уключаныя ў гэтую выстаўку, можна паглядзець да 24 красавіка.

● Экскурсійны тур "Беларускі экватар" распрацаваны ў нашай краіне, паведамляе БелТА.Разлічаны ён пераважна на замежнікаў і зойме чатыры дні. Пачынаецца вандроўка ў Брэсце з наведвання знакамітай крэпасці. Затым турысты адпраўяцца ў нацыянальны парк "Белавежская пушча", азнаёмяцца з замкавымі комплексамі Міра і Нясвіжа, зробяць аглядную экскурсію па Мінску. У праграму ўваходзіць таксама наведванне Сілічаў і Лагойска, Бярэзінскага біясфернага заказніка і Полацка.

● Як паведаміла супрацоўніца Гарадской мастацкай галерэі твораў Л. Шчамялёва Марыя Міхайлава, тут адкрылася выстаўка мінскага мастака Вячаслава Рускевіча "У памяці часоў". У экспазіцыі — серыя партрэтаў, а таксама некалькі пейзажаў, якія ў пэўнай ступені адлюстроўваюць цесную сувязь бацькоў і дзяцей, продкаў і нашчадкаў… Гэта не толькі тыя людзі, якія бралі непасрэдны ўдзел у трагічных падзеях гісторыі нашай краіны, а і маладое пакаленне, што выказвае глыбокую павагу і ўдзячнасць героям нашага часу, чые ахвяры і памкненні не забытыя ў вірлівым перапляценні людскіх лёсаў.

● Тэлеканал АНТ у чэрвені пачынае працу над мастацкім фільмам «Вітаўт». Пакуль толькі вядома, што Павел Бондар з'яўляецца дырэктарам будучага фільма. Хто яшчэ будзе працаваць над стужкай, імя аўтара сцэнарыя застаюцца невядомымі. Апублікаваць сцэнарый плануецца пасля таго, як ён будзе закончаны. Сёлета спаўняецца 660 гадоў з дня нараджэння вялікага князя і 580 — з дня яго смерці.

● Інстытут культуры Італіі будзе створаны ў Беларусі. Пра гэта паведаміў Пасол Італіі ў Беларусі Джулія Прыджоні. Ён адзначыў, што магчымасці двухбаковага супрацоўніцтва значна пашырыліся ў выніку леташніх сустрэч і перамоў у Мінску з кіраўніком італьянскага ўрада Сільвія Берлусконі. Дыпламат падкрэсліў, што ў бліжэйшы час Беларусь і Італія падпішуць дакументы аб культурным супрацоўніцтве. І адным з пунктаў стане стварэнне інстытута культуры Італіі ў Мінску. Такі крок дасць магчымасць дадатковага вывучэння італьянскай мовы і культуры ў Беларусі.

● Пераможцам X Усерасійскага Інтэрнэт-конкурсу "Залаты сайт 2009" у намінацыі "Дзяржустановы" рэгіёна "Замежжа" стаў сайт Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача.

Падрыхтавалі
Лана ІВАНОВА, Віктар ЗАЯЦ
і Павел РАДЫНА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

### «Захаваем свет разам!»

Такую назву мае абласны дзіцячы конкурс чытальнікаў, прысвечаны 65-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне і Дню беларускага пісьменства ў г. Хойнікі. Заснавальнікамі і арганізатарамі конкурсу выступілі Гомельскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі, упраўленне адукацыі Гомельскага аблвыканкама, Гомельскае аддзяленне Беларускага Фонду Міру і Гомельская абласная ветэранская арганізацыя.

Паспрыяць павышэнню цікавасці да мастацкіх твораў, створаных пісьменнікамі-землякамі і прысвечаных подзвігу беларускага народа ў Вялікай Айчыннай вайне, роднаму краю, мове, духоўнаму багаццю рэгіёна — такія задачы мае гэты конкурс. Дарэчы, яго юныя ўдзельнікі (вучні школ вобласці ад 12 да 17 гадоў) самастойна выбіраюць мастацкія творы з творчай спадчыны класікаў беларускай літаратуры і сучасных аўтараў, што пражывалюць на Гомельшчыне.

Абласны дзіцячы конкурс чытальнікаў ладзіцца ў двюх намінацыях — "паэзія" і "проза". Раённы этап, які праходзіў з 10 сакавіка па 1 красавіка, вызначыў па адным пераможцы ў кожнай з намінацый. 23 красавіка лепшыя чытальнікі змогуць паказаць сваё майстэрства ў Гомелі. Падчас конкурсу будуць выяўлены таленавітыя, артыстычныя чытальнікі, здольныя выказаць мастацкую задуму аўтара і, якія, безумоўна, выдатна валодаюць беларускай і рускай мовамі. Вынікі падвядзе журы, у склад якога ўваходзяць вядучыя майстры слова, прадстаўнікі заснавальнікаў конкурсу. Юныя чытальнікі будуць мець магчымасць сустрэцца з аўтарамі твораў, атрымаюць ад іх у якасці падарункаў новыя кнігі з аўтографамі.

Улад ПРЫЯЗЁРНЫ

### Паэтычнае шматгалоссе

У Міжнародны дзень паэзіі ў музеі Уладзіміра Караткевіча ў Оршы адбылася прэзентацыя новага зборніка аршанскага літаратурнага аб'яднання "Дняпроўскія галасы". Выданне прысвечана 60-годдзю аб'яднання, якое было створана пры рэдакцыі газеты "Ленінскі прызыў" (цяпер "Аршанская газета").

Сярод аўтараў зборніка — члены Саюза пісьменнікаў Беларусі: Генадзь Казак, Кастанцін Нілаў, Анатоль Прохараў, Рыгор Лазуркін ды іншыя.

Пра карані літаб'яднання піша ў прадмове "На добрай глебе — добры колас" журналіст, кіраўнік аб'яднання ў 1968 — 1977 гг. Фёдар Кулакоў. Ён называе шмат аўтараў, чые паэтычныя галасы гучаць па-над Дняпром сёння.

З выхадам зборніка прысутных павіншавалі лаўрэат міжнародных літаратурных прэмій, старшыня Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Тамара Краснова-Гусачэнка, начальнік аддзела культуры Аршанскага гарвыканкама Ганна Святлова і паэтэса, якая асабіста была знаёма з Уладзімірам Караткевічам, Валянціна Пчолка.

У зале гучалі вершы, аўтарскія песні, цёплыя словы і добрыя пажаданні.

Як паведамілі укладальнікі, рыхтуецца да выдання другі том анталогіі паэзіі аршанскіх творцаў "Жыцця спасцігнуць таямніцы…"

Леся КРАСАВІК

## Вечарыны

# Гумарэскі, жарты, пародыі

### У Доме літаратара прайшоў вечар гумару

Кажуць, адна хвілінка
сапраўднага, іскрыстага
смеху працягвае чалавеку
жыццё ажно на цэлы год!
Калі гэта сапраўды так, дык
гумар сёння можна лічыць
адным з самых лепшых
лекаў ад усіх хвароб,
і народ гэта ведае.
Нездарма Мемарыяльная
зала Дома літаратара была
запоўненая цалкам.

У вечарыне бралі ўдзел вядомыя паэты, пісьменнікі, акцёры, кампазітары і выканаўцы, барды. Гучалі гумарэскі, анекдоты, смешныя гісторыі, вясёлыя песні. Галоўным жанрам імпрэзы стала пародыя. Выступоўцы жартавалі адзін з адного: паэтычна перараблялі на свой лад урыўкі з твораў сяброў-літаратараў. Мабыць, больш за ўсё пародый прагучала на пісьменніка Міколу Шабовіча. Не засталіся не заўважанымі і яго шматлікія пародыі…

Па-сапраўднаму віртуозным было выступленне Анатоля Зэкава, і жартаваў ён так, што ў прысутных у зале аж слёзы з вачэй сыпаліся. Майстэрства іскрыстага жарту дэманстравалі таксама Міхась Пазнякоў, Аляксандр Быкаў, Алег Карповіч, Валерый Максімовіч, Алег Чаркун, Дзмітрый Пятровіч, Юрась Жагімонт ды іншыя.

Вечарыны такога кшталту ў Доме літаратара стануць надалей традыцыйнымі.

Уладзімір ПАДАЛЯК

На здымках: сярод гледачоў — пазнавальныя твары паэтаў-гумарыстаў; на сцэне — Анатоль Зэкаў.

Фота Кастуся Дробава





## Падзея

# Урок Міколы Чарняўскага

Незвычайны ўрок роднай літаратуры для вучняў 4-х і 6-х класаў гарадской сярэдняй агульнаадукацыйнай школы № 2 правялі нядаўна работнікі Рагачоўскай дзіцячай бібліятэкі пад кіраўніцтвам Валянціны Псырковай. На сустрэчу прыехаў славуты дзіцячы пісьменнік Мікола Чарняўскі.

Мікалай Мікалаевіч — аўтар 38 паэтычных кніг для дзяцей і дарослых, лаўрэат літаратурных прэмій імя Янкі Маўра і імя Васіля Віткі, Ганаровы член Саюза пісьменнікаў Беларусі, за вялікія заслугі ў развіцці дзіцячай літаратуры ўзнагароджаны медалём Францыска Скарыны. Сустрэча з пісьменнікам ператварылася ў сапраўднае свята, якое праходзіла пад дэвізам "Шануйце роднае слова!".

Бібліятэкары наладзілі выстаўку кніг і публікацый пісьменніка "За дзяцінствам наўздагон", паказалі літаратурна-драматычную праграму, дзеці чыталі вершы Міколы Чарняўскага. А затым слова ўзяў сам паэт. Ён адказаў на пытанні, расказаў пра сваё жыццё і творчы шлях, які, дарэчы, праходзіў і на Рагачоўшчыне: у сярэдняй школе пасёлка Беліцк Мікола Чарняўскі вучыўся ў старшых класах, тут напісаў свой першы верш "Васількі". Многа цікавага пра жыццё і таямніцы творчасці пісьменніка даведаліся вучні і настаўнікі. Затым Мікола Чарняўскі чытаў свае новыя творы, падпісаў чытачам шмат сваіх кніг, у тым ліку новую — "Сонечны кошык", якая выйшла ў 2009 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура".

На сустрэчы прысутнічалі былая настаўніца пісьменніка Вера Казакова і аднакласнік Васіль Фралоў. Вера Філіпаўна падзялілася сваімі ўспамінамі пра Міколу Чарняўскага — вучня, у якога ўжо ў маленстве праявіўся паэтычны талент. Хлапчук пісаў вершы, актыўна друкаваўся, а затым закончыў Белдзяржуніверсітэт і прысвяціў жыццё служэнню роднай літаратуры. Бацькаўшчыне. У мерапрыемстве прынялі ўдзел і рагачоўскія літаратары — паэтэса Ніна Пінчук і празаік Міхась Слівa, якія дзяліліся ўражаннямі ад твораў Міколы Чарняўскага і чыталі свае творы.

Максім СНЕПРОЎ

## Канферэнцыі

У межах XXIX гарадской навукова-практычнай канферэнцыі вучняў, што традыцыйна праводзіцца Мінскім дзяржаўным Палацам дзяцей і моладзі, прайшло пасяджэнне секцыі беларускай літаратуры.

# Адчуць дух пошуку

Навуковыя работы маладых даследчыкаў літаратуры былі прысвечаны вывучэнню творчасці як класікаў беларускай літаратуры — М. Гусоўскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, У. Дубоўкі, М. Багдановіча, П. Панчанкі, У. Караткевіча, І. Мележа, Р. Барадуліна, так і творцаў новага пакалення — А. Федарэнкі, С. Мінскевіча, В. Шніпа. Вучні не толькі вывучалі творчую спадчыну вядомых майстроў слова, але звярнулі ўвагу і на беларускі фальклор, на лёс і творчасць малавядомых пісьменнікаў. Словам, правялі сапраўдныя даследаванні, сустракаліся з блізкімі і сваякамі творцаў, вялі ліставанне, арганізоўвалі сустрэчы з пісьменнікамі. Самі вучні адзначылі, што займацца такой працай было вельмі карысна. Знаёмствы з новымі людзьмі заўсёды прыносяць шмат уражанняў, асабліва калі вынікам такіх зносінаў становіцца адкрыццё невядомых старонак беларускай літаратуры.

У склад журы ўваходзілі выкладчыкі ВНУ, навуковыя супрацоўнікі Інстытута мовы і літаратуры імя Янкі Купалы і Якуба Коласа НАН Рэспублікі Беларусь, якія рабілі слушныя заўвагі, давалі парады вучням, адказвалі на пытанні. Праца секцыі часам ператваралася ў абмен поглядамі і своеасаблівую дыскусію.

Як характэрнае, адзначалася, што апошнімі гадамі тэмы вучнёўскіх даследаванняў сталі больш абагульненымі, беларуская літаратура прачытваецца ў кантэксце сусветнай. Прысутнічае і непасрэдны аналіз мастацкіх тэкстаў. Нядаўна выйшла кніга А. Федарэнкі "Нічые", і ўжо сёння на секцыі агучана паведамленне, дзе выказваліся неардынарныя думкі пра раман.

Назіраецца захапленне сучаснага чытача дэтэктывамі, і як рэакцыя на гэта — творы У. Караткевіча прачытваюцца навучэнцамі ў кантэксце сусветнай спадчыны.

Дыпломамі лаўрэатаў канферэнцыі адзначаны 14 лепшых работ, а 5 самых адметных з іх будуць надрукаваны ў зборніку.

Марына ВЕСЯЛУХА

## Літ-абсягі

Адкрыла свята старшыня Віцебскага абласнога аддзялення СПБ Тамара Краснова-Гусачэнка — лаўрэат Міжнароднай прэміі імя Сімяона Полацкага, Усерасійскай літаратурнай прэміі імя Ф. Цютчава, узнагароджаная медалём Францыска Скарыны, аўтар шматлікіх кніг для дзяцей і дарослых.

Літаратурная гульня-падарожжа, тэатралізаванае прадстаўленне, кніжныя выставы, выстава-панарама "Памяць сэрца", выстава дзіцячага малюнка, прысвечаная Вялікай Перамозе, інсцэніроўкі паводле твораў Антона Бялевіча "Смерць Маланні" і Андрэя Макаёнка "Трыбунал", патрыятычныя песні — усё было ў Палацы пазашкольнага аб'яднання.

Перад удзельнікамі свята выступіла старшыня клуба "Пошук", аўтар кнігі "Пакуль не пахаваны апошні салдат" Ларыса Бруева. Эмацыянальным і павучальным было выступленне ганаровага члена СПБ Барыса Бележэнкі.

Свята ў палацы працягвалася на наступны дзень. Адбылася сустрэча школьнікаў з ганаровым членам Саюза пісьменнікаў Беларусі Маінай Бабарыкай, якая прэзентавала свой зборнік вершаў

# Кола чытання пашырылася

**Шэрагам прэзентацый кніг запомніцца маленькім чытачам тыдзень дзіцячай кнігі. Распачаўся ён урачыстым адкрыццём у Палацы Віцебскага абласнога аб'яднання пазашкольнай работы з дзецьмі і падлеткамі і прысвячаўся 65-й гадавіне Вялікай Перамогі над фашызмам. На экране дэманстраваліся кадры ваеннай кінахронікі, з дынамікаў даносіліся мелодыі тых далёкіх гадоў. Тэматыка мерапрыемстваў тыдня — "Радкі, абпаленыя вайной".**



"Озорные буквы", што выклікала зацікаўленасць і шчыры водгук дзяцей на творы дзіцячай пісьменніцы. Гэты зборнік будзе выкарыстаны для работы з вучнямі.

"Радкі, абпаленыя вайной" гучалі і ў бібліятэцы імя Пушкіна. Кампазіцыя, створаная бібліятэкарамі, пазнаёміла прысутных школьнікаў і дарослых з біяграфіямі і творамі пісьменнікаў Віцебшчыны, загінулых у вайну. Перад прысутнымі выступілі з патрыятычнымі творамі Тамара Краснова-Гусачэнка і Барыс Бележэнка.

Магутным акордам у ходзе Тыдня дзіцячай кнігі была прэзентацыя ў бібліятэцы імя У. Караткевіча цудоўнага зборніка вершаў для дзяцей "Где же солнышко ночует?", які нядаўна выйшаў у РВУ "Літаратура і Мастацтва". Аўтар кнігі — Тамара Краснова-Гусачэнка натхнёна і ўзвышана выступала перад дзецьмі. І яны ў адказ, сапраўды ўдзячныя і ўзрушаныя, чыталі на памяць вершы з кнігі Тамары Іванаўны.

Сапраўдная паэзія мае выдатную музычную аснову, і выкладчык музыкі, віцебскі кампазітар Надзея Несцярэнка напісала на вершы Т. Гусачэнкі песні "Новогодняя", "Мамочке", "Сентябриньи", якія праспявалі вучні другіх класаў гімназіі №3 імя А. Пушкіна.

У бібліятэцы імя У. Караткевіча выступілі таксама Маіна Бабарыка і Барыс Бележэнка, які нядаўна выдаў зборнік казак "Волшебная мельница".

Барыс ПАЎЛАЎ

На здымку: Ларыса Бруева з юнымі чытачамі.

Фота аўтара

## Арт-лінія

# Лялечныя госці ў доме Коласа



**Вялікдзень — светлае і раднасае свята, калі дзверы кожнага дома гасцінна адчынены для сяброў, калі ў кожным доме пануе добры настрой. Не застаўся ў баку і дом Якуба Коласа, адчыніўшы свае дзверы не толькі для гасцей і наведвальнікаў, але і для дзівосных лялек. Так, у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адкрылася выстава аўтарскай лялькі "Каруся, Палуся, Цацэля, Марцэля…"**

Радок з паэмы "Новая зямля" нездарма даў выставе назву. Уладкарі гэтых дзівосных даўніх іменаў быццам бы сабраліся ў адным з пакояў музея на велікоднае свята. Лялькі выстаўлены ў мемарыяльнай экспазіцыі, сярод непаўторных антыкварных інтэр'ераў, якія захоўваюцца ў доме Якуба Коласа, што надае экспазіцыі незвычайную атмасферу.

Таленавітыя майстры прадстаўляюць на выставе свае непаўторныя аўтарскія лялькі, кожная з якіх існуе ў адзіным экземпляры. Ірына Ставер ("Святочнае бюро Ларысы Грыбалёвай"), Святлана Шор (Беларускі саюз майстроў народнай творчасці), Анжэла Міцкевіч (Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры і мастацтваў), Святлана Калкоўская (кіраўнік народнай мастацкай студыі "Раніца" Шашкоўскай школы мастацтваў Стаўбцоўскага раёна), студэнты БДУКіМ і майстры канцэрна "Беларускія мастацкія промыслы" дэманструюць розныя стылі, розныя погляды на аўтарскую ляльку: ад традыцыйных фальклорных вобразаў да сучасных гламурных персанажаў, ад маленькіх саламяных "стрыгункоў" — старажытнай дзіцячай забаўкі — да лялек у рост чалавека, ад дамавікоў і лесуноў да вытанчаных анёлаў.

Цікавым з'яўляецца ўдзел у выставе Анжэлы Міцкевіч — адной з нашчадкаў Якуба Коласа. Яна зрабіла лялькі, прысвечаныя творам свайго славутага продка: героі паэмы "Новая зямля", Савось-распуснік — галоўны герой аднайменнай дзіцячай паэмы. Свае працы прадстаўляюць таксама студэнты БДУКіМ — вучні А. Міцкевіч.

Адмысловы цэнтр экспазіцыі — велікодны стол, упрыгожаны вялікімі раставымі лялькамі, якія прадстаўлены канцэрнам "Беларускія мастацкія промыслы". Яны рэпрэзентуюць вобразы гаспадара і гаспадыні, што сядзяць за святочным сталом, які з такім майстэрствам апеты Якубам Коласам:

А на стале тым — рай ды годзе,
Што рэдка трапіцца ў народзе.
Ляжала шынка, як кадушка,
Румяна-белая пампушка,
Чырвона зверху, сакаўная,
Як бы агонь у ёй палае…

Аўтары лялек падзяліліся з наведвальнікамі некаторымі сакрэтамі сваёй творчасці. Святлана Калкоўская выдатна праспявала некалькі народных песень. Малодшы сын песняра, Міхась Міцкевіч, як заўжды выдатна, прачытаў вершы свайго бацькі.

Выставу такога кшталту музей ладзіць упершыню. Магчыма, яна дасць пачатак новай традыцыі, і лялькі яшчэ не адзін раз завітаюць у гасцінны дом дзядзькі Якуба на радасць усім яго наведвальнікам.

Аляксей ЛЕСІН,
старшы навуковы супрацоўнік аддзела фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа

На здымку: Міхась Міцкевіч.

Фота аўтара

## Повязі

# Абай у сэрцах беларусаў

**Творчасці класіка казахскай літаратуры Абая Кунанбаева была прысвечана літаратурная вечарына, якая адбылася ў сталічным Доме дружбы. На ёй прэзентавалася паэзія Абая ў перакладзе на беларускую мову, апублікаваная ў трэцім нумары часопіса "Полымя". Вечар адкрыла старшыня прэзідыума Таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі Ніна Іванова.**



Пра жыццёвы і творчы шлях слыннага паэта-асветніка, заснавальніка сучаснай казахскай літаратурнай мовы гаварылі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь А. У. Смірноў, старшыня таварыства "Беларусь — Казахстан", рэктар Беларускага дзяржаўнага аграрнага тэхнічнага універсітэта М. У. Казаравец, дэпутат Палаты прадстаўнікоў У. А. Кляшчук, намеснік кіраўніка офіса АБСЕ ў Мінску Ж. А. Асанаў. Прагучалі творы Абая на беларускай і казахскай мовах. Іх чыталі слухачы Ваеннай акадэміі, а таксама вядучы літаратурнага вечара, аўтар палымянскіх перакладаў, паэт Мікола Мятліцкі. Прагучалі і музычныя творы Абая, песні, створаныя на яго словы беларускім кампазітарам Алегам Чыркуном. Іх выканала салістка Белдзяржфілармоніі, лаўрэат Міжнародных конкурсаў Нэлі Душчынская.

Сёння з геаграфічна далёкім Казахстанам нас аб'ядноўвае агульная мытная прастора. Аднак ніколі пасля распаду Савецкага Саюза не знікала наша агульная духоўная прастора. Пасольствам Рэспублікі Казахстан у Беларусі, як і Пасольствам Беларусі ў Казахстане, робіцца ўсё належнае дзеля таго, каб умацніліся не толькі эканамічныя сувязі дзвюх краін, аднак каб развіваліся і крэплі духоўныя кантакты. Так, будучай восенню плануецца правядзенне Дзён беларускай культуры ў Казахстане, у якіх возьмуць удзел вядомыя творчыя калектывы нашай краіны, а таксама відныя дзеячы культуры і мастацтва.

У завяршэнне мерапрыемства адбыўся прыём супрацоўнікаў рэдакцыі часопіса "Полымя" Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь А. У. Смірновым, дзе вялася зацікаўленая гаворка аб далейшым творчым супрацоўніцтве.

Міхась МІКАЛАЕЎ

На здымку: студэнт Ваеннай акадэміі выконвае мелодыю Абая на домры.

Фота Кастуся Дробава

## З-пад пяра

На тэрыторыі Беларусі — 6745 воінскіх пахаванняў (982-м з іх нададзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці) і 922 помніка, прысвечаных Вялікай Айчыннай вайне, паведаміў галоўны спецыяліст упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Міністэрства культуры Беларусі Уладзіслаў Рута. На Міншчыне — каля трох тысяч помнікаў на воінскіх пахаваннях і помнікаў, устаноўленых у гонар загінулых герояў. 132-м з іх надзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці. Увосень каля Кургана Славы была пасаджана Алея Герояў. 9 мая 2010 года адбудзецца святочнае адкрыццё Алеі і мемарыяльнага знака, — расказала намеснік начальніка упраўлення культуры Мінаблвыканкама Святлана Баранок. Плануецца, што, як і ў мінулым годзе, палова сродкаў, заробленых на рэспубліканскім суботніку мінчанамі, пойдзе на добраўпарадкаванне помнікаў.

Супрацоўнік упраўлення культуры Мінгарвыканкама Вольга Лукашук паведаміла, што ў канцы красавіка гэтага года будуць вядомыя вынікі рэспубліканскага конкурсу па стварэнні мемарыяльнага комплексу "Трасцянец".

Уладзімір ПАДАЛЯК

У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі адбылася прэзентацыя апошняй, пятай, кнігі факсімільнага выдання славутай газеты "Наша Ніва" за 1912—1915 і 1920 гады. Была арганізавана выстаўка "Газета-легенда". На ёй — арыгінальныя нумары газеты за 1906—1914 і 1920 гады, выдадзеныя на беларускай мове кірыліцай і лацінкай. На экспазіцыі адлюстравана і кнігавыдавецкая дзейнасць "Нашай Нівы": "Апавяданні" Якуба Коласа, "Вянок" М. Багдановіча, успаміны А. Уласава, а таксама штогадовыя "Календары "Нашай Нівы" ды іншае. Адказны за падрыхтоўку ўсіх пяці выданняў — галоўны рэдактар выдавецтва "Тэхналогія" Зміцер Санько. Пяты выпуск "Нашай Нівы" выдадзены тыражом 1000 экземпляраў, а яго кошт складае 115 тысяч рублёў.

Уладзімір СТАЛОВІЧ

Нядаўна ў бібліятэцы №11 г. Гомеля адбылася прэзентацыя новай кнігі гомельскага пісьменніка Івана Лосікава "Мой шлях у літаратуру". Быў падрыхтаваны стэнд з сямю кнігамі аўтара, выдадзенымі за апошнія гады, а сам Іван Лосікаў працуе на ніве літаратуры больш як 40 год. Са шчырымі і цёплымі словамі ў адрас Івана Лосікава выступілі гомельскія пісьменнікі Эма Усціновіч, Ганна Атрошчанка, Барыс Кавалерчык і госць з Мінска паэт Вячаслаў Корбут. Усе выступоўцы адзначылі цэласнасць і глыбокую аўтабіяграфічнасць кнігі "Мой шлях у літаратуру" і наблюжанасць да жыцця самой прозы І. Лосікава. У кнізе перад вачыма чытача паўстае чалавек, які не шукае ў літаратуры лёгкага шляху да поспеху.

Пятро ХМЯЛЕЎСКІ

Адбылося адкрыццё выставы "Вайна партызанская" ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі імя Е. Раманава. Упершыню ў гісторыі ўстановы шырока прадстаўлены аўтэнтычныя музейныя прадметы, звязаныя з дзейнасцю партызанскіх атрадаў.

У выставу ўваходзяць некалькі тэматычных інсталяцый: "Штаб атрада", "Лясны лазарэт", "Партызанская кухня", "Швейная майстэрня", "У вольны час" і інш. Пры афармленні інсталяцый работнікі музея абапіраліся на фотаздымкі ваенных часоў і малюнкі, на якіх адлюстраваны розныя аспекты жыцця і дзейнасці партызанскіх атрадаў. Ужо зараз выстава карыстаецца папулярнасцю ў наведвальнікаў, асабліва ўразіла яна школьнікаў.

Марыя КОБЕЦ

# Ад Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь

**У адпаведнасці з пунктам 9 Палажэння аб Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь, зацверджанага Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 5 мая 2006 г. № 300 “Аб Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь”, з мэтай шырокага азнаямлення грамадскасці прадастаўляецца інфармацыя аб работах, дапушчаных да ўдзелу ў конкурсе на атрыманне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 2010 года.**

Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі паведамляе, што да ўдзелу ў конкурсе на атрыманне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі 2010 года дапушчаны наступныя работы:

Маруковіч Яўген Ігнацьевіч, Беўза Уладзімір Фёдаравіч, Бадзяка Аляксандр Міхайлавіч. Работа “Стварэнне і прамысловая рэалізацыя прынцыпова новага метаду беспарапынна-цыклічнага ліцця намаражваннем высоказносастойкіх дэталяў тэхнікі”. Вылучана на саісканне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі дзяржаўнай навуковай установай “Інстытут тэхналогіі металаў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі”. Прадстаўлена Нацыянальнай акадэміяй навук Беларусі.

Марыеў Павел Лук’янавіч, Ягораў Аляксандр Мікалаевіч, Бігель Мікалай Віктаравіч. Работа “Распрацоўка і засваенне вытворчасці сямейства кар’ерных самазвалаў асоба вялікай грузападымальнасці з электрамеханічнай трансмісіяй чацвёртага пакалення”. Вылучана на саісканне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі рэспубліканскім унітарным вытворчым прадпрыемствам “Беларускі аўтамабільны завод” вытворчага аб’яднання “БелАЗ”. Прадстаўлена Міністэрствам прамысловасці.

Сакалоўскі Анатоль Міхайлавіч, Бялецкі Аляксандр Валянцінавіч, Сакалоўскі Алег Анатольевіч. Работа “Распрацоўка і ўкараненне сучасных хірургічных тэхналогій лячэння артапедычнай паталогіі тазабедранага сустава ў дзяцей і падлеткаў”. Вылучана на саісканне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі дзяржаўнай установай “Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр “Траўматалогія і артапедыя”. Прадстаўлена Міністэрствам аховы здароўя.

Сінягоўскі Генадзь Аляксандравіч, Галавач Андрэй Альбертавіч, Нікалаеў Юрый Іванавіч. Работа “Распрацоўка і засваенне вытворчасці спецыяльных калёсных шасі чацвёртага пакалення ваенна-тэхнічнага і двайнога прызначэння”. Вылучана на саісканне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі вытворчым рэспубліканскім унітарным прадпрыемствам “Мінскі завод колавых цягачоў”. Прадстаўлена Дзяржаўным ваенна-прамысловым камітэтам Рэспублікі Беларусь.

Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі звяртаецца да спецыялістаў, кіраўнікоў арганізацый, навучальных устаноў, прадпрыемстваў, органаў дзяржаўнага кіравання, грамадскіх аб’яднанняў з просьбай прыняць удзел у абмеркаванні работ і аўтарскіх калектываў.

Водгукі спецыялістаў, матэрыялы грамадскага абмеркавання, прапановы і заўвагі просьба накіроўваць да 15 верасня 2010 г. на адрас: 220072, г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 66, каб. 446. Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі. Тэл. 284-11-63. Тэл./факс (017) 284-24-56.

Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры паведамляе, што да ўдзелу ў конкурсе на атрыманне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры 2010 года дапушчаны наступныя работы:

Анісенка Валерый Данілавіч, Мархель Таццяна Рыгораўна, Сідаркевіч Людміла Аляксандраўна. Спектакль “Жанчыны Бергмана”, М.Рудкоўскі. Вылучаны на саісканне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры дзяржаўнай установай “Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі”. Прадстаўлены Міністэрствам культуры.

Левін Леанід Мендзелевіч, Фінскі Аляксандр Міхайлавіч, Каткова Святлана Сяргееўна. Мемарыял “Дзецям – ахвярам Вялікай Айчыннай вайны” ў г.п. Чырвоны Бераг Жлобінскага раёна Гомельскай вобласці. Вылучаны на саісканне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры ўстановай адукацыі “Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў”. Прадстаўлены Міністэрствам культуры.

Гніламёдаў Уладзімір Васільевіч. Раманы “Уліс з Прускі” (2004), “Расія” (2005). Вылучаны на саісканне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры грамадскім аб’яднаннем “Саюз пісьменнікаў Беларусі”. Прадстаўлены Міністэрствам культуры.

Татарнікаў Павел Юр’евіч. Серыя графічных твораў “Брама мінулага”. Вылучаны на саісканне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры грамадскім аб’яднаннем “Беларускі саюз мастакоў” і ўстановай адукацыі “Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў”. Прадстаўлены Міністэрствам культуры.

Гаявая Валянціна Іванаўна. Музычна-харэаграфічная праграма “Беларусы”. Вылучана на саісканне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры дзяржаўнай установай “Беларускі дзяржаўны заслужаны харэаграфічны ансамбль “Харошкі”. Прадстаўлена Міністэрствам культуры.

Гаухвельд Міхаіл Лейбавіч, Данілаў Вячаслаў Мікалаевіч, Нікіцін Віктар Дзмітрыевіч. Стварэнне праекта падземнага грамадска-гандлёвага цэнтра “Сталіца” на пл. Незалежнасці ў г. Мінску. Вылучаны на саісканне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры грамадскім аб’яднаннем “Беларускі саюз архітэктараў”. Прадстаўлены Міністэрствам культуры.

Аляксееў Аляксандр Аляксеевіч, Лукашэвіч Алег Вацлававіч. Мастацкі праект “Спадчына Беларусі”. Вылучаны на саісканне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры калектывам Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь. Прадстаўлены Міністэрствам культуры.

Янкоўскі Расціслаў Іванавіч. За ўвасабленне на сцэне гістарычна значных вобразаў у творах айчыннай і замежнай класікі. Вылучаны на саісканне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры калектывам дзяржаўнай установы “Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага”. Прадстаўлены Міністэрствам культуры.

Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры звяртаецца да кіраўнікоў арганізацый, навучальных устаноў, прадпрыемстваў, міністэрстваў і ведамстваў з просьбай правесці грамадскае абмеркаванне пералічаных работ і аўтарскіх калектываў.

Водгукі, матэрыялы абмеркаванняў, прапановы і заўвагі па работах і аўтарах просьба накіроўваць у падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры да 15 верасня 2010 г. на адрас: 220072, г. Мінск, вул. Сурганава, 1, корп. 2, каб. 412. Тэл./факс (017) 284-23-81.

# Традыцыйнасць — сінонім надзейнасці

**Выдавецтва “Міжнародны цэнтр культуры кнігі”, якое ўзначальвае Валерый Мішчанка, створана ў 1993 годзе пры садзейнічанні консульства Расіі ў нашай краіне, тагачаснага міністэрства культуры і друку гарадскога таварыства рускай культуры “Русь”, выдавецтваў “Універсітэцкае”, “Юнацтва” і аўтарскага калектыву выдавецтва.**

Валерый Рыгоравіч зазначае, што іх выдавецкі стаж параўнальна невялікі, і тым не менш яны здолелі заявіць пра сябе як пра творчую, перспектыўную структуру, асноўнай задачай якой з’яўляецца захаванне і прымнажэнне культурна-гістарычнай спадчыны мастацтва кнігі. Пастаянна звяртаючыся да мінулага, дзейнасць цэнтра не замыкаецца толькі на гісторыі. Культурнае жыццё нашых дзён з яго праблемамі і дасягненнямі знаходзіць годнае месца на старонках выданняў цэнтра. Выдавецтва не раз атрымлівала дыпломы міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў “Мастацтва кнігі” за поспехі, дасягнутыя ў мастацка-тэхнічным афармленні і паліграфічным выкананні выданняў. Выпушчаны шэраг фотаальбомаў, кніг пра мастацтва, энцыклапедый, слоўнікаў, серый дзіцячых кніжак, якія павінны дапамагчы ў вывучэнні моў народаў свету.

Міжнародны цэнтр культуры кнігі спецыялізуецца на выпуску выданняў са складанай архітэктонікай кнігі, з мноствам арыгінальных фота і ілюстрацый: маляўнічых альбомаў і фотакніг, навукова-папулярных, даведачных, літаратурна-мастацкіх і рэкламных выданняў. Тут выконваецца ўвесь спектр рэдакцыйна-выдавецкіх паслуг: можна хутка і якасна стварыць альбом, буклет, камплект паштовак, календароў — усе віды друкарскай прадукцыі ад мастацкага афармлення да тыражу.

За час існавання выдавецтва дызайнерамі распрацаваны і выдадзены дзесяткі буклетаў, ганаровых грамат і іншай падобнай прадукцыі, сярод якой — ганаровыя граматы для МУС нашай краіны і Беларускага дзяржаўнага канцэрна “Белэнерга”, невялікі альбом “Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт”, серыя буклетаў “Пагранічныя войскі Рэспублікі Беларусь”…

У 1989 годзе сумесна з выдавецтвам “Універсітэцкае” і пры садзейнічанні прэс-службы выканаўчага сакратарыята СНД падрыхтавана серыя “Краіны Еўропы”, першая кніга якой — “Беларусь” — за дзесяць гадоў вытрымала шэсць выданняў са змяненнямі і дапаўненнямі. Па сённяшні час альбом карыстаецца попытам у чытачоў і з’яўляецца своеасаблівай хронікай жыцця нашай краіны.

Па ініцыятыве выдавецтва “Юнацтва” падрыхтавана і выдадзена першая кніга серыі “Існасць Беларусі” “Мінск старажытны і малады”, якая перавыдавалася чатыры разы і карыстаецца попытам у чытачоў. Гэта серыя прадоўжана альбомамі пра гарады Пінск, Баранавічы, Мазыр, Магілёў. Рыхтуюцца кнігі пра Гомель, Рэчыцу, Смалявічы, Стоўбцы, Слуцк, Заслаўе.

У серыі “Помнік. Памятник. Монумент” выйшлі дзве кнігі “Мінск. Верхні горад” і “Мінск. Плошча Перамогі”, у працэсе рэдакцыйна-выдавецкай падрыхтоўкі — “Мінск. Праспект Незалежнасці”, “Мінск. Лошыцкі парк”, “Мазыр. Замкавая гара”, “Мінск. Пішчалаўскі замак”.

Але больш за ўсё пабачыла свет кніг па ваенна-патрыятычным выхаванні моладзі. Рыхтаваліся яны сумесна з ветэранамі-пагранічнікамі, ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны і вайны ў Афганістане. Гэта — альбомы ў серыі “На праве памяці”: “Іх лёс — граніца”, “Палаючая граніца”, “Заставы ў агні”, “Грані мужнасці”, “Святло вечнасці” ды іншыя, дзесяткі кніг у серыі “Ветэраны-пагранічнікі — моладзі”: “Партызанскія світанкі”, “Справа ўсяго жыцця”, “Пошук”, “Плячо таварыша”, дзіцячая энцыклапедыя “Ваяры Белай Русі” і юбілейны альбом “Пагранічная служба Рэспублікі Беларусь”…

Падрыхтавана першая кніга з серыі “Піраміда” — энцыклапедычныя слоўнікі для дзяцей, у якіх вядзецца гутарка пра прыгожы свет прыроды, раслін і жывёл. Маленькі чытач убачыць не толькі больш як тысячу маляўнічых фотаілюстрацый жывёл і раслін, але і даведаецца, як яны называюцца на англійскай, рускай, а таксама беларускай, нямецкай, французскай і казахскай мовах. Чатыры тэматычныя слоўнікі “Прырода” — англа-руска-беларускі, англа-руска-нямецкі, англа-руска-французскі і англа-руска-казахскі выдаюцца разам у адзін прагон друкарскай машыны. Развіццё гэтай серыі плануецца шляхам выкарыстання іншых моў, распрацоўваюцца таксама іншыя серыі слоўнікаў — “Горад”, “Вёска”, “Космас” і г.д.



Знайсці сваю нішу на насычаным кніжным рынку, прапанаваць чытачу новыя тэмы, новых аўтараў надзвычай складана, падкрэслівае Валерый Рыгоравіч, але выдавецтва імкнецца гэта рабіць, працуе над серыямі невялікіх па аб’ёме кніг. Так, у серыі “Майстры кніжнай графікі” рыхтуюцца да выдання альбомы “Аляксандр Тарасевіч”, “Андрэй Ганчароў”, “Густаў Дарэ”, распрацоўваецца серыя фотакніг для дзяцей “Казкі дзядулі Леса”, “Цуды лебядзінага возера”, “Тайны палескіх балот”, “Скарбы Белавежскай пушчы”… Упершыню выдавецтвам перакладзена на рускую мову з польскай і падрыхтавана да выдання кніга Яна Баршчэўскага “Шляхтич Завальня, или Беларусь в фантастических рассказах”. Яна карыстаецца попытам на беларускай мове, а на рускай чытацкая аўдыторыя значна пашыраецца, мяркуецца, што выданне стане своеасаблівым бестселерам у рускамоўнага чытача.

У Міжнародным цэнтры культуры кнігі працуюць над выданнямі, якія маглі б пазмагацца за кніжны рынак СНД, і спадзяюцца, што многія кнігі будуць мець камерцыйны поспех. У серыі “Краіны свету” рыхтуюцца да друку альбомы пра Казахстан і Беларусь, збіраюцца матэрыялы для альбомаў пра Арменію, Расію, Украіну, Літву, Польшчу, камплекты паштовак пра гарады і краіны свету, альбом-альманах “Культура кнігі Беларусі XI — XXI стагоддзяў”, а таксама серыя дапаможнікаў для сярэдняй школы “Старажытны свет у ілюстрацыях” і “Сярэднявечча ў ілюстрацыях”.

На сённяшні дзень у архівах выдавецтва знаходзіцца вялікая колькасць каляровых фатаграфій і слайдаў — своеасаблівая энцыклапедыя па гісторыі, культуры, палітыцы, эканоміцы і прыродзе як Беларусі, так і іншых краін свету.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымку: Валерый Мішчанка.

Фота аўтара

Сёння ўвечары будзе праходзіць шостая ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання пераможцаў Нацыянальнага тэлевізійнага конкурсу "Тэлевяршыня".
Як вядома, шматлікія творчыя конкурсы даюць магчымасць прааналізаваць, у якім кірунку развіваецца названая сфера. Наша гутарка з намеснікам міністра інфармацыі Беларусі Аляксандрам СЛАБАДЧУКОМ — пра тое новае, што з'явілася на тэлеэкранах у 2009-м, і чым "Тэлевяршыня" 2010 года адрозніваецца ад аднайменнага мінулагодняга конкурсу.

# Аляксандр Слабадчук: «Тэлевяршыня» — агляд найлепшага айчыннага вопыту»



— Нагадаю, галоўная мэта конкурсу "Тэлевяршыня" — садзейнічаць развіццю нацыянальнага тэлебачання. А значыць, спрыяць фарміраванню паўнацэннай інфармацыйнай прасторы Рэспублікі Беларусь, павышаць прафесійны ўзровень журналістаў, аператараў, рэжысёраў і работнікаў іншых прафесій, занятых у вытворчасці тэлепраграм. Гэта трывалая ўжо тэндэнцыя — на конкурс накіроўваюцца ўсё новыя і найбольш паспяховыя праекты. Таму "Тэлевяршыня" сапраўды можа ўспрымацца як агляд найлепшага айчыннага вопыту.

У 2009 годзе ў жыцці тэлебачання адбылося нямала новых, пазітыўных падзей. Найперш варта адзначыць з'яўленне шэрага новых тэлеканалаў, галоўным чынам рэгіянальных. У ліку пачаткоўцаў беларускага тэлевізійнага рынку можна назваць тэлеканал "+TV", рэгіянальныя тэлеканалы "Сфера", "Жэст ТБ" (тэлеканал для глухіх людзей), дзіцячы тэлеканал "Сонейка", "TV Ray", "Тэлевеста", "Старыя дарогі ТБ", "Гомель ТБ", "Наш аб'ектыў" (г.Бяроза, Брэсцкая вобл.). Правеў рэбрэндынг "Першы музычны" тэлеканал, які атрымаў назву "ВТБ" і пераарыентаваўся на кантэнт, характэрны для сямейных тэлеканалаў.

Акрамя таго, у 2009 годзе з'явілася мноства новых і цікавых тэлепраектаў. Больш за ўсё новых ініцыятыў рэалізавана Белтэлерадыёкампаніяй, Агульнанацыянальным і Сталічным тэлебачаннем. Да прыкладу, Сталічнае тэлебачанне падарыла гледачу цыкл дакументальных фільмаў "Вайна. Вядомае. Невядомае", а АНТ — цыкл "Кінаметры вайны". Даволі шмат з'явілася новых праектаў і на рэгіянальным тэлебачанні, асабліва прызначаных для моладзі. Адным словам, нягледзячы на ўсе цяжкасці, 2009 год аказаўся багатым на навінкі.

Між іншым, аргкамітэт і журы конкурсу "Тэлевяршыня" ў гэтым годзе прынялі рашэнне пра ўвядзенне ў праграму конкурсу новай намінацыі — "лепшы тэлевізійны прадзюсер". І, наколькі можна меркаваць па колькасці заявак, пададзеных у намінацыю, гэтая сфера развіваецца ў Беларусі дынамічна.

— У якім жа напрамку развіваецца сёння само тэлебачанне? Перадачы якога характару становяцца найбольш запатрабаванымі?

— Не скажу нічога арыгінальнага, зазначыўшы, што тэлебачанне — адна з найбольш складаных сфер творчай дзейнасці, якая развіваецца вельмі імкліва. Таму шмат якія змяненні ў яго дзейнасці цесна знітаваныя са з'яўленнем новых тэхналогій. Як вядома, цяпер выконваецца Дзяржаўная праграма ўкаранення лічбавага тэлевізійнага і радыёвяшчання ў Рэспубліцы Беларусь да 2015 года. Развіваюцца IP-тэхналогіі. І праца тэлеканалаў становіцца ўсё больш цесна звязанай з тэмай распаўсюджвання іх інфармацыйнага прадукту праз сетку Інтэрнэт.

Паралельна з гэтымі тэхнічнымі інавацыямі змяняюцца і запыты беларускіх тэлегледачоў. Увесь час расце цікавасць да праграм, якія маюць непасрэднае практычнае значэнне, дазваляюць разабрацца ва ўсіх акалічнасцях і тонкасцях працэсаў, што адбываюцца ў беларускім грамадстве і ў свеце. Гэта найперш інфармацыйна-аналітычныя праграмы, навіны. У сувязі з сусветным фінансава-эканамічным крызісам па-ранейшаму вялікая цікавасць тэлегледачоў да перадач, якія асвятляюць пытанні эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь. Нязменнаю застаецца і цікавасць грамадзян да культурна-забаўляльных праектаў.

— Як цяпер улічваецца рэйтынг перадач пры складанні тэлесеткі і ў вызначэнні для іх эфірнага часу? Часта атрымліваецца так, што ў прайм-тайме – найчасцей серыялы ці баевікі, а перадачы, якія заклікаюць да роздуму, ідуць удзень, у той час, калі патэнцыяльныя гледачы на працы. Чаму так? У прайм-тайм выкарыстоўваецца і найбольш рэкламы, што раздражняе жыхароў і стварае ўражанне, нібыта акрамя як рэкламныя ролі нам больш няма чаго і паказваць...

— Зразумела, кожны тэлеканал самастойна вызначае сваю рэдакцыйную палітыку. Але тэлеканалы, якія з'яўляюцца суб'ектамі гаспадарання, павінны ў сваёй працы улічваць эканамічную мэтазгоднасць. Рэклама для іх — галоўная крыніца прыбыткаў. Са сродкаў, атрыманых ад размяшчэння рэкламы, закупляюцца замежныя праграмы, ствараецца ўласны тэлепрадукт, набываецца новае абсталяванне, выплачваюцца заробкі. Гэта, калі так можна сказаць, "інфармацыйныя прадпрыемствы". Усё гэта мае асаблівае значэнне ў сучасных складаных эканамічных умовах. Тым больш, што адна з галоўных задач, пастаўленых перад тэлеканаламі, — выхад на самафінансаванне.

У той жа час, безумоўна, тэлеканалы не могуць разглядацца як звычайныя камерцыйныя кампаніі. Да зместу іх дзейнасці павінны прад'яўляцца дакладныя патрабаванні: увесь час павялічваць якасць сваёй прадукцыі, выконваць заканадаўства краіны, спрыяць умацаванню традыцыйных каштоўнасцей у беларускім грамадстве, духоўнаму развіццю нашых грамадзян. На мой погляд, айчынныя тэлеканалы з гэтымі задачамі спраўляюцца.

— У барацьбе за рэйтынг і гледача якія нацыянальныя тэлеканалы стабільна ўтрымліваюць першынство?

— Мне здаецца, пытанне не ў перамозе. Бо кожны ТБ-канал мае сваю глядацкую аўдыторыю. Скажу толькі, што тыя тэлеканалы, якія ўжо даволі даўно прызнаны тэлеаўдыторыяй нашай краіны найбольш аўтарытэтнымі — Першы канал, "АНТ" і "СТБ" — працягваюць заставацца найбольш папулярнымі.

Але, калі разглядаць гэта пытанне шырэй, у параўнанні з расійскімі ці нават еўрапейскімі тэлепраграмамі, то нам, безумоўна, ёсць над чым працаваць. Асабліва гэта тычыцца ўласнага тэлевізійнага прадукту ў эфіры, а таксама крэатыўнасці, навізны ідэй, добрых праграм. Бо сёння, дзякуючы развіццю ў краіне новых інфармацыйных тэлекамунікацый, напрыклад, кабельнага і спадарожнікавага тэлебачання, "лічбы", IPTV, у нашых грамадзян ёсць магчымасць бачыць тэлевізійны прадукт іншых краін, вядомых сусветных тэлерадыёкампаній і параўноўваць. Таму мы не павінны адставаць у сваім, скажам так, тэлевізійным развіцці.

На конкурсе "Тэлевяршыня" мы падводзім вынікі дзейнасці тэлестудый дзяржаўнай і недзяржаўнай формаў уласнасці. Бачым, чаго мы за год дасягнулі. І трэба сказаць, што лепшыя тэлевізійныя праекты, якія адпавядаюць сучаснаму ўзроўню, заслугоўваюць таго, каб пра гэта ведалі не толькі спецыялісты тэлевізійнага рамяства, а самае галоўнае — людзі, грамадскасць.

Каб менавіта па гэтых праектах, як узорах вяшчання, вучыліся нашы студэнты, рэгіянальныя тэлекампаніі, каб нас маглі заўважыць і па-за межамі краіны.

Ва ўсякім спаборніцтве, ці як цяпер гавораць, у канкурэнцыі развіваецца сучасны тэлевізійны рынак, прычым, ва ўсім свеце. І беларуская тэлеіндустрыя з'яўляецца яго часткай. Гэта трэба помніць і абавязкова ўлічваць. Тады і рэйтынг нашых нацыянальных тэлеканалаў будзе на высокім узроўні. Хачу падкрэсліць, што рэйтынг "АНТ" — вельмі вялікі. І ў першую чаргу сярод моладзі. Сталічнае тэлебачанне не адстае. Што да Першага канала Белтэлерадыёкампаніі, то на ім выходзяць тэлепраграмы, асабліва інфармацыйнага, інфармацыйна-аналітычнага складу, з класічнымі стандартамі, якіх прытрымліваецца любая сусветная тэлекампанія.

Сёння пытанне заключаецца ў іншым — хто аператыўней падасць навіну ў сваім відэарадзе і адкажа ў поўным аб'ёме на пытанні "што?", "дзе?","калі?".

А для гэтага патрэбны сучасныя тэлевізійныя магутнасці, кадры, карпункты, як мага больш выхадаў у эфір уласнага прадукту тэлеканала і гэтак далей. Без гэтага разлічваць на высокі рэйтынг праграм не даводзіцца.

Ды, калі закранулі такую тэму, шчыра прызнаюся: я не кожнаму даследаванню давяраю. Бо, як кажуць, няўзброеным вокам відно, што часам у некаторых так званых "даследаваннях" больш грошы "працуюць", чым аб'ектыўнасць.

— Усё часцей у якасці вядучых (асабліва ж забаўляльных шоў) выступаюць не журналісты, а спевакі, артысты-пачаткоўцы, якія не ведаюць "прафесійнай кухні". Ці не на шкоду гэта журналістыцы, якую ўсё часцей папракаюць у павярхоўнасці і некампетэнтнасці?

— Наўрад ці тут можна гаварыць нешта адназначна. Відавочна, што праца на тэлебачанні складаная і патрабуе спецыялізаваных ведаў. Адпаведна, і адмысловай прафесійнай падрыхтоўкі. З іншага боку, праца тэлебачання ўсё ў большай ступені заснаваная на прынцыпе падзелу. Патлумачу. Тэхнічныя службы робяць сваю справу, і трэба сказаць, досыць прафесійна. Вызваляючы такім чынам вядучых тых жа шоў ад тых клопатаў, у якіх яны, можа, не зусім дасведчаныя. Але гэта дае магчымасць вядучым сканцэнтравацца на самім працэсе, як кажуць, быць насамрэч творчымі асобамі.

Таму, калі гаварыць менавіта пра забаўляльныя перадачы, то тут выкарыстанне не журналістаў-прафесіяналаў, а акцёраў і іншых майстроў забаўляльнай сферы можа быць якраз больш апраўданым. Яны лепш ведаюць сваю "кухню". Варта разумець, што журналісцкая адукацыя фактычна не дае падрыхтоўку, каб быць, напрыклад, вядучым забаўляльнага шоў. Гэта патрабуе адмысловых асабістых якасцяў, умення трымаць аўдыторыю, мець шырокі кругагляд, каб з веданнем справы гаварыць з публікай і г.д. Некаторыя з гэтых навыкаў набыць складаней, чым атрымаць базавыя веды па журналістыцы.

Падрыхтоўка сучасных тэлепраектаў патрабуе рэзкага павышэння кваліфікацыі, прычым усіх спецыялістаў, у іх задзейнічаных. Толькі тады атрымліваецца якасны прадукт. Гэта варта разумець і ўлічваць.

— Раней тэлебачанне лічылася ці не самым аператыўным сродкам масавай інфармацыі. Цяпер з ім можа паспрачацца Інтэрнэт, які прадастаўляе самую злабадзённую інфармацыю і з розных крыніц. Апошнім часам усё часцей гавораць пра неабходнасць закона, які будзе рэгламентаваць дзейнасць інтэрнэт-рэсурсаў. Калі ён можа з'явіцца?

— Нагадаю, сёння дзейнічае новы Закон Рэспублікі Беларусь "Аб сродках масавай інфармацыі". Сетка Інтэрнэт — вельмі спецыфічная. У пытаннях яе рэгулявання ёсць вялікая колькасць як тэхнічных, так і юрыдычных нюансаў. Дадатковае рэгуляванне дзейнасці інтэрнэт-рэсурсаў (напрыклад, вызначэнне паняцця інтэрнэт-СМІ і рэгулявання парадку іх дзейнасці) можа быць уведзена Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, але толькі ў тым выпадку, калі гэта будзе прызнана неабходным у выніку ўсебаковага абмеркавання, у тым ліку — з удзелам прадстаўнікоў грамадскасці.

Агульныя палажэнні дзейнасці ў сеціве цяпер замацаваны Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 60 "Аб мерах па ўдасканаленні выкарыстання нацыянальнага сегмента сеткі Інтэрнэт", прынятым 1 лютага 2010 г.

Гэты дакумент накіраваны як на абарону інтарэсаў грамадзян, грамадства і дзяржавы ў інфармацыйнай сферы, павышэнне якасці і зніжэння кошту інтэрнэт-паслуг, так і для забеспячэння далейшага развіцця менавіта нацыянальнага сегмента сеткі Інтэрнэт.

Ва ўказе ўпершыню змешчаны шэраг патрабаванняў, заклікаючых зрабіць інфармацыю пра дзяржаўныя органы і іншыя дзяржаўныя арганізацыі больш даступнай.

Шэраг палажэнняў указа накіраваны на абарону аўтарскіх правоў у сетцы Інтэрнэт, рэгулююць парадак аказання паслуг праз сетку Інтэрнэт, прадугледжваюцца пытанні дзяржаўнай рэгістрацыі гэтых сетак, сістэм і рэсурсаў ды іншыя.

Між іншым, з дакументам можна азнаёміцца больш падрабязна. Ён апублікаваны ў СМІ, а таксама на сайтах дзяржаўных органаў.

Гутарыла
Ірына ТУЛУПАВА

Хойнікі-2010

# Ганарыцца ёсць чым

Дзень беларускага пісьменства адбудзецца сёлета на радзіме Івана Мележа — на Хойнічыне. Гэта таксама радзіма Міколы Мятліцкага, Алы Канапелькі, Барыса Сачанкі, іншых вядомых пісьменнікаў. І мая бацькаўшчына. Калі ўведаў, што ў Хойніках адбудзецца велічнае свята, узрадаваўся. Мне вельмі захацелася напісаць кнігу пра сваю малую радзіму.

Размова са старшынёй Хойніцкага райвыканкама Аляксандрам Бічанам была доўгай і цікавай. Урэшце, старшыня даў згоду на стварэнне задуманай кнігі. Папрацаваўшы з тыдзень у Хойніцкім краязнаўчым музеі, ехаў дахаты з трывогай і вялікім сумненнем — вельмі ўжо мала матэрыялу знайшлося там. Дый хойніцкая кніга "Памяць" мела даволі невялікі гістарычны артыкул. Прапанаваная назва "Хойнічына: легенды, падзеі, людзі" дала напрамак у пошуку патрэбных матэрыялаў. Даволі значную дапамогу атрымаў ад настаўніка гісторыі Хойніцкай СШ № 3 Сяргея Бельскага, даследчыка дарэвалюцыйнай хойніцкай зямлі.

Пры вывучэнні гістарычных звестак пакрыху стала выяўляцца гісторыя гэтых мясцін. У крыніцах Канстанціна Барвоваароднага гаворыцца пра тое, што ў той час князі Алег і Ігар, а таксама княгіня Вольга, збіралі тут даніну. І замак у Хойніках існаваў, які пабудавалі ў XVI ст. князі Вішнявецкія. Засталіся ад тых часін і прыгожыя паданні.

Быццам з небыцця вырастае велічная постаць вялікага абознага Вялікага княства Літоўскага Караля Прозара. Зараз гэтая гістарычна значная асоба амаль невядомая. А калісьці, на мяжы XVIII і XIX стст., ён быў вядомы не толькі як багаты чалавек (яму належалі ледзь не ўвесь Хойніцкі раён і палова Брагінскага). Гэта быў адзін з вялікіх патрыётаў сваёй Радзімы, не шкадаваў для барацьбы за незалежнасць не толькі сваіх сродкаў, але і жыцця. Прозар быў сябрам Тадэвуша Касцюшкі.

Шмат цікавых асоб пабывала на Хойнічыне. Па асобных згадках бывалі тут Гоголь і Паустоўскі. Многія ведаюць знакаміты раман Багамолава "В августе сорок четвёртого". Там, а таксама ў аднайменнай кінастужцы, паказана бліскучая аперацыя па абясшкоджванні нямецкіх дыверсантаў супрацоўнікамі савецкай контрразведкі СМЕРШ. Дык вось, кіраваў СМЕРШам генерал-лейтэнант Мікалай Селіванаўскі, які нарадзіўся і вырас у Хойніках.

Складаным для распаведа аказаўся і даваенны час. На дзіва мала захавалася дакументаў. Затое якімі дарагімі былі знаходкі! Прыемна была даведацца, што ў 1930 годзе ў раёне з шэрагам пісьменнікаў быў Янка Купала. 12 лютага 1938-га ў раённай газеце "Ленінскі сцяг" надрукавалі першы верш выпускніка беларускай школы Івана Мележа пад назвай "Калісь на Арбаце".

Мірны пасляваенны час быў самым плённым у сэнсе выяўлення навуковых і творчых талентаў. Толькі адна Хойніцкая СШ № 2 мае ажно трох членаў-карэспандэнтаў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Леанід Калюхан — адзін з першых у Беларусі вучоных-ядзершчыкаў. А як ярка зіхацела на сцэне Купалаўскага тэатра народная артыстка Беларусі Раіса Кашэльнікава, родам з Баршчоўкі! А мноства кінастужак кінарэжысёра, народнага артыста Віктара Дашука, хайнічаніна! Іх многа, хойніцкіх зорак, на небасхіле Беларусі.

Дзмітрый ВІНАГРАДАЎ

№ 15 16 красавіка 2010 г. ЛіМ

# Фантасты і фантазёры

## «Круглы стол» секцыі прыгод і фантастыкі Саюза пісьменнікаў Беларусі

Так склалася, што ў беларускай літаратуры ў жанрах прыгод і фантастыкі працавала адносна нямнога аўтараў. Але лепшыя творы (скажам, "Лабірынты" Вацлава Ластоўскага, раманы Уладзіміра Караткевіча) карысталіся і карыстаюцца вялікай папулярнасцю. Можна нават гаварыць аб тым, што фантастыка і містыка – жанры надзвычай арганічныя для беларусаў, бо ў нас да гэтага часу захоўваецца жывая фальклорная традыцыя, якая ў краінах захаду перарвалася яшчэ ў XIX стагоддзі.

Варта прыгадаць і спрэчкі адносна лёсу навуковай фантастыкі. Быццам сёння тэхнічныя вынаходніцтвы ўваходзяць ва ўжытак настолькі хутка, што фантасты проста "адстаюць" ад прагрэсу. Але класікі фантастыкі (скажам, Станіслаў Лем і Іван Яфрэмаў) застаюцца класікамі, нягледзячы на тое, што іх творы ў плане "тэхнічнага абсталявання" непапраўна састарэлі. Мабыць, не смеласць навукова-тэхнічнага прадбачання робіць навуковую фантастыку запатрабаванай…

Не так даўно адбыўся "круглы стол" з удзелам членаў секцыі прыгод і фантастыкі СПБ. Вяла яго Ірына ШАЎЛЯКОВА. Асноўнай праблемай, якая абмяркоўвалася, стала вызначэнне месца і ролі фантастыкі ў сучасным літаратурным працэсе Беларусі.

Ірына ШАЎЛЯКОВА, літаратуразнаўца, крытык, кандыдат філалагічных навук:

— Сёння мы паспрабуем вызначыць сацыякультурныя перспектывы беларускай фантастыкі, акрэсліць кола аўтараў, якія стала працуюць у гэтым жанры. Паразважаем наконт жыццёвасці, жыццяздольнасці фантастыкі як сегмента мастацкай літаратуры. Варта "прыглядзецца" і да чытача — прыхільніка фантастыкі, вызначыць, што ж гэты чытач чакае ад фантастычнай літаратуры? Ведаў? Нечаканых ідэй? Проста магчымасці добра правесці час?

Уладзімір КУЛІЧЭНКА, старшыня секцыі прыгод і фантастыкі Саюза пісьменнікаў Беларусі, пісьменнік-фантаст:

— Пісьменнік, калі піша, нейкім чынам уяўляе свайго будучага чытача. Зразумела, і я, калі пішу, думаю пра тое, хто мой чытач. Інтэрнэт-рэсурсы сёння дазваляюць нам скласці пэўнае ўражанне аб узросце, сацыяльным становішчы, адукацыі, інтарэсах тых, хто непасрэдна чытае нашы творы. Маюцца на ўвазе не інтэрнэт-чытачы, а людзі, якія набываюць кнігі і абмяркоўваюць іх, раяць адзін аднаму, карыстаючыся сеціўнай прасторай.

Сярод іх, дарэчы, ёсць асобы з выразнымі здольнасцямі да літаратурнай крытыкі. Ёсць і прафесійныя крытыкі. Яны, дарэчы, задаюцца наступным пытаннем: а хто такі сённяшні пісьменнік-фантаст? Урэшце ўзнікла азначэнне: пісьменнік — той, у каго выйшла не менш трох кніг, прычым выдадзены яны не за кошт самога аўтара.

Як паказваюць назіранні за тымі ж інтэрнэт-форумамі, прыхільнікаў фантастыкі, большасць нашых чытачоў — мужчыны ва ўзросце ад 18 да 35 гадоў. Але тут варта зрабіць агаворку: Вольга Грамыка, вядомы аўтар, што піша ў жанры фэнтэзі, карыстаецца велізарнай папулярнасцю якраз у жаночай аўдыторыі.

Алесь АЛЯШКЕВІЧ, пісьменнік-фантаст:

— Я працую ў школе, таму добра ведаю нашых чытачоў — гэта дзеці і моладзь, бо ў іх ёсць самае галоўнае — мара. Менавіта яны чытаюць фантастыку, фэнтэзі і казкі. Сам я заўсёды свае творы чытаю сваім вучням. Яны мае галоўныя крытыкі.

Можа, каму-небудзь падасца дзіўным, але сёння чытаюць фантастыку і фэнтэзі і маладыя настаўнікі. І зразумела, моладзь, студэнты. Гэта тая аўдыторыя, якая ў нас будзе заўсёды.

На сённяшні дзень у нас востра стаіць іншая праблема. Я жыву і працую ў правінцыі. Нашы школы і бібліятэкі амаль не атрымліваюць мастацкай літаратуры. Кніжныя навінкі да нас проста не даходзяць. Тое ж тычыцца і літаратурных выданняў. Вось гэта праблема! Правінцыя адарваная ад сучаснага літаратурнага працэсу. Пісьменнікі купляюць уласныя кнігі і дораць іх школам, каб хоць трошкі выправіць сітуацыю.

Яўген ДРОЗД, пісьменнік-фантаст:

— Пераважная большасць маіх чытачоў — людзі ад 20 да 40 гадоў, у асноўным мужчыны. Да такога чытача я свядома звяртаюся. Але сутыкаюся з пэўным парадоксам. Я пісаў для гэтай чытацкай аўдыторыі тады, калі і сам быў у такім жа ўзросце. Але тады нас не друкавалі, з фантастыкай у нас у савецкія часы было складана. Я працягваю пісаць для той жа аўдыторыі. Але мае равеснікі пасталелі. Цяпер пішу для новай маладой аўдыторыі — для людзей, якім 20-40 сёння. Ці знайду я водгук у іх — пакажа час.

І. Ш.: Ці дастаткова вам тых чытачоў, якія ў вас ёсць? Чытацкая аўдыторыя імкліва звужаецца. Аўдыторыя ж беларускай фантастыкі можа наогул ператварыцца ў фантом…

У. К:

— У мяне няма адчування таго, што наша аўдыторыя звужаецца. Маю на ўвазе прыхільнікаў менавіта фантастыкі. Яўген Дрозд у сваім інтэрв'ю для "АиФ" узгадваў, што сёння назіраецца сапраўдны бум фантастыкі як у ЗША, так і ў краінах былога СССР. Менавіта фантастычныя творы выходзяць шматтысячнымі тыражамі, вытрымліваюць некалькі перавыданняў за кароткі тэрмін. Да таго ж толькі ў мінулым годзе з'явілася каля тысячы новых назваў рускамоўных кніг. З іх 115 — аўтарскія дэбюты. Зразумела, што ў першую чаргу гэта прадукцыя маскоўскіх выдавецтваў.

Але ў мінулым годзе і мы пачалі адпаведную акцыю: летась выйшла 12 кніг нашых аўтараў, якія працуюць у жанры фантастыкі. І выпуск працягваецца.

Аляксандр СІЛЕЦКІ, пісьменнік-фантаст:

— Звычайна спасылаюцца на тое, што ў Расіі чытацкая аўдыторыя вялікая. Іх тыражы адпавядаюць колькасці патэнцыйных чытачоў. Таму не будзем спасылацца на Расію. Возьмем Нарвегію, дзе насельніцтва менш, чым у Беларусі. У Нарвегіі сёння актыўна працуе каля чатырохсот пісьменнікаў. Штогод выходзіць каля трохсот новых кніг розных жанраў. Пры гэтым адносна малая аўдыторыя нарвежскіх чытачоў забяспечвае шматтысячныя тыражы. Скажам, адзін з апошніх раманаў Лары Крысціянса разышоўся ў Нарвегіі тыражом у 300 тысяч экземпляраў. А раман вялікі, на 800 старонак, і складаны, што ніяк, здавалася б, не спрыяе такому шырокаму попыту. Цяпер гэты твор перакладзены на многія мовы свету.

У той жа Нарвегіі каля 70 актыўных фантастаў. У нашай краіне ці знойдзецца столькі. Да таго ж, калі тыя фантасты, што ў нас ёсць на сённяшні дзень, пачалі б рыхтаваць па адной кнізе ў год, выдавецтвы не гатовыя выпускаць такую колькасць твораў, не кажучы ўжо пра выпуск іх буйнымі тыражамі. Пра ганарары няма чаго і казаць. Заўважым, гэта — творы, якія фактычна арыентаваныя на камерцыйны поспех.

І. Ш.:

— Бясспрэчна, вельмі зручна спасылацца на вопыт іншых краін. Тут ёсць нагода пакпіць са сваіх. Але ад вас саміх, ад прадстаўнікоў секцыі прыгод і фантастыкі таксама нешта залежыць. Што асабісты вы робіце для паляпшэння сітуацыі?



На здымку: Уладзімір Кулічэнка, Алесь Аляшкевіч і Аляксандр Сілецкі падчас "круглага стала".

У. К.:

— Я ведаю, што ў хуткім часе кіраўніцтва СПБ будзе сустракацца з міністрам культуры, і адным з пытанняў будзе якраз забеспячэнне кнігамі бібліятэк. У тым ліку і кнігамі нашай серыі. Зразумела, для іх, публічных бібліятэк, павінны выдзяляцца сродкі на пакупку сучаснай літаратуры. Гэта да пытання, узнятага Алесем Аляшкевічам.

А. С.:

— Вы спыніце любога чалавека на вуліцы і спытайце, якая кніга за апошнія дзесяць гадоў яго сапраўды натхніла, які аўтар найбольш уразіў. Ніхто вам не назаве ні беларускага аўтара, ні кнігі. Выдаваць выдаюць, але наколькі гэта чытаецца? Рэклама новых твораў – вось тая праблема, якую сапраўды трэба неадкладна вырашаць. Сёння і фантастыцы патрабуецца рэклама, хаця гэта надзвычай канкурэнтаздольны жанр.

І. Ш.:

— У чым жа заключаецца канкурэнтаздольнасць фантастычнай літаратуры?

А. С.:

— Фантастыка павінна быць цікавай па змесце, несці арыгінальную думку. Фантастыка таксама павінна быць і пазнавальнай, інакш кажучы, несці чытачу новыя звесткі пра свет і соцыум. А таксама нечаканай. У адрозненне ад бытапісальніцтва, фантастыка павінна быць сапраўды інтэлектуальнай. І што не менш важна, яна павінна быць добра напісанай. Вось галоўныя крытэрыі сапраўднай фантастыкі.

І. Ш.:

— Але гэтыя ж самыя крытэрыі можна прымяніць да твораў іншых жанраў.

А. С.:

— Так. Усё названае неабходна любому літаратурнаму твору, каб мець поспех.

І. Ш.:

— Хацелася б пачуць развагі наконт таго, якімі вам бачацца канкрэтныя эстэтычныя набыткі фантастычнай літаратуры сённяшняй Беларусі побач з набыткамі той жа сацыяльна-псіхалагічнай, гістарычнай прозы і іншых плыняў?

Я. Д.:

— Трэба вызначыцца з тэрмінамі. Ёсць навуковая фантастыка, ёсць фэнтэзі і інш. Фэнтэзі звяртаецца ў першую чаргу да архетыпаў нашай свядомасці, да міфалагічных вобразаў і сюжэтаў — кштальту бясконцай барацьбы Дабра і Зла. У гэтым плане фэнтэзі нярэдка выцякае з нацыянальнай культуры. Але ў кожнай маштабнай культурнай з'яве ёсць нацыянальны элемент, а ёсць — касмапалітычны.

Калі ж браць навуковую фантастыку, то ў яе творах абавязкова прэзентуецца нешта новае. Дарэчы, у савецкія часы, калі прагрэс быў усё ж не такі хуткі, як цяпер, развівалася так званая "фантастыка бліжняга прыцэлу". Дазваляўся, скажам, радыёкіруемы трактар, а ўсё астатняе павінна было быць пазнавальным.

Фантастыка павінна пашыраць далягляды. Каб пасля прачытання кнігі ў чытача змяняўся погляд на свет, з'яўлялася жаданне зірнуць на звыклыя з'явы і падзеі больш шырока. І гэта, мабыць, асноўны мастацкі здабытак удалых твораў фантастычнага жанру.

І. Ш.:

— На ваш погляд, з розных адгалінаванняў фантастыкі якія сёння найбольш запатрабаваныя?

Я. Д.:

— На дадзены момант, калі браць Беларусь, гэта, відаць, фэнтэзі.

І. Ш.:

— Ці ёсць у Беларусі крытыкі і літаратуразнаўцы, скіраваныя менавіта на асэнсаванне фантастычнай літаратуры?

У. К.:

— Не так даўно пайшоў з жыцця крытык, які сур'ёзна захапляўся фантастыкай — Станіслаў Саладоўнікаў. Ён зрабіў для папулярызацыі фантастыкі многа, меў вялікія планы наконт агляду нашай серыі, але, на жаль, ім не суджана было здзейсніцца. Ёсць і маладыя крытыкі, літаратуразнаўцы, у поле зроку якіх трапляе і фантастыка — сярод іншых жанраў. Праўда, у друку матэрыялы гэтай тэматыкі трапляюцца вельмі рэдка.

І. Ш.:

— Магчыма, адзін з перспектыўных шляхоў актуалізацыі фантастычнай літаратуры звязаны з засваеннем прасторы Інтэрнэт? Нават у эканамічным сэнсе заснаваць новае выданне больш складана, чым размясціць твор у Сеціве. Зразумела, гаворка ідзе не пра вялікія раманы, хутчэй, пра малыя эпічныя жанры. Ці звязваеце вы перспектывы сваёй творчасці і перспектывы беларускай фантастычнай літаратуры наогул з інтэрнэт-прасторай?

А. С.:

— Не. Сам па сабе Інтэрнэт справа добрая. І, думаю, у кожнага з нас там прадстаўлена хаця б некалькі твораў. Але для любога пісьменніка галоўнае – папяровыя выданні. І перспектыва развіцця тут можа быць толькі адна – некалькі дзесяткаў недзяржаўных выдавецтваў, якія канкурыравалі б паміж сабой.

І. Ш.:

— Даволі нязвыкла чуць гэта ад пісьменнікаў-фантастаў. Сёння многія творцы звязваюць поспех з размяшчэннем сваіх твораў у Сеціве.

А. С.:

— Цяжка ўявіць вядомага аўтара, які змяшчаў бы тэксты ў Інтэрнеце і ганарыўся тым, што яго старонкі часта наведваюць. Кожны чалавек, творы якога вісяць у Сеціве, марыць аб тым, каб убачыць сваё імя на вокладцы папяровай кнігі. Узгадаем таго ж Глухоўскага, які з інтэрнэт-прасторы перайшоў у кніжны фармат. Выйшла кніга, і пра яго пачалі гаварыць як пра пісьменніка.

У. К.:

— Да нас звяртаюцца многія аўтары, якія маюць па тры-чатыры аб'ёмныя раманы ў Інтэрнеце, дзесяткі тысяч чытачоў, але яны мараць пра выданне сваіх твораў на паперы. Таму для нашай секцыі галоўная задача — спрыяць выхаду кніг. Мінулагодняя серыя "Новая беларуская сучасная фантастыка" ўжо набыла шырокі розгалас, яна добра купляецца, асабліва ў Расіі, і яна працягваецца! У хуткім часе чакаюць выхаду яшчэ 9 кніг. Да таго ж творчасцю членаў нашай секцыі сур'ёзна зацікавілася адно з буйных камерцыйных выдавецтваў.

І. Ш.:

— Ці плануецца выданне часопіса альбо альманаха беларускай фантастыкі?

У. К.:

— Планы ёсць, але яны пакуль абмяркоўваюцца. Мы сутыкаемся з вялікай колькасцю спрэчных пытанняў. Магчыма, пра спецыялізаванае выданне казаць пакуль што ранавата.

І. Ш.:

— З чым, на ваш погляд, варта звязваць перспектывы развіцця беларускай фантастыкі?

У. К.:

— Справа ў тым, што кіраўніцтва СПБ разумее праблему прытоку маладых перспектыўных пісьменнікаў, у тым ліку і ў нашу секцыю. Менавіта з гэтай мэтай 1 студзеня гэтага года стартаваў конкурс "Новая беларуская фантастыка". Прычым у адпаведнасці з правіламі правядзення мы чакаем твораў ад аўтараў, якім менш за 30 гадоў. Маладых пісьменнікаў не хапае. Прычына ў першую чаргу эканамічная, бо з пісьменніцкай працы не пражывеш. Але сітуацыя змяняецца. Прэстыж пісьменніка ў грамадстве расце, вырастуць і ганарары.

Падрыхтавала Марыя ШАМЯКІНА

Фота Кастуся Дробава

У калаўроце часу, сярод шчаслівых імгненняў жыцця і далёкіх ад прываблівасці паўсядзённых штодзённых клопатаў рэдка каму ўдаецца заставацца па-сапраўднаму ўважлівым і шчырым у адносінах да тых, хто знаходзіцца ці знаходзіўся побач. Лідзіі Іванаўне Прашковіч (02.06.1939 — 19.09.2008), былому дэкану філалагічнага факультэта, загадчыку, дацэнту кафедры беларускай літаратуры Мазырскага педуніверсітэта імя Івана Шамякіна (раней педінстытут імя Н. Крупскай) пашчасціла яшчэ пры жыцці адчуць добрае стаўленне і заслужаную павагу да сябе з боку калег-аднадумцаў, настаўнікаў, студэнтаў.

# Пайсці, каб вярнуцца



Не ў меншай ступені доказным сведчаннем прызнання чалавечнасці, літаратуразнаўчага аўтарытэту, выкладчыцкай мудрасці і педагагічнага майстэрства гэтай годнай асобы стаў зборнік навуковых артыкулаў "Па праву вечнасці: Беларуская літаратура XIX — XX стагоддзяў у кантэксце часу і прасторы" (Мінск, "Лімарыус", 2009), укладальнікам і рэдактарам якога з'яўляецца выкладчык гэтай жа ўстановы адукацыі, вядомая даследчыца Т. Нуждзіна.

Ва ўступным слове "Умела шчодрай быць душа" Тамара Сяргееўна, верны сябар Лідзіі Іванаўны з часоў студэнцтва і на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў, так растлумачвае мэтазгоднасць дадзенага выдання: "Навуковыя публікацыі, сабраныя пад вокладкай кнігі, даюць уяўленне пра кола праблем, якімі цікавілася даследчыца, характарызуюць сістэму каштоўнасных арыенціраў, якімі кіравалася, выбудоўваючы сваю канцэпцыю прачытання літаратурнага працэсу, разумення месца і ролі ў гэтым працэсе такой творчай індывідуальнасці, якая істотна ўплывала на духоўнае жыццё нацыі, на фарміраванне яе інтэлектуальнага аблічча, эстэтычнай культуры". Пры бясспрэчнай значнасці ўсяго пералічанага аўтарам прадмовы не менш істотнай прывілеяй выдадзенага зборніка падаецца магчымасць далучэння чытачоў праз яго змест да душэўнай чысціні і жыццёвай мудрасці самой Лідзіі Іванаўны, якая сорак год свайго жыцця прысвяціла нялёгкай справе настаўніцтва, выкладчыцкай дзейнасці, не стамляючыся сцвярджаць: "…толькі дабро множыць дабро, …толькі самаахвярнасць здольная выклікаць у чалавека гатоўнасць адказваць тым жа, …колькі ты знойдзеш у сабе сілы дараваць крыўду, столькі разоў ты Чалавек".

Адметна, што пры звароце да біяграфіі, лістоў, напісанага тым або іншым мастаком слова, Л. Прашковіч таксама найперш цікавіў маральна-духоўны план спраўджвання творчай асобы, сцвярджэння ёю прынцыпаў нацыянальнай і чалавечай годнасці, унутранай свабоды, любові да іншых. Так, разважаючы пра панараму літаратурнага жыцця XIX стагоддзя на матэрыяле эпісталярнай і дакументальна-мемуарнай спадчыны і абапіраючыся пры гэтым на даследаванні вядомых айчынных вучоных А. Мальдзіса, У. Мархеля, Я. Янушкевіча, многіх іншых аўтараў, Л. Прашковіч падкрэслівае прамяністасць, аптымістычна-рамантычнае светаўспрыманне, дабрадзейнасць, высакароднасць філаматаў А. Міцкевіча, Я. Чачота, Т. Зана; адзначае ўлюбёнасць у хараство свету, экзатычнай і дзікай прыроды, здольнай выклікаць у душы "якасці незвычайны ўздым", І. Дамейкі, Ю. Кавалеўскага, Б. Дыбоўскага; выяўляе горкі сум з прычыны страты ці забыцця многіх літаратурных твораў і саміх аўтараў у няпростых умовах гістарычнага развіцця мастацтва слова на роднай мове. Даследчыца акцэнтуе ўвагу і на тым, наколькі істотна неспрыяльныя сацыяльныя і побытавыя варункі жыцця, няпростыя ўзаемаадносіны з кнігавыдаўцамі абцяжарвалі справу друкавання і распаўсюджвання твораў таго ж В. Дуніна-Марцінкевіча. У сувязі з гэтым становіцца цалкам зразумелым і апраўданым востры публіцыстычны запал некаторых лістоў дэмакрата Ф. Багушэвіча. Тымі ж фактарамі, па перакананні Л. Прашковіч, тлумачыцца сінтэз лірычнага і іранічна-сатырычнага ў дакументальна-мемуарнай прозе У. Сыракомлі.

Дэталёвае азнаямленне з эпісталярнай спадчынай Якуба Коласа дазваляе даследчыцы не толькі дакладна, у імёнах і фактах, перадаць атмасферу літаратурна-грамадскага жыцця першай паловы XX стагоддзя, але і падкрэсліць заўсёдную важнасць і нават першачарговасць для яго, як па-сапраўднаму народнага пісьменніка, паўсядзённых клопатаў пра людзей, памкнення падтрымаць таленавітых пачаткоўцаў. Пра выключную абаяльнасць і адданасць сям'і, мудрасць і чалавечнасць асобы Якуба Коласа сведчаць прыведзеныя аўтарам кнігі вытрымкі з лістоў песняра. Горыч расстанняў з блізкімі людзьмі, як і з роднай зямлёй у час вайны, адзінота апошніх гадоў жыцця поўняць душу Канстанціна Міхайлавіча пранізлівымі самотай і болем, тым вострым трагізмам светаадчування і безнадзейнасцю, якія не ўдаецца схаваць за іранічна-жартаўлівымі радкамі: "Прыйдзе ж ліха, дык нікога, // Хто б табе быў рад". Усцешвае тое, што змрочнасць адзіноты самой Лідзіі Іванаўны да апошніх дзён развейвалі верныя сябры, чулае цяпло дзяцей і заўсёдны клопат калег сям'і — Шаўчэнкаў, падрыхтаваны дзякуючы намаганням сваёй настаўніцы маладыя выкладчыкі і студэнты.

Пільная ўвага да эпісталярнай і наогул дакументальнай спадчыны вядомых творцаў адкрывала перад Л. Прашковіч багатыя магчымасці універсальнага сінкрэтычнага спасціжэння ў кожнай мастакоўскай асобе Пісьменніка і Грамадзяніна, яе філасофіі быцця і канцэпцыі творчасці. Найперш гэта тычыцца разгляду эпісталярна-мемуарнай прозы В. Быкава, якога "на працягу ўсяго жыцця хвалявалі пытанні творчага працэсу, псіхалогіі мастацкай творчасці", што потым нястомна выяўраліся ўласнай пісьменніцкай практыкай.

Шчырая ўдзячнасць Палессю, Мазыршчыне, куды з верасня 1968 года Лідзія Іванаўна пераехала на сталае месца працы, своеасабліва ўвасобілася ў цікавасці да творчасці В. Палтаран. Цікава, што ўсе, хто ведаў гэтую выключна добрую, заўжды адкрытую для дапамогі іншым інтэлігентную жанчыну, адзначалі яе духоўную роднасць з У. Караткевічам, а таксама заўважалі ў яе знешнасці, паводзінах, душы непадробнае падабенства да гераінь-землячак. З аўтарам "Дзівасіла", "Ключоў ад Сезама" іх яднае, кажучы словамі Г. Шупенькі, "самы найвялікшы талент — талент чалавечай дабрыні".

> Пра выключную абаяльнасць і адданасць сям'і, мудрасць і чалавечнасць асобы Якуба Коласа сведчаць прыведзеныя аўтарам кнігі вытрымкі з лістоў песняра. Горыч расстанняў з блізкімі людзьмі, як і з роднай зямлёй у час вайны, адзінота апошніх гадоў жыцця поўняць душу Канстанціна Міхайлавіча пранізлівымі самотай і болем, тым вострым трагізмам светаадчування і безнадзейнасцю, якія не ўдаецца схаваць за іранічна-жартаўлівымі радкамі: "Прыйдзе ж ліха, дык нікога, // Хто б табе быў рад".

Найбольш вылучаецца па аб'ёме ў кнізе Л. Прашковіч другі раздзел "О, які атрутны бяспамяцтва дым!..", прысвечаны творчасці У. Караткевіча. З гэтым таленавітым пісьменнікам у Лідзіі Іванаўны, якая нарадзілася ў вёсцы Гарадзішча Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці, звязаны не толькі непасрэдныя навуковыя інтарэсы, але і шмат асабістых уражанняў. Справа ў тым, што пасля заканчэння філалагічнага факультэта БДУ (1966) яго выпускніца, працуючы настаўніцай рускай мовы і літаратуры ў вёсцы Цялякава, што на Уздзеншчыне, у 1967 годзе паступіла ў завочную аспірантуру, каб займацца творчасцю любімага пісьменніка. Яе навуковым кіраўніком А. Лойкам, вядомым гісторыкам літаратуры, паэтам, празаікам, аўтарам біяграфічнага рамана-эсэ "Уладзімір Караткевіч, або Паэма Гарсія Лойкі" (2009), прысвечанага Аршанскаму Рыцару, была зацверджана наступная тэма даследавання: "Беларускі гістарычны раман: станаўленне жанру". Ужо ў статусе вопытнай выкладчыцы Мазырскага педінстытута, Л. Прашковіч паспяхова абараніла дысертацыю (1977). Не без падказкі сябра А. Мальдзіса на пасяджэнне з'явіўся сам аўтар першых айчынных гістарычных раманаў, цёпла павіншаваўшы даследчыцу кнігай-нарысам "Зямля пад белымі крыламі" з аўтографам.

Трэба сказаць, што інтарэс Л. Прашковіч да творчасці У. Караткевіча ў наступныя гады ніколькі не зменшыўся. Працуючы з маладой аўдыторыяй, клапоцячыся пра яе творчую актыўнасць і нацыянальную самасвядомасць, Лідзія Іванаўна заўсёды звяртала ўвагу студэнтаў на напісанае вядомым мастаком слова як узор высокай духоўнасці і сапраўднай чалавечнасці, як прыклад самаахвярнага служэння свайму народу з яго годным і вартым захаплення мінулым. Для даследчыцы ўяўлялася несумненным: "Нацыянальная гісторыя, трагічная і ў той жа час мужная, і стала для У. Караткевіча тым "барвяным шчытом", якім ён засланіў чытача, найперш маладое пакаленне, ад негатыўнага ўплыву фальшывых ідэй, стэрэатыпных клішэ, што панавалі ў літаратуры".

Структурна апраўданым і лагічна абумоўленым акордам выглядае наяўнасць у якасці заключнага такога раздзела кнігі, як "Феномен Палесся ў беларускай літаратуры XX стагоддзя". Каларытнае хараство гэтага краю перадаецца праз зварот даследчыцы да творчасці тых жа У. Караткевіча, В. Палтаран. Разам з тым, яна не магла не адзначыць, наколькі змянілася і само Палессе, і апісанне яго ў літаратуры, да прыкладу, у паэзіі М. Мятліцкага, наколькі зраненым, змрочна-збалелым стаў гэты "раскроены калючым дротам" край пасля спусташальнага выбуху на Чарнобыльскай атамнай станцыі. І ўсё ж кідаецца ў вочы тое, што зборнік заканчваецца аптымістычнымі развагамі Л. Прашковіч пра прысутнасць беларускіх матываў у паэзіі Д. Кавалёва. Жыццесцвярджальнасць пазіцыі "Я"-героя паэта — "И не прохожий здесь, // И не напрасный я" — у дадзеным выпадку цалкам стасуецца з творчым крэда самой даследчыцы. І гэта яшчэ раз пацвярджае невыпадковасць яе вяртання да нас праз кнігу "Па праву вечнасці".

Вольга ШЫНКАРЭНКА

Калонка Асі Паплаўскай

# Кнігі трэба чытаць



Кнігі на тое і кнігі, каб іх чыталі. Гэта не навіна. Але чалавек заўсёды імкнуўся надаваць існуючым рэчам новае гучанне, надаваць старому новыя формы... Нашая ж задача выбіраць, што нам патрэбнае, а што — не.

У 1931 годзе ў ЗША адбыўся кангрэс, на якім сляпая дзяўчына прапанавала запісваць кнігі для невідушчых. У наступным годзе амерыканскі фонд сляпых выпусціў першыя "гаворачыя" кнігі, якія распаўсюджваліся бясплатна. Так пачалася гісторыя аўдыёлітаратуры. На сённяшні дзень ад усіх кніг, што выдаюцца ў свеце, васемнаццаць-дваццаць працэнтаў складаюць аўдыёкнігі.

Да Беларусі аўдыёлітаратура прыйшла аж праз 74 гады пасля амерыканскага вынаходніцтва (натуральна, замежнай аўдыёлітаратурай мы карыстаемся ўжо вельмі даўно. Я ж маю на ўвазе той прадукт, што выраблялецца беларусамі самастойна). Распачаў гісторыю беларускай аўдыёкнігі Алесь Калоша: у 2005 годзе ён выпусціў "Беларускія народныя казкі". Пасля заснаваў кампанію "БелТонМедыя", што на сённяшні дзень выдала больш як 30 дыскаў.

Гэта вершы Максіма Багдановіча, вершы і паэмы Янкі Купалы, паэмы Якуба Коласа "Сымон-музыка" і "Новая зямля", раманы Івана Мележа "Людзі на балоце" і "Подых навальніцы", вершы Уладзіміра Караткевіча і раман "Каласы пад сярпом тваім", шэраг іншых гістарычных твораў сучасных беларускіх пісьменнікаў… З дзіцячай літаратуры – ужо памянёныя "Беларускія народныя казкі" і два дыскі з казкамі Ганса Хрысціяна Андэрсена. Аматары замежнай літаратуры ў аўдыёфармаце могуць паслухаць раман "1984" і казку-алегорыю "Ферма" Джорджа Оруэла. Пры падрыхтоўцы да іспытаў па гісторыі Беларусі вам дапамогуць дыскі Мікалая Ермаловіча і аўдыёкніга "150 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі".

Выбар — немалы. Ідзі ў кнігарню, набывай дыск ды слухай.

Я ж хачу высветліць, ці нам сапраўды неабходная аўдыёлітаратура, ці запатрабаваная яна?.. Продажы паказваюць, што не надта: як стаялі дыскі ў кнігарнях год таму, так і стаяць. Людзі як набывалі "Каласы пад сярпом тваім" Караткевіча ды "Вянок" Багдановіча ў кніжным выглядзе, так і набываюць…

Вернемся ізноў да гісторыі: для каго амерыканцы задумвалі аўдыёкнігі? Так, для невідушчых. Гэта ім павінна было спрасціць жыццё ды даць магчымасць пазнаёміцца з творамі Якуба Коласа ці Джорджа Оруэла. Чалавек жа прывык спрашчаць жыццё не толькі таму, каму гэта неабходна, але і самому сабе. Таму пэўная частка моладзі кнігі не чытае, а слухае.

Якія гэта кнігі?.. Тыя, што чытаць лянотна, але трэба: іспыт/залік на носе. Літаральна на днях пачула на журфаку размову дзяўчат-трэцякурсніц: "Ты Набокава прачытала?" "Праслухала. Так хутчэй…" І адваротны прыклад: запыталася нядаўна ў знаёмага журналіста ці слухае ён аўдыёкнігі. "Не, мне патрэбны тэкст. І пажадана, не электронны, а надрукаваны", — быў яго адказ. Чаму так? Ды таму, што калі чалавек шчыра чымсьці цікавіцца, свядома бярэцца за твор, то хоча атрымаць максімум інфармацыі, эмоцый і пачуццяў ад ягонага чытання. Але аўдыёкніга — гэта апасродкаванае ўспрыманне тэксту. Ты чуеш не свой унутраны голас, не тыя інтанацыі і эмоцыі, якія адпавядаюць твайму ўспрыманню, а голас аўтара альбо акцёра, які начытвае тэкст. І вялікая ўдача знайсці аўдыёкнігу, якая "агучана" па-мастацку якасна — эмацыйна, выразна, артыстычна...

Я ўжо і не кажу пра тое, што некаторыя людзі (з мэтай эканоміі часу) падчас праслухоўвання аўдыёкніг пачынаюць займацца нейкімі іншымі справамі — абед гатаваць, напрыклад, ці ў кватэры прыбіраць...

...На маю думку, толькі калі мы чытаем мастацкі твор, мы сапраўды прапускаем яго праз душу і свядомасць. Астатнія варыянты — другасныя. Аўдыёкнігі патрэбныя нам хіба для таго, каб захаваць голас пісьменніка для нашчадкаў. А, можа, я памыляюся?..

№ 15 16 красавіка 2010 г. ЛіМ



## Марына КОБЕЦ

### Сон

У светлым роздуме вясны,
У свежым водары маёвым
Ружовыя мне сняцца сны —
Зарніцы між лясоў хваёвых.

Мне сніцца човен на рацэ,
Сівой накрыты таямніцай.
Мая далонь ў тваёй руцэ.
І песня-плынь рачной вадзіцы.

І ціхі шэпат буйных траў,
Ружовым досвіткам напеты,
І ты, што ўсё далонь трымаў
У сне, тваім цяплом сагрэтым...

* * *

Прысвячаецца маёй бабулі Зоні

— Давай, унучка, цэўку!
Пакінь верацяно!
Сама ўжо скора дзеўка,
Вучыся ткаць радно!

Варштат пасярод хаты
З драўніны залатой…
— Не паглядай заўзята,
Сядай, крані нагой!

Трымай рукою чоўнік.
Вось так. Закінь сюды.
Прыцісні трохі. Поўна.
Не нарабі бяды.

Рупліва і старанна.
Узор не парушай.
Вучыся, унучка, прагна.
Вучыся, не спяшай.

Кладуцца ніткі гладка.
І, выпушчаны з рук,
Чаўночак надта шпарка
Снуе пад бердаў стук.

…Снаваць вучыла кросны,
Ды ткаці палатно.
Майстрыхаю дзівоснай
Была на ўсё сяло.

Дзяругі, хусткі, ходнік,
Абрусы, ручнікі…
Рукам тваім лагодным
Няўрымслівым такім

Давалася ўсё лёгка.
…Ды не змагла адно:
Між лёсаў, як палотнаў,
Сатказь сваё радно.

* * *

Купае сонца ногі
У кропельках рачных,
А я брыду дарогай,
І пах займае дых.

І б'ецца-б'ецца сэрца
З няўрымснай цеплынёй,
Нібыта ў рай мне дзверцы
Хтось расчыніў рукой.

Брыду знаёмай сцежкай,
І з поціскам рукі,
З лагоднаю усмешкай
Зрываю васількі.

Саў'ю вянок квяцісты,
На косы пакладу.
І, нібы у дзяцінстве,
Між кветак упаду.

* * *

Што вам да кволае душы,
Душы паэткі?!
Ты хоць пішы, хоць не пішы —
Ваш погляд гэткі.
І да нязбыўных маіх сноў —
Свае развагі.
Ад вас спагады б цёплых слоў,
Крыху б увагі!
Што вам да кволае душы,
Душы паэткі…
…Завяне кветкай ля шашы,
Сарванай кветкай.

Кава ды аловак…
Ноч… Амаль палова.
Келіх недапіты.
Вусны-аксаміты.
Месяцу акрайчык.
Дождж па вокнах плача.
Кволая галінка
Стукае аб шклінку.
Безліч горкіх думак.
Цяжкі лёсу клунак.
Дапіваю келіх,
Не пачуўшы хмелю.
З ветрам-калыханкай
Не засну да ранку.

* * *

Хацелася найлепш,
А выйшла як заўсёды.
Складаўся новы верш
З трывожнае нагоды.
Чакала цеплыні,
А атрымала крыўду.
У тлумнай мітусні
Згадала ўсю агіду.
Завучана дарма
Людзей перасцярога,
Што не рабі дабра, —
Не атрымаеш злога.



## Ізяслаў КАТЛЯРОЎ

* * *

Аніякага не знаю веку, —
прад жыццём не мае доўгу час.
І, бадай што, не для чалавека
гэты гук і ціша — у адказ.

Усё — сабе і ўсё — само сабою
міма слыху, міма воч і рук, —
па-над доляй споведнай маёю
сам сябе бы абтрасае гук.

Ачышчаецца? Ці ачышчае?
Хоць і падае, а ўсё ж ляціць, —
штосьці абяцае, прычашчае
да таго, што ў памяці гучыць.

Усё не нам і створана не намі.
Што, урэшце, мой адчайны лёс?!
Зоркі... Ноч... І ў свеце, нібы ў Храме,
я стаю пад купалам нябёс.

* * *

Гэта адчуванне — не для слоў, —
не спрабуй — і выказаць не думай.
Хай і застаецца паміж сноў
бы прапажай, бы забытым сумам.

Гэта адчуванне сіняны
з далліо неймавернае прасторы —
не для пажаўцелае травы,
а для зроку, што не хоча зморы.

І для ўсведамлення, што рака,
нібы ў павучанне чалавеку,
хоць заўжды і ў часавых цісках,
а цячэ ў раку другую звеку.

Нешта і ад вечнасці ўжо ёсць —
дзе мігціць лісця густая замяць,
а паміж крыжоў там, дзе пагост,
забыццё усё-ткі, а не памяць.

Але ж вечны розум — ён жывы,
хоць пагрозы ёсць самім пагрозам.
І вулканаў выклік на зямлі
у адказ крутым грамам нябёсаў.

...Гэта адчуванне — не для слоў.

* * *

Прызнацца б урэшце ў такой вось віне,
ды толькі чамусьці не смею:
паэтам, што ўсё-такі варты мяне,
ніколі я стаць не сумею.

Паэтам, што сутнасцю тайнай маёй —
і ў чымсьці вышэй яе тонка —
стаў таінствам дзён,
непражытых душой,
а смутку пражытага ўсё-ткі.

І страху — ды не, жаху ўжо небыцця,
бяспамятнай, вечнае прорвы...
Паэтам, што ўласным нявызнаным "я"
не ўцяміў ніякай пакоры.

І што перад вечнасцю быў бы ў даўгу,
ёй стаў бы адказам тактоўным...
Страшыўся заўсёды, што я не змагу
такому паэту быць роўным.

* * *

Не потому, что от Неё светло,
А потому, что с Ней не надо света.
И. Анненский

Ах, Аненскі, як слова павяло, —
на ўсе вякі сумеў сказаць душою:
не, не таму, што ад Яе — святло,
таму, што і святла не трэба з Ёю.

Усім брыдотам, нечысцям назло
скажу ў адказ усмешкаю самою:
не, не таму, што ад Яе — святло, —
таму, што і святла не трэба з Ёю.

Не ведаю, як гэта стаць магло,
але штодня гучыць само сабою:
не, не таму, што ад Яе — святло, —
таму, што і святла не трэба з Ёю.

Ах, Аненскі, так творым, як жывём
ў любым для нас наканаваным веку...
І ўсё-такі аб розным сказ вядзём:
аб зорцы — ён, а я — аб чалавеку.

* * *

Гук у гуку, узнікшы, знікае...
Бязглуздае слова — "ігра".
"Мне музыка думкі ўнушае", —
успомню я Дэлакруа.

Мастак, а вось думкамі піша,
ім колер дае і святло.
Ён тое шукае, здзівіўшы,
ў палітры чаго й не было.

Падслухае штосьці у санаце
надзеяй, а можа, віной, —
каб звесці з Вергіліем Дантэ
пасля — у карціне адной.

А музыка — не, не імгненна...
Мазурку згадае у сне —
і ў Луўры партрэтам Шапэна
пакіне яе на сцяне...

Пераклад з рускай мовы
Соф'і Шах



Фота Яўгена Шастакова



## Юліян ВЫСОЦКІ

* * *

Ледзь над краем расцеле
мярэжы світанне,
Акрапіўшы прысады халоднай зарой,
Я спяшаю праз лес —
дзяцел мне прывітанне
Адбівае, прысеўшы на хвоі старой.

Усміхаецца ў вусы,
прыкрыўшыся беллю,
Лес — мой сябра
з далёкіх дзіцячых гадоў.
А зіма клапатліва пад ногі мне сцеле
Чысціню крышталёвых сваіх дываноў.

Вецер гімны пра шчасце жыцця напявае
І лятуць тыя гімны над роднай зямлёй,
А зычлівае сонца прамені ўзнімае,
Каб свяціць добрым справам
краіны маёй.

Ну, а сам я па вушы ў жыццё закаханы:
У Радзіму, у працу,
у сонечны свет,
У празрыстае ранне, у зор караваны
І яшчэ у кагосьці, ды гэта сакрэт.

* * *

Бацькоўскі дом, драўляная хаты ціш…
Даўно няма яе ля блізкага мне лесу,
А мне здаецца: ты ўсё там стаіш
У засені кустоў іргі і бэзу.

Выходзіў я адсюль у далёкі шлях,
Матуля выпраўляла на вучобу,
І я табою трызніў па начах,
Па конаўцы густога сырадою.

Вяртаўся я дамоў не раз тады —
Калі на тыдзень, а калі на лета.
А лёс наканаваў расстанне на гады —
Што ж, кожны з нас
прайшоў праз гэта.

У кожнага свой лёс, занятак свой:
Хто клас вядзе, хто гарады будуе.
А родны дом у цішыні начной
Былыя нашы сны і песціць і вартуе.

Мы годна пройдзем вызначаны шлях,
Напішам вершы, карты перакроім,
На схіле сталасці з надзеяй у вачах
Дзяцінства нас запросіць у былое.

Мы вернемся, мы ступім на парог:
Ласкава рыпнуць роднай хаты дзверы,
І зразумеем, што з цяжкіх дарог
Вярнула нас яе святая вера…

* * *

Ты скажы, што шапталі бярозкі табе,
Калі вечарам сінім дадому ты йшла?
І аб кім табе песню спяваў салавей
Ціхім досвіткам росным на ўскраі сяла?

Ці аб тым,
што дарэмна кахаеш мяне,
Што не варты я гэтага шчасця зусім?
Ці ж паверыш, сяброўка,
ты гэтай мане,
Што з бярозак зрываецца
лісцем сухім?

Пераконваў, напэўна, цябе салавей,
Каб другому ты сэрца сваё аддала…
Гэту думку,
як лісце сухое, адвей
І выходзь мне насустрач
на ўскраек сяла.

Калі месяц пакоціцца небам густым…
Галаву ты прыхіліш на грудзі мае —
І бярозкі зашэпчуць зусім аб другім
І найлепшую песню салоўка спяе.

# Два апавяданні



Павел АНЦІПАЎ

Павел АНЦІПАЎ нарадзіўся ў 1981 годзе ў Мінску. Навучаўся ў эканамічным універсітэце, а пасля ў Беларускім калегіуме і на Вышэйшых літаратурных курсах пры Літаратурным інстытуце ў Маскве. Працаваў аранжыроўшчыкам, галоўным бухгалтарам, упакоўшчыкам, кур'ерам, журналістам. Апавяданні і пераклады друкаваліся ў шэрагу літаратурных выданняў Беларусі і Расіі. Піша на рускай мове.

Прозе Паўла Анціпава характэрныя дасціпнасць (што часам пераходзіць у "чорны гумар") і рэалістычнасць (што часам пераходзіць у натуралізм), заснаваныя на багатым жыццёвым вопыце. На сённяшні дзень ён – адзін з самых вядомых рускамоўных маладых празаікаў у Беларусі.

## Жыццё насякомых

Ну, давайце пафіласофствуем, падумаем, што мы сабой уяўляем, хто мы насамрэч, навошта гэтым займаемся і чаму не займаемся чым-небудзь іншым.

Добра, пра сябе думаць цяжка, возьмем хаця б Барыса. Нарадзіўся ў Смаленску, адвучыўся на эканаміста, пайшоў на працу з добрым заробкам. Здавалася б, жыві сабе прыпяваючы, рухайся па кар'ернай лесвіцы і збірай грошы на дробныя і буйныя бытавыя прыборы. Жонку сабе завядзі, Барысе. Бяры дзяўчыну сціплую — каб зорак з неба не прасіла, і жыві з ёю душа ў душу. Хіба кепска? "Не кепска, – адказвае Барыс, – ды толькі як жа сям'ю буду заводзіць, калі не ведаю, хто я такі? Як дзецям у вочы пагляджу і што адкажу, калі яны ў мяне спытаюць пра гэта ці, яшчэ горш, пацікавяцца, хто яны такія, кім ім быць? А я нават пра сябе не ведаю". Карацей, на працы Барыс сумуе, а ўвечары, замест дробных буржуазных радасцей — піва там папіць, у більярд пагуляць, тэлевізар паглядзець — Барыс піша апавяданні, і нават у яго ўжо гатовая адна аповесць. І вось ён здагадваецца, што ніякі ён не эканаміст, а штосьці накшталт пісьменніка, таму, відаць, і пакутуе на працы. Рабіць няма чаго: каб здагадкі пацвердзіліся, трэба ўсё кідаць і ехаць у Літаратурны інстытут, што ў Маскве. Гэтак ён і робіць.

А ў гэты час за тры з паловай тысячы кіламетраў з Алма-Аце, ажно ў іншай краіне, мучыцца юрыст Жумагул. І пакуты ягоныя рыхтык Барысавы. Дарма, што Жумагул азіят і замест апавяданняў піша вершы. Бо калі ты працуеш на нялюбай табе працы, то не маюць аніякай ролі твая раса, веравызнанне і схільнасць да аднаго з семінараў літінстытута.

Канечне, яны ідыёты — і Барыс, і Жумагул. Трэба было думаць раней і ў 17 гадоў вызначыцца з тым, куды паступаць. Але калі падумаць, лепей так мяняць жыццё, чым калі ўжо сям'я і дзеці. Бо калі сям'я і дзеці, нічога ўжо не зменіш. Так што, калі разабрацца, не такія ўжо ідыёты Жумагул з Барысам. Пагатоў, і аднаго, і другога прынялі ў Літаратурны інстытут без аніякіх пытанняў. Гэта абнадзейвала абодвух, яны былі ўпэўненыя, што неўзабаве знойдуць адказ на пытанне "Хто я такі?"

У пачатку верасня, цёплым сонечным днём, з захаду ў Маскву паехаў Барыс. Адначасова з усходу прыбыў Жумагул. Захаду і ўсходу наканавана было спаткацца ў фае інтэрната літаратурнага інстытута.

Барыс прыйшоў першым.

— Добры дзень, — як мага больш па-пісьменніцку сказаў ён лысаму ахоўніку, які глядзеў тэлевізар у вахтавай будцы.

Ахоўнік зірнуў на Барыса і, нічога не адказаўшы, павярнуў галаву да экрана.

— Выбачайце, калі ласка, ці не маглі б вы мне падказаць, як мне засяліцца?

Ахоўнік нехаця павярнуўся і запытаў, паказваючы ў роце колькі залатых зубоў:

— А вы ўвогуле хто?

— Я — Барыс Ігнатаў, – вінавата вымавіў Барыс. Ён адчуваў, што адарваў ахоўніка ад чагосьці вельмі важнага.

— Навошта мне ведаць ваша імя, я пытаюся, вы — адкуль?

— Са Смаленска.

— Хоць з Караганды! Вучыцеся вы дзе? У школе эканомікі?

— Я ў інстытуце вучуся. У Літаратурным інстытуце, — усё цішэй і цішэй гаварыў Барыс.

— Дзе-дзе!?

— У Літаратурным.

— Адразу б так. Як прозвішча?

— Ігнатаў.

Ахоўнік парыўся, знайшоў прозвішча Барыса.

— Сядайце і чакайце, я скажу каменданту.

Ахоўнік сышоў, паказаўшы на спіне надпіс Агент-1. "Спадзяюся, ён тут такі насамрэч адзін", — падумаў Барыс і сеў. Агент-1 хутка вярнуўся і сеў далей глядзець тэлевізар, нібыта Барыса не існавала. А Барыс баяўся парушаць спакой Агента-1.

Хвілін праз дваццаць у інтэрнат зайшоў малады казах. Паўтарылася падобная сцэна.

— Вы хто?

— Жумагул.

— Як жа вы мяне задзяўбалі! Вучыцеся вы дзе?

— Буду вучыцца ў Літаратурным інстытуце, — адказаў Жумагул.

Агент-1 зноў схадзіў кудысьці і вярнуўся да тэлевізара.

За наступныя паўгадзіны Барыс і Жумагул паспелі пазнаёміцца і напаўголаса, каб не перашкаджаць Агенту-1, абменьваліся сваімі біяграфіямі. Яны былі наіўна рады таму, наколькі падобныя. Хаця адзін з іх еўрапеец, а другі азіят, усё ж такі яны знайшлі ў сабе сілы змяніць жыццё, як ім здавалася, да лепшага. Да канца размовы яны былі ў захапленні ад таго, што будуць разам вучыцца і жыць у адным інтэрнаце. Калі ўсе тэмы былі вычарпаны, Жумагул запытаў:

— Слухай, Бора, а чаго мы чакаем?

— Не ведаю, напэўна, каменданта.

— Дык чаго ж ён не ідзе? Ты спытай у ахоўніка.

— Мне нейк няёмка. Спытай ты.

Жумагул падышоў да Агента-1.

— Прабачце, а доўга нам чакаць?

— Адкуль я ведаю? Вы што абодва не бачыце, я схадзіў да каменданта. Чакайце, вас паклічуць.

І яны чакалі. Гадзіну чакалі, дзве чакалі. Пакуль не выйшаў мужчына і не запытаў, чаму яны тут сядзяць. Гэта аказаўся камендант.

Барыса і Жумагула пасялілі ў пакой з двума голымі ложкамі, шафай, сталом і крэслам. Столь была ў цёмна-карычневых падцёках, з падлогі пахла нясвежым дывановым пакрыццём.

— Ну і пакойчык, — панура сказаў Барыс.

— Ага, не вельмі тут паважаюць пісьменнікаў, — Жумагул сеў на край ложка.

— Мы ж яшчэ не пісьменнікі, — удакладніў Барыс, — з пісьменнікамі б так не абыходзіліся. Спадзяюся, хаця б душ у іх тут ёсць.

Барыс узяў шампунь, ручнік і выйшаў з пакоя. Пахадзіўшы па калідоры, Барыс высветліў, што на цэлым паверсе быў толькі адзін душ. Натуральна, ён быў заняты, таму давялося чакаць ля зачыненых дзвярэй і ўяўляць чэргі, якія бываюць тут зранку. Літаратура пачала паказваць Барысу, якіх менавіта ахвяраў яна патрабуе.

Дзверы адчыніліся — і насустрач Барысу выйшла поўная чырванатварая дзяўчына ў халаце і з турбанам з ручніка на галаве. Усміхнулася. Барыс схамянуўся. "Няўжо так цяпер будзе кожны дзень?" Пакуль ён гэта думаў, яго адпіхнуў нейкі рабочы з разводным ключом і зайшоў у душ.

— Прабачце, але я наступны, — абурыўся Барыс.

— Куды прэш, не бачыш — рамонт! — рабочы скруціў краны, шланг і сабраўся сыходзіць.

— А дзе ж мне цяпер мыцца? — здзівіўся Барыс.

— А скуль мне знаць, я што — камендант? — і пайшоў.

Барыс з нудою паглядзеў на мёртвы душ і пайшоў назад у пакой. Таргануў ручку — зачынена. Барыс сеў пад дзвярыма і абхапіў галаву рукамі.

Жумагул тым часам ужо знайшоў прыбіральню і прыкідаў, як яму не намачыць порткі ў жаўтаватай вадзе, што хлюпала пад нагамі. Пра чалавека, які мала есць, звычайна кажуць, што ён харчуецца, як птушка. Жумагул харчаваўся нармальна, але, нягледзячы на гэта, яго цяпер таксама можна было параўнаць з птушкай — ён стаяў у адной з кабінак на напаўсагнутых нагах, рукамі-крыламі не даючы штанінам апусціцца да падлогі.

З кабінкі Жумагул кінуўся да рукамыйніка, нібыта думаў, што чым хутчэй ён памые рукі, тым хутчэй яго пакіне гідкасць да туалета. Тут ён са здзіўленнем пабачыў, што з суседняй кабінкі выйшла дзяўчына і таксама накіравалася да рукамыйніка. Прыбіральня была агульнай. Яны мылі рукі, намагаючыся не глядзець адно на аднаго.

Жумагул заспеў Барыса пад дзвярыма пакоя.

— Уяўляеш, душ зачынілі!

— Ты бачыў бы гэты туалет!

Адначасова абурыліся і Барыс, і Жумагул.

— Не, я гэтага так не пакіну, — запальваўся Жумагул.

— Зараз жа пойдзем да каменданта, — заявіў Барыс.

Сябры спусціліся на першы паверх. Барыс трохі нават груба пхнуў дзверы да каменданта, але адразу ж разгубіўся. У кабінеце сядзеў Агент-1 і раскладваў пасьянс на камп'ютэры. Працоўны дзень каменданта скончыўся.

Расчараваныя, яны вярнуліся ў пакой і ўзяліся разважаць пра сябе і літаратуру, якая запатрабавала ад іх ахвяраў.

— Ты маркуеш, ты пісьменнік, Барыс?

— Не ведаю. Прыехаў сюды высветліць, хто я. Прынамсі, дакладна ведаю, што я не эканаміст, хаця ім працаваў.

— Так, я таксама працаваў не тым, кім хацеў бы. Думаеш, мы тут разбярэмся, хто мы?

— Упэўнены ў гэтым! — адказаў Барыс.

Потым яны далі адзін аднаму пачытаць свае апавяданні і вершы. Хвалілі адзін аднаго, крытыкавалі. Карацей, адчулі сябе сапраўднымі пісьменнікамі. Толькі ненадоўга, таму што хутка ім захацелася пакурыць і яны пайшлі на вуліцу. Праходзячы паўз будку Агента-1, яны прыгадалі ўсё, што з імі адбылося сёння: і засяленне, і туалет, і душ.

Наступная раніца Барыса і Жумагула пачалася пад гукі дрыля. На паверсе распачалі рамонт, рабочыя свідравалі сцены, перапланіроўвалі пустыя пакоі, разбівалі перагародкі душа, адкручвалі дзверы, мянялі вокны. У інстытуце было тое ж самае. Лекцыі даводзілася слухаць пад грукат алюмініевых лістоў, якія скідалі з даху рабочыя, падобныя да Жумагула. Каб прайсці ад корпуса да корпуса, трэба было абмінуць не адну гару будматэрыялаў, панаваленых у двары літінстытута. Да апошняй пары, звычайна, шум заціхаў, і па інстытуце разносіўся пах ежы, якую гатавалі рабочыя, што жылі проста ў аўдыторыях. Перад ядой рабочыя мылі рукі, галовы і ногі ў туалеце, не саромеючыся студэнтаў.

У хуткім часе Жумагул і Барыс звыкліся з тым, як ім наканавана жыць бліжэйшыя гады. Аднойчы яны ўсё ж такі схадзілі да рэктара паскардзіцца на жыццё.

— А чаму вы з гэтым пытаннем да мяне? — сумна спытаў рэктар, выслухаўшы блытаныя скаргі сяброў.

Няздольныя нічога годнага адказаць, Барыс і Жумагул адно толькі папрасілі прабачэння і выйшлі. Вышэй можна было скардзіцца толькі Госпаду, у якога яны не верылі, як і ў сябе.

Кожны новы выкладчык пачынаў лекцыю наступнымі словамі:

— Навучыць пісаць немагчыма!

Відаць, заняткі ў інстытуце зводзіліся да таго, каб за два гады даказаць студэнтам гэты немудрагелісты тэзіс.

Адзін выкладчык прызнаўся на пары:

— За ўсю гісторыю існавання літінстытута з гэтых сценаў не выйшла ніводнага пісьменніка, за выключэннем тых, хто пісьменнікам сюды ўвайшоў.

А Барыс з Жумагулам не ведалі, кім яны ўвайшлі ў літінстытут. Яны ж спецыяльна для гэтага і прыехалі, каб дазнацца, хто яны такія. А выявілася, што гэта трэба было высвятляць загадзя.

Але нават калі б ім сказалі, што навучыць пісаць вельмі нават можна, то наўрад ці Барыс і Жумагул успрынялі б цяпер гэтыя словы ўсур'ёз. Яны ўжо нават не здзіўляліся таму, што кожны новы дзень прыносіў з сабой новыя страты. Усё часцей яны сядзелі ў сваім пакоі і маўчалі, слухаючы, як на паверсе грукочуць дрылі і малаткі. Аднойчы ў іхны пакой прыйшоў электрык і скруціў усе разеткі, акрамя адной. Хлопцы нават не падумалі яму запярэчыць. А на наступны дзень зачынілі прыбіральню і паабяцалі падсяліць двух студэнтаў са школы эканомікі.

Столькі было ўсяго ў інтэрнаце, што яны нават не звярнулі ўвагі на абвестку:

Паважаныя студэнты!
10 кастрычніка ў 19:00 будзе праводзіцца апрацоўка супраць прусакоў.
Просім усіх быць дома.
Адміністрацыя

А дарэмна, бо а 19:00 у пакой Барыса і Жумагула пагрукаў чалавек, які дапамог ім разабрацца з тым, хто яны такія. Чалавек быў у рэспіратары і з балонам хімікатаў.

— Вызваляем плінтусы! Апрацоўка прусакоў! — крычаў чалавек у рэспіратары.

— Але ў нас няма прусакоў, — сказаў Жумагул.

— Так усе спачатку кажуць. Трэба апрацаваць, — і пачаў абпырскваць пакой уздоўж плінтусаў.

Барыс закашляў першы, потым Жумагул. Ратуючыся ад хімікатаў, яны выбеглі на калідор, але там таксама пахла інсектыцыдам. Дзверы іншых пакояў былі расчыненыя. З іх, кашляючы, высыпаліся студэнты. Нехта хрыпеў і з чырвоным тварам падаў на падлогу, іншыя кідаліся да адзінага акна ў канцы калідора, каля якога ўжо тоўпілася чарада.

— Барыс, так больш жыць нельга! — паварушыў вусікамі Жумагул.

— Немагчыма, Жумагул, проста нязносна, — і Барыс задрабязіў лапкамі да вентыляцыйнай адтуліны пад столлю. Жумагул пабег следам. Астатнія студэнты неўзабаве рушылі за імі.

Агент-1 ішоў па паверсе і выключаў святло ў пустых пакоях.

## Шышка

Калі ёй на галаву ўпала гронка засохлых стручкоў акацыі, я зразумеў, што з пачуццямі варта быць больш асцярожным.

Спачатку прачытаў ейную калонку ў Інтэрнеце. "Дзівоснае побач" называлася. "Мяне на гэтым тыдні здзівіў такі паэт ды гэтакі выступ", — грунтоўна апісвала Валя сваё здзіўленне. "А на наступным я пайду сюды й туды, там таксама шмат дзівоснага", — працягвала яна.

Нечым мяне гэта злавала. Потым пабачыў яе ў кантакце на фотцы. Страшненькая такая сухая кабылка. Гэта, наадварот, мяне чамусьці ўсцешыла.

І вось, значыцца, яна таксама прыязджае да мора пачытаць вершы такім жа, як яна, паэтам. Я сяджу каля музея на ўзбярэжжы і ўсіх іх павінен рэгістраваць, а Валя з торбамі прэ да веснiцаў. І хаця дарогу ёй заступаюць курортнікі, Валя, не збаўляючы ходу, крычыць ім: "Дайце прайсці! Ну дайце ж прайсці". Валя — з Піцера.

Плюхнула каля мяне торбы, назвала прозвішча і ці то галаву пачасала, ці то нешта такое — карацей, так падняла руку, што зрабіліся бачнымі ейныя няголеныя падпахі. Скура белая, ногі-трэсачкі, твар кабыліны. Куды ж ты яшчэ й вершы пішаш?

Потым яна да выродлівасці задуменным поглядам паглядзела на мора і зноў звярнулася да мяне:

— Ці не мог бы ты мае рэчы папільнаваць, а я паплаваю пакуль?

— Мгм, — ветліва адказваю, — паплавай.

І вось яна ўручае мне сваю торбачку і дае раздрукоўкі вершаў. Відаць, баіцца, што іх таксама скрадуць.

— Можаш, — кажа, — пачытаць, калі цікава.

Вось тут на Валіну галаву і ўпалі сухія стручкі.

— Вой, што гэта? Шышка? — здзівілася яна.

Не, гэта не шышка, Валя. Гэта я цябе не люблю.

Пераклад з рускай Уладзя Лянкевіча

## На атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь

Сем гадоў таму Аляксандр Аляксееў ды Алег Лукашэвіч распачалі працу над мастацкім праектам “Спадчына Беларусі”. Праз год выйшаў у свет аднайменны фотаальбом — шыкоўны фаліянт, у якім яны гожа, годна і лаканічна, з высокім густам і некрыклівым захапленнем, прадставілі помнікі даўняга дойлідства, што надаюць прыцягальную непаўторнасць архітэктурнаму ландшафту кожнай вобласці нашай краіны ды яе сталіцы. Яшчэ праз год, у 2005-м, за стварэнне гэтага фотаальбома журналісты Белтэлерадыёкампаніі Аляксандр Аляксееў ды Алег Лукашэвіч былі адзначаныя прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь “За духоўнае адраджэнне”, а таксама атрымалі найвышэйшую ўзнагароду Рэспубліканскага конкурсу “Мастацтва кнігі” — дыплом імя Францыска Скарыны. Тым часам у межах іх маштабнага праекта ўжо рыхтаваліся новыя выданні, дый не толькі...



# Адкрыць... сваю краіну





Не так даўно, у сувязі з вылучэннем праекта на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры за 2010 год і правядзеннем грамадскага абмеркавання работ-прэтэндэнтаў, Нацыянальная бібліятэка Беларусі наладзіла творчую сустрэчу з Аляксандрам Аляксеевым ды Алегам Лукашэвічам. Размова, якая адбылася ў канферэнц-зале нашай галоўнай скарбніцы ведаў, прывабіла і глыбока зацікавіла людзей, неабыякавых да гісторыі роднай краіны, да лёсу нацыянальнай культурнай спадчыны: у сур’ёзных і дапытлівых аўтарах праекта яны ўбачылі сваіх аднадумцаў.

Сапраўды, гэтая работа грунтуецца на вельмі сур’ёзных ідэях, намерах і планах, якія паступова і паспяхова ажыццяўляюцца. За агульнай назвай “Спадчына Беларусі” — стварэнне прадстаўнічых альбомаў, тэлевізійных дакументальных стужак і фотавыставак пра нацыянальную спадчыну нашага народа. Аўтары маюць на мэце прыцягнуць увагу да Беларусі, да яе гісторыка-культурных набыткаў, а праз папулярызацыю гэтых набыткаў — стымуляваць працэс нашай самаідэнтыфікацыі, “вяртання да вытокаў”, актывізаваць адраджэнне страчаных традыцый, паспрыяць усведамленню і ўмацаванню годнасці і самабытнасці беларускай нацыі.

Тэлежурналістамі праведзена вялікая творчая і даследчая праца, вынікі якой даюць магчымасць успрыняць Беларусь па-новаму, адкрыць для саміх беларусаў і для ўсяго свету старонкі яе гісторыі, яе каштоўнасці, вядомыя далёка не кожнаму з нашых сучаснікаў. Пра тое, наколькі прадстаўнічы і запатрабаваны гэты праект, кажуць простыя факты. Агульны наклад фотаальбомаў “Спадчына Беларусі” (2004 г.), “Наследие Беларуси” (2006 г.), “Спадчына Беларусі. Скарбы” (2007 г.) — больш як 30 тысяч экземпляраў. Маляўнічыя выданні, старонкі якіх вабяць вока выявамі старажытных сядзіб і сабораў, палацаў і капліц, фрагментамі храмавых інтэр’ераў і музейных экспазіцый, здымкамі краявідаў і рэпрадукцыямі культавага жывапісу, сёння знойдзеш у фондах найбуйнейшых бібліятэк свету, у дзяржаўных установах, у прыватных калекцыях вядомых людзей — дзеячаў мастацтва, навукоўцаў, дыпламатаў. Так што з нашай гісторыяй, культурнай спадчынай мае магчымасць знаёміцца шырокае інтэрнацыянальнае кола грамадскасці. Да таго ж, створана 17 серый тэлевізійнага дакументальнага цыкла “Эпоха” пра выдатных людзей, якія нарадзіліся на тэрыторыі Беларусі; праведзена 11 нацыянальных і міжнародных фотавыставак у Арменіі, Вялікабрытаніі, Італіі, Польшчы, Францыі (у тым ліку ў Штаб-кватэры ЮНЕСКА ў Парыжы).

Аляксандр Аляксееў ды Алег Лукашэвіч падкрэсліваюць, што свае відэа- і фотааповеды яны ствараюць не толькі для замежнай публікі, але і для саміх беларусаў. Напэўна, прафесійная апантанасць гэтых творчых людзей, іх захапленне цяжкай ёмістай працай, насычанай шматлікімі арганізацыйна-пошукавымі праблемамі, не знікаюць таму, што яны імкнуцца найперш самі для сябе адкрыць неспазнаную красу ды багацці сваёй краіны і — падзяліцца адкрыццямі з кожным.

Безумоўна, прыемна, што далёка за межамі Беларусі розныя людзі адкрываюць нашу краіну праз выбітныя гістарычныя постаці, праз найбольш прыгожыя ды прываблівыя “спыненыя імгненні”. А рэакцыя гледачоў-іншаземцаў падчас замежных выставачных прэзентацый яшчэ раз пацвярджае, наколькі глыбокія і даўнія повязі лучаць Беларусь з агульнаеўрапейскай культурнай прасторай. Самі аўтары праекта з прыемнасцю адзначаюць, што прысутныя на вернісажы ў Італіі ўбачылі падабенства некаторых узораў нашага дойлідства з тамтэйшай барочнай архітэктурай (і не дзіўна, бо існуе гістарычная сувязь між нашымі культурамі, спакроўленасць іх каранёў, умацаваная яшчэ ў часы Боны Сфорцы). У Англіі гледачы пазнавалі ў беларускіх старасвецкіх пабудовах рысы “свайго” готыкі...

Праўду казаў адзін мудрэц: чым больш ў чалавека досвед, тым больш пакутуе ён ад уласнай недасведчанасці. Павандраваўшы па Беларусі, дый па замежжы, А. Аляксееў і А.Лукашэвіч пераканаліся, наколькі не вывучаная, непазнаная наша краіна, прычым — намі ж, беларусамі. У працяг свайго праекта яны плануюць распачаць “асвойванне” беларускага поўдня, таямнічага Палесся з унікальнымі помнікамі драўлянага дойлідства. А яшчэ — заняцца “фотапісам” этнаграфіі, скульптуры, фрэскавых роспісаў ды беларускага іканапісу, дзе ўвасобілася сапраўды унікальнае перапляценне розных школ, уплываў з усходу і захаду...

Цяпер журналісці дуэт працуе над спадчынай Радзівілаў, якая адлюстроўвае багаты зрэз не толькі айчыннай, але і сусветнай гісторыі. Проста адкрыць нешта — для іх гэтага мала: задача ў тым, каб перагледзець і абнавіць ужо ўсталяваную атрыбуцыю, запоўніць прагалы ў нашай гісторыі і ў навуцы, ды зрабіць гэта не “сухімі” энцыклапедычнымі сродкамі, а праз мастацкую, захапляльную падачу.

Уявіце сабе, як гэта: “узнімаць планку” з году ў год, каб праект быў жывы і распрацоўваўся, каб з’яўлялася на свет не проста серыя прыгожых малюнкаў. Дзякуй Богу, калегі-рупліўцы годна вытрымліваюць узятую на сябе важкую ношу і з аптымізмам глядзяць у перспектыву: “Магчыма, павінна прайсці не адно пакаленне, каб беларусы зразумелі, глыбока ўсвядомілі, наколькі багатая наша гісторыя, адкрылі для сябе сваю краіну. Але так будзе”.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: журналісты Белтэлерадыёкампаніі Аляксандр Аляксееў ды Алег Лукашэвіч падчас прэзентацыі свайго фотаальбома “Спадчына Беларусі. Скарбы” ў Мінску (2008 год); фрагмент іканастаса Свята-Сімяонаўскай царквы ў Камянцы; гадзіннік з калекцыі Гомельскага палаца Румянцавых і Паскевічаў; Будслаўская базіліка; Навагрудскі касцёл; срэбны кубак Багуслава Радзівіла — рэпрадукцыі з альбома “Спадчына Беларусі” (2004 год).

Фота Кастуся Дробава і аўтара









# Пад зоркай Шапэна

Як забяспечыць поспех філарманічнага канцэрта? Можна спалучыць прэм’еру, натхненне выбітнага маэстра, прафесіяналізм і досвед аркестра ды імпэт таленавітага маладога саліста. Так, прынамсі, адбылося падчас міжнароднага фестывалю “Мінская вясна-2010”, які працягваецца ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

У той вечар зала раз-пораз выбухала апладысментамі. Публіка вітала неардынарнага беларускага кампазітара Ларысу Сімаковіч: прэм’ера яе твора “Сярод зімы абрыс Шапэна” для фартэпіяна, чэмбала і струнных сталася сапраўднай падзеяй для беларускай музычнай культуры. Тым больш, што выкананы ён быў Дзяржаўным камерным аркестрам Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Яўгена Бушкова. Салістам выступіў перспектыўны малады піяніст Дзяніс Кажухін (Расія), які ў свае 23 гады атрымаў прызнанне ў розных краінах свету. Шапэн быў сапраўды незвычайны ў той вечар: Канцэрт № 2 фа-мінор для фартэпіяна з аркестрам прагучаў у рэдкай версіі — толькі для струнных (аўтарская рэдакцыя Яўгена Бушкова). У другім аддзяленні аркестр выканаў “Успамін пра Фларэнцыю” П. Чайкоўскага, а на “біс” прагучалі цудоўныя творы С. Цынцадзе.

Асабістыя мае ўражанні выходзяць за межы словаформаў і метафар. Твор Ларысы Сімаковіч — гэта не проста выразныя цытаты з Шапэна, празрыстая структура, тонкасць і разам з тым абвостранасць. Гэта — узор еўрапейскага кантэксту сучаснай беларускай музыкі. Нездарма Яўген Бушкоў пасля канцэрта адзначыў, што “краіна можа ганарыцца гэтым творам і гэтым аўтарам, бо такія рэчы ствараюцца не кожны дзень”. Дзяніс Кажухін зрабіў свой унёсак у выкананне ўсёй праграмы, якая была складаная і разам з тым зразумелая. “Сакрэт” поспеху піяніста, падаецца, раскрываюць яго словы: “Нават у якасці гледача не магу слухаць музыку абстрагавана, я ўдзельнічаю ў ёй, асабліва калі музыка вельмі падабаецца”. Праца з яскравым музыкантам, таленавітым дырыжорам з сусветнай вядомасцю заслужаным артыстам Расіі Яўгенам Бушковым ўва многім паспрыяла выдатнаму выступленню Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі. Альтыст Мікалай Анішчанка, які ўжо 30 гадоў грае ў гэтым калектыве, выказаў сваё меркаванне наконт маэстра — цяперашняга мастацкага кіраўніка і галоўнага дырыжора аркестра: “Мне Яўген Бушкоў вельмі імпануе як дырыжор і найперш як музыкант. Нам не хапала такога чалавека, як ён”.

Юлія НОВІК

На здымку: адзінае фота Фрыдэрыка Шапэна (з дагератыпа 1849 года).

Фотарэпрадукцыя Святланы Берасцень



**Прыкметная падзея гэтага сезона — прэм’ера ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы спектакля “Translations”. Пастаноўка гэтай п’есы ірландскага драматурга Браяна Фрыла сталася першай работай рэжысёра Мікалая Пінігіна ў якасці мастацкага кіраўніка купалаўцаў.**

# Цяжкасці перакладу

Імя гэтае даўно вядомае аматарам беларускага тэатра. Шмат добрых, высока мастацкіх спектакляў паставіў М. Пінігін у 1990-х — і галоўным чынам на Купалаўскай сцэне — перад тым як “адлучыцца” на некалькі гадоў у Санкт-Пецярбург. І сярод іх высяцца, як гімалайскія вяршыні, два моцныя, я лічу, “вехавыя” для айчыннага тэатра, спектаклі: “Тутэйшыя” паводле п’есы Янкі Купалы, якой выпаў няпросты лёс; “Ідылія” — паводле класічнага і таксама знакавага для нашай культуры твора Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Ды і ў “нулявых” гадах XXI стагоддзя піцерскі ўжо рэжысёр М. Пінігін, раз-пораз наведваючы родны горад, таксама паставіў шэраг спектакляў, так бы мовіць, “са знакам якасці”. Сярод іх — “Сымон-музыка” на Купалаўскай сцэне, “Матылёк” у Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача, “Арт” у антрэпрызе. Ажыццёўленыя на розных сцэнах, з рознымі акцёрскімі ансамблямі, яны вызначаліся і характэрнай пінігінскай рэжысёрскай манерай, і шырынёй прасторы для самавыяўлення акцёраў, чым паспяхова скарысталіся, як помніцца, Г. Гарбук, В. Манаеў, С. Журавель, І. Забара, Г. Хітрык, незабыўны А. Жук ды іншыя майстры беларускага акцёрскага цэху. Але…

Але нечага ў гэтых добрых тэатральных работах усё ж не ставала. Крышачку, ледзь адчувальна… У кожным разе, ніводная з іх не выйшла за межы свайго мастацтва, не сталася феноменам нацыянальнай культуры.

“Translations” (“Пераклады”) Браяна Фрыла можна трактаваць як канцэптуальную п’есу. У наш век, які некаторыя філосафы вызначаюць як век камунікацыйнага грамадства, праблема неразумення робіцца ці не самай вострай, сутнаснай, галоўнай у чалавечым быцці. І гэта датычыць не толькі асобных людзей, але і краін, і этнасаў, народаў, якія насяляюць гэтыя краіны. Паразуменне ўзнікае (альбо не ўзнікае) у выніку стасункаў паміж людзьмі. Вялікі псіхолаг Л. Выгоцкі (які доўга працаваў у Беларусі) характарызаваў зносіны як працэс перадачы думак і перажыванняў. Савецкі псіхолаг канца XX стагоддзя У. Мясішчаў вылучаў унутраныя ўзаемадзеянні паміж суб’ектамі камунікацыі: яе вынікі залежаць ад адносінаў людзей да свету, да іншых людзей і ўрэшце да сябе. Вядомы амерыканскі псіхолаг Т. Шыбутані разглядае камунікацыю як дзейнасць па ўзаемнай каардынацыі і адаптацыі паводзін індывідаў, якія ўдзельнічаюць у зносінах.

З філасофскага пункта гледжання ў стасунках і праз іх праяўляецца сутнасць чалавека. Паколькі мастацтва ўяўляе сабой вялізнае люстэрка чалавечага быцця, то, зразумела, усе ідэі, звязаныя з сутнаснымі праявамі чалавека, знаходзяць сваё адлюстраванне (і — часткова — асэнсаванне!) у мастацтве. Асабліва балюча ў ім гучыць сёння тэма паразумення, чалавечай самаідэнтыфікацыі, адчування самасці іншага чалавека. Менавіта на гэтай глебе вырастае і праблема перакладу і постаць чалавека, які перакладае, г. зн. ажыццяўляе камунікацыю, — постаць перакладчыка. Нездарма адным з яркіх дасягненняў сучаснай расійскай літаратуры можна лічыць раман вядомай пісьменніцы Людмілы Уліцкай “Даніэль Штайн, перакладчык”, выдадзены летась. У цэнтры гэтага твора — чалавек, які падчас Вялікай Айчыннай апынуўся ў Беларусі, вымушаны быў працаваць у нямецкай камендатуры, дапамагаў партызанам, выратоўваў людзей з гета. А пасля вайны, зрабіўшыся ксяндзом (для яўрэя па паходжанні — унікальны выпадак), нёс у свет міласэрнасць. І ўсё жыццё да апошняга ўздыху тлумачыў людзям незразумелае, вырашаў іх праблемы і бесперапынна перакладаў.

У п’есе Браяна Фрыла рэзка сутыкаюцца дзве стыхіі – стыхія мясцовай ірландскай культуры і стыхія культуры прыхадняў, культуры, “прынесенай штыхамі”, культуры, якая навязваецца сілай і сілай укараняецца на захопленай тэрыторыі…





Сітуацыя, калі разглядаць яе ў гістарычным ракурсе, даволі тыповая. Гісторыя ведае шмат прыкладаў, калі ўзаемадзеянні культур выяўлялі ў гэтым працэсе як дамінуючы бок, так і бок з характэрнай адсутнасцю дзяржаўнай падтрымкі і таму, натуральна, аслаблены. Гісторыя сведчыць пра тыповасць такой сітуацыі для Беларусі — дастаткова прыгадаць узаемадзеянне беларускай і, спачатку, польскай (у час Рэчы Паспалітай), а потым расійскай культур. І праблема мовы ў беларускай сітуацыі актуальная як ніколі. Таму зразумела, чым прыцягвала такога мастака, як М. Пінігін, ірландская п’еса — тыя ж ідэі апанавалі яго ў час працы над “Тутэйшымі” ды “Ідыліяй”. Але гэтым разам унутранага адчування пульсу мясцовага жыцця не адбываецца. І прычына, на мой погляд, у тым, што канструкцыя самога спектакля сталася даволі абстрактнай, разумовай. Звышінтэлектуальныя пабудаванні не маюць цаны ў філасофскім дыскурсе, але на сцэне больш за ўсё вартасныя жывыя арганічныя вобразы. Яны могуць з’явіцца толькі тады, калі артысты падхопліваюць, чуйна ўвасабляюць рэжысёрскія ідэі. Гэтага не адбылося таму, што маладыя купалаўскія акцёры, якія цудоўна рухаюцца і раз-пораз добра дэманструюць жывую свежасць пачуцця, не маюць яшчэ ўласнага чалавечага досведу, каб падняць такую магутную канструкцыю, якая ў сінтэзе прадстаўляе наймагутны кангламерат: чалавек, нацыянальная культура, родная мова, акупацыя.

Манус у выкананні А. Казелы — добры, сціплы; Сара (Г. Хітрык) — простая дзяўчынка (мне здаецца, што С. Анікей малюе больш тонкі вобраз, але і яму бракуе неабходнага абагульнення). Больш цікавым выглядае вобраз Оўэна (С. Чуб), які пры ўсім сваім прагматызме (ён свядома прыслугоўвае акупантам) усё ж раз-пораз дэманструе жаласлівую любоў да свайго краю, да сваёй культуры. Менавіта ён і ажыццяўляе ідэю перакладу, які штораз можа мець нечаканы вынік.

На жаль, не дадаюць мастацкасці і работы больш спрактыкаваных купалаўцаў. Х’ю ў выкананні С. Краўчанкі выглядае як спадкаемца знакамітых блазнаў Шэкспіра, але ўласцівая ім мудрасць аніяк не прарастае праз “пахмельную” смугу персанажа. У ігры А. Падабеда адчуваецца нейкая хітрынка, але і ён недацягвае да вобраза “карыфея”, закладзенага ў драматургічным тэксце. Як заўсёды, цікавы вобраз стварае ў спектаклі В. Манаеў, але яго персанаж Джымі Джэк таксама павінен не абмяжоўвацца інтэлектуальнымі жартамі, а ўзнімацца значна вышэй.

Такім чынам, большасць дзейных асоб толькі ў невялікай ступені вытрымлівае рэжысёрскую “ўстаноўку” на інтэлектуальны спектакль. Пры тым у самім рэжысёрскім поглядзе на праблему, як падаецца, часам выяўляюцца пэўныя збоі. Гэта цалкам зразумела, калі азнаёмімся з анатацыяй, надрукаванай у праграмцы спектакля. У анатацыі сцвярджаецца, што Ірландыя ў Сярэднявеччы з’яўлялася ці не цэнтрам еўрапейскай культуры, што тамтэйшая эліта дасканала валодала лацінскай і грэчаскай мовамі (а ці ж эліта іншых еўрапейскіх дзяржаў была пазбаўленая ведання гэтых моў? Ці ж апостал нашае культуры Ф. Скарына не на лаціне абараняў сваю доктарскую дысертацыю ў Падуанскім універсітэце?). Словам, менавіта ірландскія місіянеры хрысціянізуюць паганскую Еўропу, і нават прыводзіцца чутка, што першую славянскую азбуку, глаголіцу, таксама вынайшаў ірландскі місіянер (а што, можна спытацца, рабілі ў гэты час Кірыла і Мяфодзій?). Зразумела, усё гэта робіцца дзеля таго, каб супрацьпаставіць ірландскую і англійскую культуры. Зразумела, каланізатары — яны і ёсць каланізатары. Насаджваюць гвалтоўна свае законы і звычаі. Але ў прымітыўнай трактоўцы процістаяння дзвюх культур няма нічога навуковага (вышэйзгаданая анатацыя належыць навуковаму кансультанту спектакля Алесю Жлутку). Культуры тым цікавыя, што яны асаблівыя і, зразумела, не паддаюцца падзелу па ранжыры: адна лепшая, другая ніжэйшая за яе… Ды тут яшчэ — ніжэйшай паказваецца культура Шэкспіра, Байрана, Гейнсбара!

Справа ў тым, што нават найлепшыя ідэі, якія датычаць культуры, не працуюць, здаюцца штучнымі, калі яны не абапіраюцца на жывое адчуванне нацыянальнага характару, нацыянальнага менталітэту. Тады яны робяцца альбо чыстай ідэалогіяй, далёкай ад рэальнасці (менавіта ў гэтым сэнсе Ф.Энгельс вызначаў ідэалогію ў якасці “фальшывай свядомасці”), альбо абстракцыяй, якая ўхоплівае толькі элементы той самай рэальнасці.

Звяртаеш увагу на распрацоўку і ўвасабленне “любоўнай” лініі ў спектаклі. Мэйрэ — дапытлівая ірландская дзяўчына. Яна — сапраўдны носьбіт ірландскай культуры – адначасова адкрытая ўсяму ў свеце ведаў. Яна не супраць таго, каб вывучыць англійскую мову, таму што яе камунікатыўныя магчымасці неабсяжныя. І ў гэтую дзяўчыну па-сапраўднаму закахаўся прадстаўнік “войска каланізатараў” — лейтэнант Ёланд. Ён, гэты малады чалавек, таксама па-свойму незвычайны: разам з каханнем да ірландскай дзяўчыны ён выказаў цягу да ірландскага, любоў да ірландскай культуры.

Сачыць за дыялогамі Мэйрэ і Ёланда гледачу даводзіцца з заміраннем сэрца: вось у якіх стасунках жыццёва неабходны дакладны пераклад, глыбіннае паразуменне паміж людзьмі! І калі такое паразуменне адсутнічае (што паміж людзьмі, што паміж народамі — тут сцэнічнае абагульненне моцнае і вартае самай высокай ацэнкі) — быць трагедыі. Яна і адбываецца…

Любоўныя пары — аздабленне спектакля. У дуэце Мэйрэ (В. Гарцуева) — Ёланд (Р. Падаляка) пераважае затоенасць, пры дамінаванні лейтэнанта. Але больш арганічнай мне бачыцца другая пара. Тут — разважлівы, цікаўны Ёланд (А. Малчанаў) і непасрэдная, тэмпераментная (што і ўласціва сапраўднай ірландцы!) Мэйрэ (С. Зелянкоўская). І менавіта іх адносіны, іх каханне і любоў накладваюцца на велізарную праблему, якую ўзнімае новы спектакль купалаўцаў. Гэта праблема неразумення, узаемадзеяння і людскога стаўлення адно да аднаго. Бо людзі, якія нарадзіліся ў пэўнай краіне, з’яўляюцца носьбітамі пэўнай культуры, не застаюцца ў сваіх вызначаных межах, а з усім сваім скарбам (светапоглядам, мовай, культурай) узнімаюцца да асэнсавання агульнай існасці Чалавека і разумення іншага, адрознага ад цябе. Так, напрыклад, вызначаў камунікацыю К. Ясперс, адзін з пачынальнікаў экзістэнцыялізму: “Гэта працэс, у якім Я сапраўды робіцца самім сабою, дзякуючы таму, што знаходзіць сябе ў іншым”. Але, каб узняцца на гэтую вышыню, трэба пераадолець цяжкасці перакладу… І гэта ўдаецца не заўсёды і не ўсім…

Прэм’ера купалаўцаў у цэлым уяўляе сабой цікавую спробу прарыву да новага ўзроўню духоўнасці. Пры ўсіх хібах пастаноўкі (якую, дарэчы, добра падтрымала лаканічная, але функцыянальная арганічная сцэнаграфія П. Окунева) і пэўнай недакладнасці асобных акцёрскіх работ, яна ўсё ж паказала цягу да асэнсавання сутнасці чалавека, унікальнасці яго нацыянальнага быцця, імкнення, насуперак пастулатам прагматычнасці сучаснага стагоддзя, да вышэйшага. І тым самым сцвердзіла сваю непасрэдную прыналежнасць да свету Мастацтва і Культуры.

Вадзім САЛЕЕЎ,
доктар філасофскіх навук,
тэатральны крытык

На здымках: сцэны са спектакля “Translations”.

Фота Аляксандра Дзмітрыева




## Слова краязнаўцы



Альфрэд ТЫЧКО з Міёршчыны распавядае пра пачатак свайго даследчыцкага шляху:

— Гісторыя цікавіла мяне яшчэ са школы. Але тады займацца краязнаўствам было складана. З задавальненнем чытаў гістарычную літаратуру, асабліва калі служыў у войску ў Германіі. У нашай часці была добрая бібліятэка, а пакольку водпускі забараняліся, увесь вольны час я праводзіў за чытаннем. Пасля службы і заканчэння вучылішча працаваў у школе настаўнікам фізічнай культуры, а потым паступіў на гістарычны факультэт Смаленскага педуніверсітэта, тады ж пачаў выкладаць у школе гісторыю. Любіў турыстычныя паходы і адразу ж арганізаваў вандроўку па рэчцы Вята — ад вытока да вусця.

Спачатку маю ўвагу прывабіла замчышча ў Прудніках. Затым мяне зацікавіла і гістарычнае мінулае маёнткаў Ідолта, Мілашова. Папрацаваць у архіве хацелася, але туды складана было трапіць. Аднак часы змяніліся, і ў Віцебску ў пачатку 1990-х адкрыўся краязнаўчы цэнтр. З дапамогай гэтага цэнтра мне ўдалося папрацаваць у архівах Санкт-Пецярбурга, дзе я знайшоў так званую справу Мілаша — дакументы па адмене прыгоннага права ў нашай мясцовасці. У Вільні ў архіве універсітэцкай бібліятэкі натрапіў на цікавую кнігу, складзеную настаўнікам Мілашоўскага народнага вучылішча. Так патроху пашыраліся і паглыбляліся мае веды па гісторыі свайго краю.

Але не ўсё было паспяхова. Пачаў ствараць музей у мясцовай школе, сабраў дастаткова багатую калекцыю манет і папяровых грошай, самавараў. Ды раптам трапіў у бальніцу з інфарктам. Калі вярнуўся на працу, заўважыў недахоп многіх каштоўных рэчаў. Скралі і старыя кнігі. Музей у школе ёсць і цяпер, але гэта ўжо не той музей.

Увогуле, гісторыя нашай мясцовасці цікавая і захапляльная. Належалі гэтыя землі спачатку Сапегам, а праз некалькі стагоддзяў — знакамітай сям'і Мілашаў (менавіта з гэтага роду паходзіць лаўрэат Нобелеўскай прэміі Чэслаў Мілаш). Як настаўнік гісторыі ўпэўнены: гісторыя без краязнаўства — не гісторыя. Трэба ў першую чаргу ведаць мінулае сваёй мясцовасці.

## Плён дае суполка

Усё большую вядомасць набывае гісторыка-краязнаўчая суполка "Ваколіца", створаная на гістарычным факультэце ГДУ імя Ф. Скарыны. Яе заснавальнікі — выкладчыкі Кацярына Саўчык і Валянцін Міхедзька, а таксама студэнты Яўген Кавалеўскі, Вікторыя Гулевіч, Максім Новік, Віктар Ляпёшкін. Навуковы кіраўнік суполкі — кандыдат гістарычных навук, дацэнт Віктар Пічукоў.

На жаль, краязнаўства на Гомельшчыне не заўсёды мела неабходныя магчымасці і ўмовы для больш дзейснага развіцця. Але заўсёды знаходзіліся людзі, якія імкнуліся даследаваць край. Атрыманыя ж новыя веды дазваляюць нам, безумоўна, пераасэнсоўваць і ўсведамляць ужо вядомыя факты наноў. Менавіта таму сёння ў ГДУ імя Ф. Скарыны ёсць свае аматары краязнаўства, якія гатовы працягваць дзейнасць папярэднікаў. Дарэчы, студэнтамі ўжо напісаны шэраг навуковых артыкулаў у галіне краязнаўства.

Праца "Ваколіцы" не абмяжоўваецца навуковай дзейнасцю, ладзяцца і вандроўкі па цікавых мясцінах. Словам, аматары краязнаўства адкрываюць для сябе тую спадчыну продкаў, на ахову якой наша пакаленне павінна звярнуць пільную ўвагу.

Ала ДАРАШЭНКА

# Біёграф Смілавіч

"У Смілавічах я ведаю вельмі многіх, мяне ведаюць усе", — кажа краязнаўца і публіцыст Уладзімір Шулякоўскі. Ён своеасаблівым пасьянсам выкладвае на стале фотакарткі, з якіх усміхаюцца яговыя землякі: "Вось пісьменнік з цяжкім лёсам Эдуард Ярашэвіч, а гэта Люда Воўчак — чэмпіёнка турынскай Параалімпіяды ". Пра кожнага земляка Уладзімір Шулякоўскі мае сваю гісторыю і плануе ў хуткім часе сабраць іх у адной кнізе, прысвечанай людзям роднага краю.



Невялікае мястэчка Смілавічы, што ў 35 кіламетрах ад Мінска, аплецена мудрагелістым павуціннем з гісторый, паданняў, незвычайных лёсаў. Краязнаўчыя росшукі пачаліся для Уладзіміра Шулякоўскага з цікавасці да ўласнага радавода: "Адсюль, са Смілавіч, пайшоў на фронт мой бацька. Мне тады быў адзін год. Завуч нашай школы Аляксандр Сяўбо паказаў месца, адкуль яго праводзілі на вайну — ад трохпавярховага млына каля моста праз Волму. Бацька загінуў зімой 1941-га пад Масквой. У архіве я знайшоў яго чырвонаармейскую кніжку 1921 года, высветлілася, што ён удзельнічаў у рэвалюцыі ў атрадзе Галушкі, пасля ў грамадзянскай вайне, захаваліся граматы, падпісаныя Аржанікідзе, Кіравым".

Доўгі час Уладзімір Шулякоўскі даследаваў гісторыю дзвюх нацыянальнасцей, што калісьці дамінавалі ў Смілавічах, — яўрэяў і татар. У мястэчку і сёння стаіць мячэць — адна з васьмі дзеючых у Беларусі, у пасёлку пражывае больш за 200 татар, а калісьці яны складалі трэць усяго насельніцтва. "Калі пачаў пісаць пра татар, нідзе не мог знайсці даваенныя здымкі, тады згадаў, што муж нашай настаўніцы геаграфіі Айшы Сулейманаўны шмат фатаграфаваў. Звярнуўся да яе, і яна мне столькі ўсяго цікавага распавяла! Дарэчы, дала фотаздымкі, я напісаў вялікі нарыс", — распавядае краязнаўца.

Вывучаючы гісторыю смілавіцкіх яўрэяў, Уладзімір Шулякоўскі шмат часу правёў у архівах, а таксама паездзіў па гістарычных мясцінах, дзе знаходзіліся вядомыя іешывы — вышэйшыя рэлігійныя навучальныя ўстановы. Акрамя Смілавічаў, яны былі ў Міры, Валожыне ды іншых мястэчках. "Яўрэі ў Амерыцы часам не памятаюць, дзе знаходзіцца Мінск, а гэтыя месцы ведаюць вельмі добра, бо адсюль выйшлі знакамітыя людзі", — зазначае краязнаўца. Адзін з іх — Хаім Суцін — сусветна вядомы мастак-экспрэсіяніст, дзяцінства якога прайшло ў Смілавічах, а папулярнасць да яго прыйшла ў Парыжы. Уладзімір Шулякоўскі можа ў нейкім сэнсе лічыць сябе яго суседам: "Наша хата стаяла насупраць хаты Хаіма Суціна, — распавядае ён. — Муж маёй цёткі, які нядаўна памёр, пражыўшы сто гадоў і тры месяцы, вельмі добра ведаў бацькоў Суціна і шмат пра іх распавядаў".

З пляменніцамі вядомага мастака краязнаўцу даводзілася суседнічаць абсалютна літаральна: "Мы здымалі куток на Камсамольскай вуліцы, і з намі побач жылі яны, адна з іх — Ніна Ферапонтава. Калі памёр Суцін, яго сваякам з Францыі пераслалі грошы, але яны так і не змаглі іх атрымаць — КДБ прымусіла адмовіцца. Нядаўна я знайшоў Ніну Ферапонтаву, яна жыве ў Мінску, дапамагала ў стварэнні музея Хаіма Суціна, які некалькі гадоў таму адкрыўся ў Смілавічах".

Уладзімір Шулякоўскі лічыць, што ўсе знаходкі невыпадковыя: інфармацыя не знікае бясследна, дзесьці захоўваецца, нібы запісаная на магнітафонную стужку. Трэба толькі дастаць яе з глыбінь архіваў і з успамінаў сведкаў. Так, ён ўдакладніў дату масавага расстрэлу яўрэяў са смілавіцкага гета: "Ніхто дакладна не памятаў, але я ўпарта распытваў землякоў і адна жанчына згадала, што яе мама казала, нібы адбывалася гэта на Пакравы ў 1941 годзе". Тады немцы расстралялі звыш 2 тысяч смілавічан, а таксама яўрэяў, прывезеных з Гамбурга. "Мая маці згадвала, што зямля пасля "дыхала" некалькі дзён, — прыгадвае У. Шулякоўскі. — Дарэчы, сярод забітых былі і сваякі мастака Хаіма Суціна. Некаторыя лічаць, што яны эвакуіраваліся, але, думаю, гэта не так. Чуў таксама, што яўрэі ішлі на расстрэл пакорліва. Аказваецца, многія спрабавалі выратавацца. Расказвалі, што хлопец і дзяўчына беглі да Волмы. Схаваліся ў явары, але немец заўважыў іх і застрэліў, целы ўпалі ў раку, і толькі вясной знайшлі іх пад лёдам каля млына".

Такіх малюнкаў, трагічных, красамоўных, па драбніцах, сабраных са слоў сведкаў, Уладзімір Шулякоўскі мае багата. Яны часта друкуюцца ў перыёдыцы — у газетах "Вячэрні Мінск", "Звязда", "ЛіМ", "Советская Белоруссия", у «Краязнаўчай газеце", "Народнай газеце", "Мінскай праўдзе". Гэта сапраўдныя "казкі жыцця" Смілавічаў, напісаныя заўсёды вострасюжэтна, яны больш падобныя да захапляльнай прозы, чым да публіцыстычных нататак.

Гісторыю вёсачкі Палянкі, што ў сямі кіламетрах ад Смілавічаў, Шулякоўскі распавядае кожны раз з новымі мастацкімі дэталямі. Вёска гэтая была заснаваная маладым леснікам Іванам Філіповічам у канцы XIX стагоддзя сярод бярозавага гаю, у прыгожым месцы, багатым ягадамі, грыбамі і дзічынай. Самыя страшныя выпрабаванні выпалі на долю Палянкі напрыканцы вайны, у 1944 годзе, тады вёска цудам пазбегла лёсу Хатыні. Хаты і хлявы былі амаль цалкам спаленыя, але людзей, дзякуючы нейкаму дзіўнаму збегу абставінаў, немцы ў апошні момант не пакаралі. Пасля вайны вёска была адбудаваная, але праз нейкі час зноў знікла — на гэты раз з картаў і даведнікаў населеных пунктаў Беларусі. Толькі нядаўна намаганнямі жыхароў Палянкі была афіцыйна вернутая яе гістарычная назва.

Гісторыя жыве за кожным паваротам смілавіцкіх дарог — у старажытным палацы, што калісьці належаў роду Агінскіх, а пасля Манюшкам і Ваньковічам, у праваслаўнай царкве Святога Георгія Пераможцы, куды да айца Валяр'яна прыязджаюць паломнікі з многіх краін, бо ён малітвамі выганяе з целаў хворых нячыстую сілу, свая таямніца хаваецца ў парку дрэваў-экзотаў, асобныя з якіх былі пасаджаныя Казімірам Манюшкам 200 гадоў таму, на старых яўрэйскіх могілках і нават у будынку гарбарнага завода — словам, увесь жыццяпіс Смілавічаў цяжка ахапіць. Уладзімір Шулякоўскі як краязнаўца спрабуе зірнуць на гэтае загадкавае мястэчка панарамна, намагаецца разгледзець патаемную гісторыю, сплеценую з паданняў і легенд. І ў самым літаральным сэнсе імкнецца агледзець родныя Смілавічы з вышыні птушынага палёту: "Некалькі гадоў таму, памятаю, уздымаўся на водаранапорную вежу, каб сфатаграфаваць Смілавічы зверху. Я чалавек рызыкоўны".

Саша ДОРСКАЯ

# Пільны позірк у стагоддзі

Пазалетась, у 2008 годзе, у Брэсце прайшла міжнародная канферэнцыя "Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследавання". Арганізатары унікальнага па задуме праекта — Брэсцкі аблвыканкам і абласная бібліятэка імя М. Горкага. Па выніках канферэнцыі, удзел у якой прынялі даследчыкі кніжнай культуры не толькі з Беларусі, але і з Літвы, Польшчы, Расіі і Украіны, выдадзены зборнік матэрыялаў "Берасцейскія кнігазборы" [Брэст, "Паліграфія", 2010]. Складальнікі А. М. Мяснянкіна і Т. С. Кавенька.

Артыкулы, якія ўвайшлі ў зборнік, змешчаны ў трох раздзелах: "Кніжная спадчына і яе сённяшні лёс", "Кніга і бібліятэчная справа на Берасцейшчыне ў XIX — XX стст.", "Кнігі і кніжная культура Берасцейшчыны XVI — XVIII стст.". Рабочымі мовамі канферэнцыі былі беларуская, польская, руская і украінская, на якіх і друкуюцца артыкулы. Многія матэрыялы, змешчаныя ў "Берасцейскіх кнігазборах", чытаюцца быццам сапраўдны дэтэктыў па гісторыі кнігі, кніжных скарбніц. Аўтары, расказваючы пра свае бібліятэкі, задаюцца пытаннем: "Што тут будзе карысна рэгіянальнаму краязнаўцу і кнігазнаўцу?.."

Адметнасць дакладаў, агучаных на канферэнцыі, яшчэ і ў тым, што іх змест — абсягі для болей шырокага пранікнення ў гісторыю кніжнай культуры. Яркі прыклад у гэтым плане — артыкулы В. Герасімава ["Рарытэты Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь і іх роля ў рэгіянальных краязнаўчых даследаваннях"], Л. Доўнар ["Кніжная справа Брэст-Літоўска ў XIX — пачатку XX стст."], Л. Коўкель ["Прыватныя кнігазборы Берасцейшчыны ў XIX стагоддзі"], А. Ільін ["Имение Гремячекультурный очаг Полесья конца XIX — начала XX века"], І. Сацута ["З гісторыі народных бібліятэк Берасцейшчыны"] і іншыя.

Як адкрыццё па сённяшнім часе — зварот да нашаніўскай нататкі за 1909 год: "За 1908 год бібліятэка (размова пра Астрамечаўскую кніжніцу. — К. С.) выдала 2 тысячы 500 кніг. Найбольш кніг чытаюць позняй восенню. Чацвёртая частка чытачоў — кабеты і дзяўчаты. Карысць ад кніг вялікая. У іх напісана ўся мудрасць, да каторай дайшоў свет. Адзін чалавек, як пачаў чытаць кніжкі, дык кінуў піць гарэлку. Там жа напісана: "Астрамечаўская бібліятэка прасіла ў воласці 25 рублёў з штрафаў, каб папраўвіць кніжкі, што бадзяюцца па руках, падзёрліся. Воласць павінна адпусціць, бо чытаюць усе вёскі гэтай воласці…"

Наклад кнігі "Берасцейскія кнігазборы", якая, несумненна, знойдзе свайго чытача, 500 асобнікаў. Фінансаванне праекта ажыццявіў Брэсцкі аблвыканкам.

Кастусь СЕМЯНОВІЧ

## Культура слова

## Агонь і вогнішча

З малых гадоў помняцца мне мацерыны словы: "Прайдзі на луг, пад вогнішча…" Як цяпер, бачу пры адзінокай, з сукамі-патырчакамі старой хвоі даўно выгаралую сярод зялёнай травы лапіну з чорным вуголлем, ўпляскаными даждамі ў сівы попел, — тое старое пастухоўскае вогнішча. Вогнішча — так у нас называюць месца, дзе гарэў агонь. У друку ж вельмі часта чытаю: "расклаў (ці распаліў) вогнішча". Для мяне гэты выраз гучыць проста дзіка, бо я разумею яго так: "расклаў (ці распаліў) месца, дзе гарэў агонь". Вогнішча — адпаведнік рускаму кострище. І толькі! Гэтак жа, як азярышча — месца, дзе было возера. Рускае ж костер у нас разумеецца як агонь: развёл костер — расклаў агонь. Адназначна тлумачыць рускаму чытачу беларускае слова вогнішча Іван Насовіч у сваім "Слоўніку беларускай мовы": "вогнішча — огнище, пепелище". І прыводзіць такі прыклад: "Раскладзі агонь на старым вогнішчы".

Рыхтуючы да друку аднатомнік выбраных твораў Алены Васілевіч у серыі "Беларускі кнігазбор", я запыніўся ў яе апавесцях на гэтым вогнішчы ў значэнні агонь: "У Мані ёсць план: іці усім гуртам на палянку, раскласці там вогнішча і частавацца". "У вас на Случчыне, праўда, так кажуць?" — пытаюся ў Алены Сямёнаўны. "Не, у нас кажуць раскласці агонь", — адказала вядомая пісьменніца. А напісала яна вогнішча, бо так патрабавалі слоўнікі, а за імі — і карэктары. "Папраўце, калі можна, на агонь", — сказала мне Алена Васілевіч. І мы выканалі аўтарскую волю.

Кастусь ЦВІРКА



Філакартыст Вадзім СЯДОЎ родам з Віцебска, беларус, які жыве ў Санкт-Пецярбургу, дзе досыць актыўная беларуская дыяспара і адкуль прыходзяць найцікавейшыя звесткі з гісторыі нашай краіны. Дастаткова згадаць аднаго з галоўных даследчыкаў Вялікага княства Літоўскага, загадчыка аддзела рэдкай кнігі Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі Санкт-Пецярбурга Мікалая Нікалаева, які расшукаў у Расіі шмат дагэтуль невядомых дакументаў. Здавалася б, аматарскае захапленне Вадзіма між тым таксама дае магчымасць вывучэння некаторых "белых плямаў" нацыянальнай гісторыі. Беларусы ў замежжы не толькі зберагаюць гістарычную памяць пра бацькаўшчыну, але і адкрываюць дагэтуль невядомыя яе старонкі.

# Паштоўкі з мінулага

Пасля вучобы ў сярэдняй школе ў родным Віцебску Вадзім паступіў у авіяцыйны інстытут у Піцеры. І застаўся там працаваць на ваенным заводзе. Затым выкладаў у каледжы, потым запрасілі яго начальнікам аддзела ў Камітэт па адукацыі Ленінградскай вобласці, дзе цяпер і працуе.

Збіраць паштоўкі ён пачаў гадоў 25 таму. Пераважна — з выявамі горада Віцебска, усёй Беларусі. Захапіўся і рэдкімі кнігамі. Але галоўная ў яго зборы — калекцыя паштовак пра родны горад — каля 700 картак. Прычым, калекцыянер не далучае да гэтага ліку паштоўкі пасляваенныя. Яго збор дакладна пазначаны часам: назапашваецца ў асноўным тое, што выдавалася да вайны і да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года.

— Пастаянна наведваю гарады, дзе збіраюцца калекцыянеры, часта бываю ў Маскве, выязджаю за мяжу, — расказвае Вадзім. — Імкнуся да мясцін, дзе адкрываецца магчымасць набыць тое, што цябе цікавіць.

Чаму паштоўкі менавіта пра Віцебск? — "Дык гэта ж малая радзіма! Яго цяпер практычна не пазнаць. Тое, што было да рэвалюцыі — зусім іншае, іншы горад! Гісторыя маёй радзімы, яе сённяшні дзень заўсёды мяне цікавілі. Знаходзячыся цяпер ужо за мяжой (іншая дзяржава), я заўсёды цікаўлюся роднай старонкай. І літаратурай, і мовай. Паколькі вучыўся ў школе ў Віцебску, мову, натуральна, добра ведаю, не забываюся на яе. З задавальненнем чытаю беларускія тэксты. Любоў да Айчыны, да малой радзімы і сталі штуршком для збірання калекцыі."

Віцебск — найперш горад Шагала. І пра "палёт" над горадам — традыцыйнае пытанне да мастакоў, краязнаўцаў, гісторыкаў. Чаму — Віцебск, чаму менавіта палёт над ім? Давялося неяк пачуць асабістае тлумачэнне карэннага жыхара: толькі Віцебск стварае непаўторнае, ні на што не падобнае надзвычай прыемнае адчуванне прасторы, магчыма таму, што раскінуўся ён на высокіх пагорках. Дзе яшчэ ў свеце ўбачыш дзве ракі, калі адна ўпадае ў другую ў такім глыбокім бяздонні?

— А пра Шагала... Я падабраў усе выдадзеныя ў свеце паштоўкі пра знанага мастака. Але картак, так ці інакш звязаных з яго асобай, няшмат. Здалёк згадваюцца мясціны, дзе ён нарадзіўся, школа, дзе вучыўся, вуліца, дом, дзе пражываў з Бэлай. Але яго творчасць больш багата прадстаўлена на марках.

Люблю глядзець на выявы тых вулачак, якія, на жаль, не захаваліся. Але цяпер у горадзе многае аднаўляецца. Самыя прыгожыя дамы, найперш, храмы адбудоўваюцца. Гэта правільна! Шкада, што ўсё гэта ў свой час знішчылася. Цяпер Свята-Успенскі сабор адрэстаўравалі, шэраг іншых цэркваў горада аднавілі. Можа, дзякуючы таму, што і карткі такія ёсць. Адзін час у горадзе жыло каля 70 працэнтаў яўрэяў. Між іншым, яны таксама адлюстраваныя на паштоўках. Столькі людзей на іх!

Для звычайнага чалавека погляд на паштоўку чыста эстэтычны. Калі яе бярэ ў рукі калекцыянер, то бачыць значна большае: майстэрства мастака, дакументальную гістарычную аснову, якая ў ёй закладзена, ацэньвае якасць паліграфічнага выканання, параўноўвае розныя гатункі паперы. І нават нахіл рукі чалавека, які рабіў на ёй надпіс, пра многае можа сказаць. "У той час шмат дасылалася не пісьмаў, а менавіта паштовак. Вось чалавек прыехаў у Віцебск, яму трэба перасаджвацца на поезд, але перад гэтым паведаміць родным, што ўсё добра. Ён на вакзале купляе паштоўку і піша: праз дзве гадзіны я буду... і называе іншы гарадскі цэнтр, злучаны шляхамі з Віцебскам. На вакзале было сваё паштовае аддзяленне, ставіўся штэмпель: "Віцебск, вакзал". Запісы часам досыць цікавыя: помню ўхвальныя словы маладога чалавека, які ўпершыню пабываў у краі: горад вельмі прыгожы!... — распавядае пра калекцыю і яе міжвольных суб'ектаў Вадзім. — Можна з перакананасцю сказаць: тым, хто бываў у Віцебску, горад, насамрэч, падабаўся. На паштоўках, і праўда, ён выглядае надзвычай і неверагодна прыгожым. Цікава ўсё: як людзі жылі, як апраналіся. Нават можна пабачыць унутранае ўбранне пакояў. На адной з картак паказаны тыповы дом канца XIX ст. Між іншым, ёсць дэталі, звязаныя з паляваннем. Напэўна, на Віцебшчыне было шмат мядзведзяў. Ды і проста цікава пабачыць, як выглядаў горад сто і больш гадоў таму".




Паштоўкі ў той час выдавалі не толькі буйныя выдавецтвы Масквы, Санкт-Пецярбурга, Стакгольма. Шмат картак выходзіла ў свет у Вільна. Але друкавалі іх і тыя, хто жадаў і меў сродкі на гэта. Тыражамі, як правіла, ад трох да пяці тысяч.

Мова друкаваных надпісаў — пераважна руская, але сустракаюцца і экземпляры з іншаземнымі пажаданнямі, прыкладам, на нямецкай мове. Паштоўкі трыццатых гадоў, пазней — ужо з надпісамі па-беларуску.

"Людзі актыўна цікавяцца гісторыяй сваіх гарадоў. Не толькі Мінска, Віцебска. Інфармацыі пра іх, асабліва невялікіх, мы практычна не маем, а на паштоўках яна ёсць!" — Вадзім прыводзіць прыклад: па Баранавічах толькі немцы ў першую сусветную вайну выдалі звыш 200 паштовак.

Самая ранняя паштоўка ў калекцыі Вадзіма Сядова датуецца 1898 годам. Гэта пачатак такога віду выдання па Віцебску.

Маўклівыя сведкі нашай гісторыі па-свойму падзяляюць яе на перыяды. Да прыкладу, у ваенны час іх якасць (асабліва кардону) стала горшаю. Але гэты час цікавы менавіта тым, што больш выразная палітра саміх паштовак. Адкрыліся магчымасці рабіць фотаздымкі — і дасылаць сваякам фотапаштоўкі. Людзі актыўна перамяшчаліся, з'явілася адпаведна большая патрэба ў паштовай сувязі і паведамленнях. Таму такога фармату паперы для напісання патрабавалася больш. І палітра іх, і тыражы павялічыліся. Пасярэвалюцыйныя паштоўкі — больш ідэалагізаваныя. На іх можна сустрэць фрагменты дэманстрацый, мітынгаў.

Але чым далей ад часу, дакументальнымі сведкамі якога сталі паштоўкі, тым цяжэй іх знаходзіць. Асноўная калекцыя сабраная, і цяпер у Вадзіма ў год прыбаўляецца адзін-два новыя экземпляры. Паколькі калекцыянеры адзін аднаго добра ведаюць, кантактаваць ім лёгка, асабліва пры наяўнасці Інтэрнэта. У Кіеве, Маскве, Піцеры раз на месяц праводзяцца вялікія зборы, дзе сустракаюцца зацікаўленыя. Вадзім Сядоў сябруе з калегамі ў Віцебскім краязнаўчым музеі, падтрымлівае стасункі з гарадскім Музеем прыватных калекцый.

Асэнсаванне значнасці такіх збораў яшчэ наперадзе, і чакае свайго спрыяльнага часу. У савецкі перыяд, да прыкладу, захапленні калекцыянераў не віталіся. Лічылася, калі зборы будуць у іх — не будзе чаго дэманстраваць у музеях. Памылковасць падобных падыходаў і перакананне, што насамрэч якраз усё наадварот, сталі відавочнымі ўжо ў наш век. І ў Мінску зусім нядаўна прайшла Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя па пытаннях узаемадзеяння паміж дзяржаўнымі ўстановамі, музеямі і прыватнымі калекцыянерамі. Дзяржаўныя архіўныя ўстановы могуць дапамагчы ў збіранні прыватных калекцый. Шмат у чым карысным стане для дзяржавы і шматгадовы невычэрпны досвед прыватнікаў. На выстаўцы, якая працавала падчас навукова-практычнай канферэнцыі, мо ўпершыню за доўгія гады аб'ядналіся матэрыялы з калекцый музеяў і калекцыянераў. Прадэманстравалі плён такога творчага саюза. А ў адзіным на тэрыторыі СНД музеі дзіцячай паштоўкі ў Гатчыне (Ленінградская вобласць) паўмільёна экспанатаў. І сюды завітваюць нават настаўнікі — каб зрабіць падборку па любой тэме, датычнай гісторыі ці геаграфіі. Паштоўкі таннейшыя, чым, тыя ж манеты, і збіраць іх у нейкім сэнсе прасцей. Але калекцыянераў паштовак стала значна больш гадоў 15 таму, калі людзі сталі сур'ёзна цікавіцца менавіта гісторыяй.




Ірына ТУЛУПАВА

На здымках: Вадзім Сядоў; ілюстрацыі з калекцыі В. Сядова, падараваныя У. Ліхадзедаву.

Фота Кастуся Дробава

# Яркія гронкі памяці

**У вёсцы Фёдараўка Рагачоўскага раёна знаходзіцца магіла Лізаветы Паўлоўскай. У мінулым годзе на месцы яе пахавання адбылася паніхіда і быў адкрыты помнік гэтай незвычайнай жанчыне.**

Лізавета Іванаўна — маці вядомага пісьменніка, публіцыста, дзяржаўнага і грамадскага дзеяча, нашага земляка Уладзіміра Дзедлава (Кігна). Нарадзілася яна ў 1830 годзе ў сям'і падпалкоўніка царскай арміі ў Магілёве. Тут прайшло яе дзяцінства і юнацтва, тут яна атрымала пачатковую адукацыю — скончыла гімназію. Дзяўчынка выхоўвалася ў добрых дэмакратычных традыцыях, сярод літаратурных і культурных інтарэсаў, цікавасці да духоўнай культуры народа. Не без разумення і падтрымкі бацькоў яна захапілася вуснай народнай творчасцю. У Быхаўскім павеце знаходзіўся маёнтак блізкіх сваякоў, дзе часта бывала дзяўчына-дзяўчына-дваранка, беларуска па паходжанні, якая блізка да сэрца ўспрыняла шчырую песню свайго народа.

Лізавета Паўлоўская склала зборнік "Народныя беларускія песні" (выдадзены ў 1853 годзе на рускай мове ў Санкт-Пецярбургу пад крыптанімам Е. П.). У кнігу ўвайшлі творы каляндна-абрадавай і пазаабрадавай народнай лірыкі, запісаныя ў Быхаўскім павеце. Значнае месца адведзена апісанню розных месцаў, вясельнага абраду і тэкстам звязаных з ім песень.

У 1853-м у Магілёве Лізавета Паўлоўская пазнаёмілася з маладым юрыстам Людвігам Іванавічам Кігнам. Яны абвянчаліся ў 1855 годзе і неўзабаве пераехалі ў Тамбоў у сувязі з пераводам мужа па службе. Там у іх нарадзілася трое дзяцей: Уладзімір, Аляксей, Вольга. Аднак у 1860-м у час пажару згарэў іх дом. Сям'я вымушана была вярнуцца ў Беларусь. Яны знайшлі прытулак у дзядзькі Лізаветы Іванаўны ў вёсцы Фёдараўка Рагачоўскага павета, неўзабаве Фёдараўка перайшла да Кігнаў. А крыху пазней сям'я перабралася на хутар Дзедлава, які набыла ва ўласнасць.

У Фёдараўцы і правяла ўсё астатняе жыццё Лізавета Паўлоўская. Выхоўвала сялянскіх сірот. У вёсцы былі пабудаваны бальніца і лазня для сялян. А ў двух кіламетрах ад Дзедлава, у вёсцы Асмолавічы, Лізавета Іванаўна пабудавала школу ў гонар загінуўшага сына Уладзіміра. У аднапавярховым, з чырвонай цэглы будынку і да нядаўняга часу была школа.

Калі пачалася Першая сусветная вайна, Лізавета Іванаўна на ўласныя грошы пабудавала побач са сваім домам лазарэт, у якім сама — ужо васьмідзесяцічатырохгадовая жанчына — даглядала параненых і знявечаных на фронце салдат.

Па ўспамінах фёдараўскіх старажылаў, яна памерла ў 1916 годзе. Дом Кігнаў згарэў у грамадзянскую вайну. Разам з асабістым архівам Лізаветы Іванаўны загінула багатая бібліятэка, карціны і малюнкі сяброў Уладзіміра Кігна — Віктара і Апалінарыя Васняцовых. І трэба быць удзячнымі Лізавеце Іванаўне за тое, што большую частку архіва старэйшага сына (а там былі лісты Тургенева, Чэхава, Васняцовых і многія іншыя каштоўныя дакументы) яна перадала ў Пушкінскі дом.

Сёлета спаўняецца 180 год з дня нараджэння пісьменніцы і фалькларысткі Лізаветы Паўлоўскай. На яе магільнай пліце напісана:

Вясельныя песні роднай старонкі
Сабрала ты сэрцам у яркія гронкі,
Як кветкі ў вянок, спавіла душою,
Шануем цябе і ў думках з табою.

Памяць пра дзяўчыну-беларуску, якая за восем гадоў да адмены прыгоннага права выпусціла зборнік "Народныя беларускія песні", памяць пра добрае і мужнае сэрца, якое шчыра любіла свой народ, жыве.

Міхась КАВАЛЁЎ

# Доўгае вяртанне дадому

У даследчыкаў беларускай літаратуры і ўсіх неабыякавых да гісторыі роднага прыгожага пісьменства з'явілася нагода для радасці — у выдавецтве "Беларускі кнігазбор" пабачылі свет "Выбраныя творы" Рыгора Кобеца.

Ведучы гаворку пра гэтую кнігу, трэба, мабыць, спачатку не столькі і не толькі пісаць пра змест і мастацкія якасці, колькі пра доўгую дарогу дадому спадчыны чалавека, настолькі аддаnага літаратуры і мастацтву, што гэтую адданасць не змаглі знішчыць ні доўгія гады пакутаў, ні людская здрада, ні страта здароўя…

Нягледзячы на тое, што Рыгор Кобец пакінуў значны след у нашай культуры, імя яго вядома далёка не кожнаму — занадта доўгім быў шлях гэтага пісьменніка да сучаснага чытача. Пра гэта падрабязна распавядае ў прадмове да кнігі дачка і нястомны папулярызатар творчасці бацькі Алена Рыгораўна Кобец-Філімонава. Зацікаўлены чытач адразу прыгадае яе кнігу "Калі ўцякала сонца", якая выйшла колькі год таму. Пасля грунтоўнага даследавання жыцця і творчай біяграфіі Рыгора Кобеца, прадстаўленых у кнізе дачкі, сапраўды заставалася толькі адно — прапанаваць доўгачаканае сур'ёзнае выданне твораў пісьменніка.

"Выбраныя творы" ўключаюць п'есу "Гута", чатыры кінасцэнарыі, эсэ, успаміны і рускамоўную аповесць пра ГУЛАГ "Ноев ковчег". Акрамя гэтага, чытач мае магчымасць пазнаёміцца з эпісталярнай спадчынай пісьменніка і невялікім раздзелам "Сучаснікі пра Рыгора Кобеца", у якім змешчаны ўспаміны Анатоля Вольнага, Рыгора Рэлеса, Ільі Рэзніка, Валянціна Тараса, Яфіма Садоўскага і іншых.

Значную ролю ў літаратурным жыцці Р. Кобеца адыграла п'еса ў трох дзеях "Гута", якая ў свой час карысталася вялікай папулярнасцю. Прысвечана яна актуальнаму на час напісання пытанню індустрыялізацыі вытворчасці. Зрэшты, у п'есе ўсё дыхае паветрам свайго часу — і расстаноўка аўтарскіх сімпатый, і асноўная праблематыка, і матывацыя дзеянняў герояў… Усё гэта чытач адчуе з першых радкоў. Сёння "Гута", безумоўна, з'яўляецца цікавым фактам сваёй эпохі і карысным матэрыялам для літаратуразнаўцаў. Сапраўды, даследаванні па гісторыі беларускай драматургіі і тэатра без разгляду гэтай п'есы — як са сцэнічнага, так і з мастацкага боку, — не можа быць поўнай, як і ўвогуле гісторыя беларускай літаратуры 1920 — 1930-х гг.

Асаблівую цікавасць уяўляе аповесць "Ноев ковчег". Нагадаем, што ўпершыню яна была надрукавана ў скарачэнні ў № 3 часопіса "Нёман" за 1989 год. Падчас чытання наступна будзе ўзнікаць у памяці "Адзін дзень Івана Дзянісавіча" А. Салжаніцына — па сутнасці, Р. Кобец таксама апісвае адзін дзень з лагернага жыцця свайго героя. (Зрэшты, у каментарыях гэты ўплыў адзначаны). Зразумела, аповед пашыраецца за кошт рэтраспекцый і ўстаўных апаведаў, не



менш цікавых за асноўнае дзеянне. Аповесць напісана надзвычай таленавіта, яскрава, з лёгкім гумарам, што асабліва адцяняе трагічнасць падзей. Аднак нават самыя змрочныя старонкі лагернага жыцця, апісаныя ў гэтай аповесці, пакідаюць не такое ўражанне, як чытанне лістоў пісьменніка з высылкі да сваіх родных і калег.

Дзякуючы сваёй рознабаковасці, кніга гэтая цікавая не толькі самімі творамі, але і як крыніца вывучэння асаблівасцей творчага працэсу — і датычна да канкрэтнай эпохі, канкрэтнага пісьменніка, і ў шырокім, універсальным сэнсе слова. Сапраўды, лісты Р. Кобеца да сваякоў і калег, яго празаічныя творы паказваюць не толькі псіхалагічны стан пісьменніка, трагічныя перыпетыі часу, але вельмі часта — і працэс нараджэння твора і гісторыю яго шляху да чытача, тое, што вельмі часта застаецца таямніцай. Па вялікім рахунку, для звычайнага чытача такія рэчы такімі і павінны заставацца, але для філолага, даследчыка літаратуры гэта мае неацэннае значэнне.

Таму і мастацкія творы Р. Кобеца цікава будзе даследаваць з пункта гледжання дэфармацыі мастацкай праўды на карысць ідэалагічных прыярытэтаў, уплыву актуальных рэалій свайго часу на свядомасць і творчасць пісьменніка. Гэта тая сітуацыя, пра якую падрабязна пісаў М. Мушынскі ў кнізе "Тэксталогія твораў Якуба Коласа": даследуючы творы, напісаныя ў 1930-я гг., мы павінны ўлічваць дэфармацыю аўтарскай задумы пад уплывам унутраных псіхалагічных і знешніх ідэалагічных фактараў. Варта адзначыць, што стварэнне характараў, складаных псіхалагічных калізій, адлюстраванне побыту сапраўды ў творах Кобеца на ўзроўні. І тыя сцэны, у якіх апісваецца "вострая класавая барацьба", яскрава адлюстроўваюць яшчэ і тое, як прырода таленту пісьменніка ўступае ў супярэчнасць з патрабаваннямі часу. Моманты, дзе выкрываюцца шкоднікі, ворагі, кулакі і г. д. выглядаюць схематычна і шаблонна, аднак гэта падаецца цалкам заканамерным у кантэксце літаратуры адпаведнага часу.

Хацелася б, каб кніга А. Кобец-Філімонавай "Калі ўцякала сонца" і "Выбраныя творы" самога Кобеца неўзабаве займелі працяг у выглядзе навуковай манаграфіі, у якой на належным літаратуразнаўчым узроўні будзе асэнсавана творчая спадчына пісьменніка і яго месца ў гісторыі беларускай літаратуры і тэатра.

Жанна КАПУСТА

# Зорка паэзіі

Газеты, апрача "ЛіМа", сёння не спяшаюцца друкаваць вершы. Планы выпуску мастацкіх твораў зацягнуліся на гады. Адбілі ахвоту ў людзей заглядаць у кнігарні. Што ж тады застаецца важнейшай трыбунай зносін беларускага пісьменніка з народам? У пошуках выйсця, аказваецца, не апошняе месца займае сам аўтар, асабліва калі ён і майстар літаратуры, і таленавіты арганізатар. Гэта выдатна пацвердзілася на вопыце паэта Андрэя Скарынкіна, які сёння вельмі запатрабаваны публікай. Ён выдае свае кнігі і шмат выступае ў розных залах як палымяны прапагандыст сваёй творчасці.



Утульная, ярка асветленая галерэя "Лабірынт" Нацыянальнай бібліятэкі рэспублікі. У добрым настроі прыйшлі сюды людзі, чытачы, з нагоды прэзентацыі новай кнігі А. Скарынкіна "Чорны бусел", выдадзенай у серыі "Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі". Прыйшлі тыя, хто даўно ведае паэта, і ўсе тыя, хто чуў пра яго арыгінальную творчасць.

Адкрыла сустрэчу актрыса тэатра і кіно Ірына Нарбекава. Дасціпна распавяла пра творчасць паэта, яго кнігі "Багряные сумерки", "Скорбный гость", "Соврасина", "Полет над блудницей", "Альфа и омега"… Знайшліся і яшчэ цікавыя прамоўцы. Старэйшына беларускай літаратуры, ветэран вайны Алесь Савіцкі сказаў, што ён уважліва сочыць за выхадам кніг Андрэя Скарынкіна. І новую кнігу "Чорны бусел" адразу заўважыў. Слухачоў вельмі ўразілі словы А. Савіцкага пра тое, што паэт піша пра салдатаў, якія абаранялі сваю зямлю і сваю культуру ад заклятага ворага. Ён падзякаваў Андрэю за сыноўнюю памяць пра вайну.

Анатоль Аўруцін, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, распавёў, што Андрэй Скарынкін рос на яго вачах, творча і прафесійна, і што ён, дзе мог, дапамагаў яму. Яго шматлікія кнігі і гэта новая "Чорны бусел" — несумненнае дасягненне беларускай нацыянальнай літаратуры.

Цікава гаварыў вядомы мастак, выдатны жывапісец Аляксей Кузьміч, які ўзнёс харство жанчыны да самых нябёс. Нездарма ж кажуць, што сапраўдны мастак можа сказаць больш праўды, чым келейны летапісец ці засушаны пратакаліст:

— Мяне ўражвае яго яркае метафарычнасць і вобразнасць пакутаў чалавечых, якія пазначаны жаночымі лёсамі…

Міхаіл Солапаў, прафесар Беларускай акадэміі музыкі, пачаў свой выступ з музычнай адукацыі сучаснай моладзі і жыццёва важных адносін музыкі і паэзіі. У старажытнасці адна прыгожая жанчына Эўтэрпа ўвасабляла сабой адну музу — паэзіі і музыкі. Гэта не толькі цікава, але і напамінае, што без якаснай літаратурнай асновы не можа быць добрай оперы ці песні, і што не змяншаецца адказнасць пісьменніка за сваю творчасць, якая можа стаць падмуркам музычнай культуры. У гэтым сэнсе ён падзякаваў паэту Андрэю Скарынкіну за яго таленавітыя творы, якія ўжо сталі песнямі. Гуказапісваючыя кампаніі выпусцілі тры альбомы з музычнымі творамі на словы паэта. Яны гучаць па радыё і з тэлеэкранаў.

Пасля выступіў і сам паэт. Ён падышоў да мікрафона — просты, крыху сарамлівы. Скарынкін пачаў гаварыць пра час і пра сябе. Хвалюючыся, дадаў пра важнае:

— Я ўдзячны сваім бацькам за сваё з'яўленне на свет. Яны ў мяне добрыя, адукаваныя. Але ж з маленства ты ўжо глядзіш у вочы навакольнага свету, таго жыцця, у якім шмат высакароднага і драматычнага. Ты — часцінка грамадства, ад цябе скіраваны надзеі і памкненні. Без запатрабаванасці ў часе я не стаў бы паэтам. Дапамаглі пакуты…

А. Скарынкін гаварыў пра сучаснае развіццё грамадства і творчасці, што радуе і засмучае, пра матэрыяльныя і духоўныя прыярытэты чалавека і яго бліжэйшую будучыню. Ён сказаў: "Самая моцная сіла на зямлі — гэта энергія чалавечага духу". Пасля чытаў свае вершы: "Предсказание", "Послание к царям", "Сдача Бородина", "Слово к вождю перестройки", "Молчание Кремля" і іншыя, у якіх трывожна б'ецца паэтычная думка.

Слухачы пераканаліся, што паэт піша сэрцам і гаворыць сэрцам, якое ў нейкія імгненні прыкметна хвалюецца, пакутуе, і гэта перадаецца ім. Літаратурны герой А. Скарынкіна можа дзе і памыляецца, а дзе залішне арыгінальны, занадта наватарскі, смелы, але яму нельга не верыць. У пошуках ісціны галоўнае — не страціць чалавечае сумленне, быць адданым свайму мастакоўскаму прызванню. Усяго гэтага трымаецца Андрэй Скарынкін, які тонка адчувае творчую манеру А. Пушкіна і М. Лермантава, Якуба Коласа і Янкі Купалы, М. Багдановіча і К. Крапівы ды іншых сучасных паэтаў.

Эдуард КАРНІЛОВІЧ

На здымку: аўтографы ад Андрэя Скарынкіна.

Фота Уладзіміра Чэсных

## Кніжная паліца



У РВУ "Літаратура і Мастацтва" выйшаў раман Алега ЖДАНА "Князь Мстиславский". Падзеі ў творы разгортваюцца на пачатку XVI стагоддзя падчас абвастрэння тэрытарыяльных спрэчак паміж Расіяй і Польшчай. Гэта выбар князя Жаслаўскага, які апынуўся перад выбарам: перайсці на бок Васіля III ці напярэдадні галоднай зімы працягваць карміць вялікае расійскае войска? Ён зрабіў выбар, дзякуючы якому застаўся ў гісторыі як князь Мсціслаўскі.



У Брэсце ў выдавецтве "Альтэрнатыва" выйшаў зборнік вершаў і паэм Любові КРАСЕЎСКАЙ "На два голоса". Гэта другая кніжка рускамоўнага аўтара. Вершы Л. Красеўскай — гэта дыялог паэтэсы з жыццём, са светам прыроды і з уласным "Я". Гэта не заўжды па-жаночы напісаныя, але вельмі жаночыя творы. Па-таварыску цёплую прадмову да кніжкі напісаў паэт з Пінска Валерый Грышкавец. Рэдактар Анатоль Крэйдзіч.



У РВУ "Літаратура і Мастацтва" выпушчаны зборнік вершаў Рыгора САКАЛОЎСКАГА "Доверясь чувству одному…". Прызнанні ў любові да сваёй зямлі, да малой радзімы, да людзей, якія з'яўляюцца асновай трываласці і росквіту Беларусі складаюць змест гэтай цікавай кнігі вядомага рускамоўнага паэта. Усе вершы напісаны пераважна апошнім часам, таму праз іх метафорыку, як скрозь прызму, выкрышталізоўваецца наша сучаснае беларускае жыццё.



Выдавецтва "Чатыры чвэрці" выпусціла ў свет кнігу вершаў Андрэя ШАЦІЛІНА "ТроеЦарствие". Гэта зборнік арыгінальнай паэзіі, дзе аўтар метафарычна і вобразна разважае пра надзённае жыццё чалавека і вечныя каштоўнасці зямнога свету. Шматлікія пасылы і асацыяцыі ў часе і прасторы, у словах і ў падсвядомасці, гістарычныя дзеі і знакі спрадвечнай духоўнасці чалавецтва міжволі змушаюць чытача стаць саўдзельнікам гэтага паэтычнага спектакля, імя якому — жыццё.



У выдавецтве "Лімарыус" выйшаў альманах "Асоба і час". У першы выпуск увайшлі матэрыялы, прысвечаныя як добра вядомым асобам (Васіль Быкаў, Янка Брыль, Зоська Верас, Фёдар Фёдараў, Пётр Машэраў), так і тым, хто пакуль не стаў часткай свядомасці нашага народа, але заслугоўвае таго. Укладальнік А. Фядута.



У Гродне пабачыла свет новая кніга вершаў Марыі ШАЎЧОНАК "Озёрная святыня". Гэтым разам — на рускай мове. Як напісала паэтэса ў вершы, якім адкрывае кнігу: "Стихи мне иногда покоя не дают, // Порой от них совсем спасенья нету. // Ну что же? Пишутся — пускай живут, // Надеюсь, что не засорят планету". Агулам жа кніга прысвечана маме. На ее старонках шмат твораў рэлігійнай тэматыкі.

# Стваральнік галоўнай кнігі

Не, я не памыліўся наконт нашай галоўнай кнігі. Мяркую, што менавіта яе цягам усяго свайго жыцця стварае Анатоль Канстанцінавіч Клышка. Бо якая яшчэ іншая кніга можа лічыцца нашай і галоўнай? Вядома ж, "Буквар". Наш беларускі настаўнік для кожнага маленькага беларуса. Вось ужо сорак адзін год юныя жыхары Беларусі пачынаюць сваё школьнае жыццё, а, значыць, свядомае далучэнне да галоўных сімвалаў дзяржавы, са знаёмства з "Букваром", аўтарам якога з'яўляецца Анатоль Клышка.



Гэта ж колькі дзетак трымалі ў руках і вадзілі пальчыкам па радках гэтай першай сваёй кнігі за столькі гадоў?! Дапытлівыя прыхільнікі статыстыкі, напэўна, могуць падлічыць і гэта, назваць дакладную лічбу. Ды не ў тым галоўная сутнасць, не ў колькасці. Хоць і яна дадае павагі гэтай непаўторнай кнізе. Важна, што менавіта яна дапамагла тысячам, дзесяткам і сотням тысяч дзетак усвядоміць сябе грамадзянамі нашай Радзімы, адчуць гонар за наш край, за нашых працавітых і таленавітых людзей. А яшчэ кніга гэтая з першых крокаў далучае дзетак да нашай слаўтай і багатай, нароўні з усімі еўрапейскімі народамі самабытнай гісторыі, дае зразумець, якое культурнае і навуковае багацце чакае іх на шляху пазнання і спазнання сябе і сваіх прашчураў у размаітым чалавечым космасе.

Даруйце за гэткі ўзвышана патэтычны хваласпеў беларускаму "Буквару". Але ж гэта не толькі кнізе хвала, гэта ўхвала яе стваральніку — Анатолю Канстанцінавічу Клышку. Яго ным талентам, ягоным майстэрствам, ягонай душой і думкай ужо колькі дзесяцігоддзяў вучацца спазнаваць свет нашы юныя грамадзяне. Гэта ён заклікае іх у свой таямнічы і даверлівы свет літар, складоў, слоў, сказаў, выразаў, выслоўяў, вершаў, дзе галоўнымі для кожнага з'яўляюцца займальнасць, дасціпнасць, даверліва-адкрытае сумоўе дарослага і дзіцяці, настаўніка і вучня, абазнанага вучонага і непісьменнага пачаткоўца. Сумоўе дзеля таго, каб неўзабаве гэты пачатковец стаў нароўні са стваральнікам той галоўнай кнігі, што гэтак гожа і ўмела далучае да свету прыгожага, добрага і разумнага.

Вядома, і да Анатоля Клышкі былі ў нас "Буквары". Але не падумайце, што Анатоль Канстанцінавіч пераўвасобіў набыткі сваіх папярэднікаў. Зусім наадварот. Яго творчы падыход яшчэ ў савецкі час, калі без вышэйшага дазволу з Масквы і слова свайго нельга было ўставіць, здолеў зрабіць беларускі "Буквар" непаўторна цікавым і займальным. А за гэткае непаслушэнства аўтар не адно не быў пакараны, але нават адзначаны — ягоны "Буквар" атрымаў срэбраны медаль ВДНГ менавіта за падбор тэкстаў — за ўключэнне загадак, пацешак, скорагаворак. А ў 1977 годзе на міжнароднай кніжнай выстаўцы ў Лейпцыгу беларускі "Буквар" Анатоля Клышкі быў адзначаны залатым медалём.

Анатоль Канстанцінавіч Клышка сёння — вядомы вучоны, даследчык беларускай паэзіі, пісьменнік, крытык, перакладчык. Нездарма ягоныя шматбаковыя здольнасці адзначаны ганаровым званнем заслужанага работніка культуры Беларусі. Але, як на маё меркаванне, дык ён мае больш значную адзнаку, ён — чараўнік слова. Нашага беларускага слова. Якое вельмі тонка і глыбока разумее сам, і хоча, прагне, намагаецца, стараецца, каб гэткім умельствам авалодалі ўсе, хто з гэтым словам сутыкаецца.

Я ж менавіта так успрымаю творчую дзейнасць Анатоля Канстанцінавіча. Ахвотна прымаю ягонае запрашэнне пабываць "У лясах Белавежы", каб на свае вочы ўбачыць, як цвіце "Верасок", адчуць, як пахне "Чабарок", а з дапамогай "Беларуса-польскага размоўніка" зразумець, якія пачуцці ўсе гэтыя багацці старадаўняй пушчы выклікаюць у нашых суседзяў-палякаў. Я падзяляю заклік аўтара усвядоміць, што "Самая лепшая хатка" — бацькоўская, дзе ўсімі непаўторнымі гукамі цурчыць-пераліваецца наша беларускае слова. Ну, а калі часам адолее стома, дык следам за Анатолем Канстанцінавічам ахвотна бяруся за "Вярэньку загадак" або за перастрованую ім "Пастушыную гісторыю пра Дафніса і Хлою" старажытна-грэчаскага пісьменніка Лонга. Але мо найперш разам з ім імкнуся ўбачыць "Святло праз стагоддзі", каб зразумець і ніколі ў жыцці не забыцца, хто такі для беларусаў "Францыск Скарына, альбо Як да нас прыйшла кніга". І гатоў прысягнуць: я таксама "Чую, бачу, гавару" няўрымслівай душой стваральніка нашай галоўнай кнігі.

Я перакананы і яшчэ ў адным: найвысокая адказнасць, душэўная неабыякавасць і таленавітасць адмыслова патрэбны для таго, каб стварыць галоўную кнігу для дзетак "Буквар" і пераўвасобіць з нацыянальнай адметнасцю па-беларуску яшчэ адну кнігу, галоўную кнігу для дарослых — Святое пісанне. І там, і там патрэбна найперш зразумець тон і манеру пісьма, сам тэмбр гучання кожнага слова, ягоныя магчымасці спалучэння ў сказы менавіта ў той адзіна магчымай пляцёнцы, якая дазваляе адэкватна ўспрымаць напісанае і разумець яго бязварыянтна, даходліва, спасцігаць не адно розумам, а і сэрцам, душой. Я перакананы, што любы тэкст толькі тады цалкам і адпаведна засвойваецца чытачом, калі ён дыхае, жыве, пульсуе, калі ён насычаны эмоцыямі. Тэкст, які прайшоў праз душу, хвалюе найбольш, ён запамінаецца і разумеецца як нешта сваё, блізкае, перажытае, перадуманае. У гэткім свеце слова і жыве сёння Анатоль Канстанцінавіч Клышка. Жыве сам і хоча, каб з гэткай жа насычанасцю жылі і мы, ягоныя чытачы.

Хай жа так і будзе!

Анатоль БУТЭВІЧ

Фота Кастуся Дробава

# Квецень паэтычнага слова

Калі чалавецтва ўсё яшчэ заклапочана вынаходніцтвам вечнага рухавіка, то няхай сусакоіцца, бо, як кажуць юрысты, прэцэдэнт вычарпаны. Можна смела зазначыць, што менавіта літаратурны працэс знаходзіцца ў вечным руху, бо на арбіце цудоўнай планеты, якая носіць назву "Беларуская літаратура", з'яўляюцца ўсё новыя і новыя асобы, чые імёны мы часта сустракаем у літаратурна-мастацкіх перыядычных выданнях, гартаем іх кнігі са свежым пахам друкарскай фарбы, іх творы гучаць на творчых вечарах, на радыё. Дзеянне гэтае, дзякуй Богу, сапраўды няспыннае і, галоўнае, мае вялікі пазітыўны патэнцыял, бо надае сэнс нашаму жыццю, насычае яго святлом, раскрывае вочы на прыгажосць.

Імя Дзмітрыя Пятровіча ўжо даволі вядомае ў беларускіх літаратурных колах, яго проза і паэтычныя творы друкаваліся ў перыёдыцы, і вось у сёлетнім студзені ў выдавецтве І. П. Логвінаў выйшла яго першая кніга вершаў "Белая квецень кахання". Прачытаўшы гэтае невялікае выданне, прыходзіш да высновы, што ёсць тры складнікі, на якіх грунтуецца творчасць маладога паэта: Радзіма, прырода, каханне. Такім чынам, тэматыка вершаў не адыходзіць ад канонаў паэтычнай беларускай класікі. Толькі навізна слова, прыпраўленая пэўнай доляй таленту, вызначае арыгінальнасць творчасці кожнага пісьменніка. Таму паспытаем на смак тое, што прапаноўвае нам Д. Пятровіч у сваёй кнізе.

Кожнаму з нас так хочацца разабрацца ў хітраспляценнях жыцця, асэнсаваць сваё месца ў навакольным свеце. Чалавеку заўсёды цікавы ён сам, яго асабісты лёс, а таксама лёс яго родных і блізкіх, а ў больш шырокім сэнсе — лёс яго народа, яго Радзімы. Таму так часта паэты прысвячаюць самыя прыгожыя словы Беларусі, і Дзмітрый Пятровіч не з'яўляецца выключэннем. Вершы яго прасякнуты любоўю да сваёй краіны ("Плыві, плыві над роднаю старонкай // Ты, песня шчасця, міру і любві!"), трывогай за яе будучыню ("Ў сваіх малітвах ты не забывай, // Мой Божа, Беларусь!"), і высокім акордам гучыць сцвярджэнне паэта аб асабістай адданасці Радзіме і вера ў яе вечнае жыццё ("Ў вяках сівых святой краіне жыць — // Маёй блакітнавокай Беларусі!").

Што такое шчасце? Хто б ні задумваўся над гэтым пытаннем, якое з'яўляецца, па сутнасці, філасофскім панняццем, павінен добра "паламаць" галаву, як знайсці адказ. У вершы "Мой край" Д. Пятровіч таксама разважае аб шчасці. Аказваецца, для шчасця чалавеку патрэбна так нямнога, але гэтае "нямнога" мае ўсеабдымны сэнс: "Што трэба для шчасця? А трэба нямнога: // Зялёны дубочак ля роднага дома, // Што дзед пасадзіў (а калі □ невядома), // Калодзеж ля плота, матуліна ўсмешка // І гэта з дзяцінства да сталасці сцежка, // Крынічка-раўчук са сцюдзёнай вадою, // І першая наша сустрэча з табою, // І поўня, што новым святлом праліецца… // То край мой. Ён любай Радзімай завецца." Так паэт абагульняе ўсе састаўныя часткі свайго шчасця, да такой высновы прыходзіць, і гэта імпануе нам, бо словы такія кладуцца на нашы сэрцы, яны сугучныя нашым думкам.

З дзяцінства, з малой радзімы і са святых пачуццяў да бацькоў бярэ пачатак жыватворны ручай жыцця чалавека. Памяць аб пяшчотным дзяцінстве, юнацтве ў чалавека нельга адабраць, і, не зважаючы на тое, што, па словах аўтара, застаецца ад іх "адзін туманок", успаміны — неад'емная частка свядомасці любога чалавека, яны ідуць з ім разам дарогамі лёсу, ажываюць у яго думках, дапамагаюць у цяжкую хвіліну, натхняюць на высакародныя ўчынкі. Чалавек павінен шанаваць памяць сваёй сям'і, свайго роду, але вельмі важна не быць манкуртам і ў адносінах да Айчыны, трэба вывучаць яе гісторыю, захоўваць гістарычную памяць аб продках, каб не перарвалася нітачка жыцця ўсяго народа, каб паэт з лёгкім сэрцам мог сказаць:

Гаворыць, што лёс нас
заўсёды вяртае
Да роднага ганку
з жыццёвых дарог.
Ды з нас толькі той
неўмiручасць спазнае,
Хто памяць аб продках
нашчадкам зберог.

Нельга не адзначыць удалыя замалёўкі прыроды, якіх нямала ў кнізе "Белая квецень кахання": "Лета рамонiца шчасцем квяцістым, // Плача дажджамі, шапоча лістотай // І па лугах, срэбразвонка-расістых, // Сонечна напромную лье пазалоту". Асабліваcці прыроднай з'явы ў вершы "Смуткам неба наўсцяж набрыняла" апісаны так натуральна і грандыёзна, што бачыш наяве імгненную перамену прыроды, а вастрыню ўспрымання радку надае выкарыстанне аўтарам сапраўдных ваенных тэрмінаў: "Смуткам неба наўсцяж набрыняла, // Налілося свінцом-чарнатою. // Чорнай вежы агалены голаў // Захістаўся ў нямым паднябессі". Верш напоўнены небяспекай, трывогай, і толькі параўнанне дажджу з жыватворным насеннем у канцы аповеда неяк адразу здымае тую напружанасць, у якой мы міжволі знаходзімся ўвесь час, і гэты псіхалагічны прыём, што выкарыстаў Д. Пятровіч, дадае павагі да працэсу яго мыслення.

Замілаванасць і радасць ад свайго існавання на зямлі адчуваеш пры знаёмстве з нізкай вершаў, што ўслаўляюць прыроду, такіх лёгкіх і чысцюткіх, такіх празрыстых і сонечных, такіх светлых і добрых, як "Песня зімы", "Ранак марозны", "Выйшла восень", "Гукаў начных слізгаценні", "Адцвітаюць лугі", "Восень глядзіцца ў лясное люстэрка", "Навагодняя" і інш. Чытаць такія вершы можна і малым дзеткам, і падлеткам, і дарослым — ад іх уздзеяння ўсмешка кранае вусны і ўздымаецца настрой.

Але ж трэба ўліць і невялічкую лыжачку дзёгцю у свае маліна-сіропныя разважанні аб творчасці маладога паэта. Паэтычная творчасць — плён бясспрэчна вольнага мастака слова, але ж у вершах усё павінна быць дакладным, факты падтасоўваць нельга нават на карысць рыфме. У вершы "Сыпле снег на бялюткія вішні…" паэт адзначае: "Цягне з поўдня зімы халадком". І чаго тады зіма бывае такой суровай і доўгай, як у гэтым годзе, калі яна прыходзіць з поўдня?

Лірычныя вершы Д. Пятровіча — прыгожая часцінка яго творчасці. Цяжка пісаць пра каханне і не паўтарыцца, калі ўвесь паэтычны сусвет напоўнены падобнымі пачуццямі. Чытаеш яго "Асенні вальс" з рэфрэнам: "Гарэў ліхтар", а прыпамінаеш адразу: "Свеча горела на столе, // Свеча горела" Б. Пастэрнака. Але ўсё ж такі пашчасціла вычытаць не так і мала радкоў, што падаліся мне нязбітымі, як гэтыя, да прыкладу, "Тады любові першай хруснуў // Пад намі хуткаспелы лёд".

Напрыканцы, хачу аддаць належнае Д. Пятровічу як паэту-барду. Хочацца напрарочыць, што песні, у якіх паэт адкрывае нам сваё сэрца, абавязкова прынясуць яму ўсеагульнае прызнанне і любоў. У кнігу ўвайшло іх не так і многа (толькі пяць), але ўсе яны вартыя нашай увагі, гавораць аб сапраўдных пачуццях, прыгожыя і вельмі напеўныя. Так што будзем чакаць яго новых вершаў і новых песень.

Надзея СЕНАТАРАВА



Гурт "Naka" парадаваў сваіх прыхільнікаў новым альбомам, які мае назву "Пора". У гэтым альбоме "Naka" робіць вялікі крок у накірунку да сябе. Як ні парадаксальна, але інтравертнасць дазваляе больш свабодна зірнуць на творчасць каманды і ацаніць яе непаўторнасць, асаблівую мастацкую мову. Альбом "Пора", па сутнасці, прыйшоў да нас з іншага часу: рок здаецца сёння не такім актуальным накірункам, як калісьці, ды і дзівосны жанр раманса падаецца з'явай, што даўно перайшла ў прастору класічных залаў. "Пора" — альбом для тых, хто ўмее слухаць і адчуваць, бо ў ім Наста Шпакоўская, лідэр гурта, аўтар слоў і музыкі, стварае тонкі, вобразны мастацкі свет, у якім суіснуюць прастасць, лёгкасць і сентыментальнасць.



# «Naka»: крок да сябе

— Наста, чаму новы альбом мае назву "Пора"?

— У першую чаргу гэта назва адной з песень. Для мяне ж слова пора—шматграннае і шматзначнае: пара ўжо выпусціць новы альбом, пора як пара года і інш.

— Ці адрозніваецца музычная стылістыка новага альбома ад альбома папярэдняга?

— У любым выпадку гэта "прадукт" творчай працы аднаго калектыву, гэта песні, напісаныя адным чалавекам, і новы альбом — не радыкальны паварот у нейкі бок. Мы граем альтэрнатыўны рок, які становіцца больш жорсткім і драматычным. І ў гэтым альбоме ідзём тым жа шляхам, толькі крокі нашы становяцца больш упэўненымі, больш выверанымі і, на мой погляд, больш цікавымі. У альбом уваходзяць кампазіцыі крыху іншага кшталту, хоць і з'яўляецца асаблівасцю гурта "Naka" тое, што філасофскіх песняў-роздумаў, спроб штосьці прыняць і ўсвядоміць у нашым рэпертуары шмат.

— Гурт існуе не так даўно, але за гэты час пра "Naky" даведаліся не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. А ці памятаеце вы, як запісвалася ваша першая песня?

— Гэта было вельмі даўно, і складана ўспомніць менавіта першую песню. У памяці застаецца яркім запіс нашага першага альбома. Калі мы прыйшлі ў студыю Белтэлерадыёкампаніі, я зусім не разумела, што ў нас наперадзе праца, і сам працэс запісу песняў у студыі для мяне быў вялікай навінкай. Тады толькі пачынала займацца музыкай, і гарэла гэтым настолькі, што, магчыма, на нейкія прафесійныя рэчы проста не звяртала ўвагі. Мне хацелася бачыць вынік як мага хутчэй: увесь час падганяла гукарэжысёра, старалася кантраляваць і заўважаць усё. Зразумела, зараз, калі гурт існуе ўжо пяць год, падыход да працы крыху змяніўся, змяніўся і ўнутраны ажыятаж, ён стаў больш дарослым, больш арганічным і прафесійным. Калі мы запісвалі другі альбом, праца ў студыі была арганізавана зусім па-іншаму.

— Назву "Naka" адобрыў увесь калектыў гурта?

— Я доўга думала над назвай (у той час са мной працавалі іншыя музыкі), было некалькі варыянтаў. Прыйшла, спыталася ў членаў гурта, яны адказалі: Naka — гэта добра. Так называлі мяне бацькі ў дзяцінстве.





— Ці плануеце вы правесці турнэ па гарадах Беларусі, Расіі?

— Мы ўжо мелі тры канцэрты ў розных гарадах нашай краіны, але турнэ гэта назваць складана. Аднак такія планы ёсць. Думаем правесці турнэ па раённых цэнтрах Беларусі. У Расію нас таксама запрашаюць, але ініцыятыва, як правіла, зыходзіць ад простых людзей, а не ад арганізатараў канцэртаў, таму тут далей размоў справа не заходзіць.

— У ваш новы альбом уключаны песні на дзвюх мовах: рускай і беларускай. Ці плануеце вы выпуск асобнага беларускамоўнага альбома?

— Я думаю толькі пра беларускамоўныя песні і не ўпэўнена, што маю ўнутраную патрэбнасць у стварэнні менавіта беларускамоўнага альбома. Па-першае, руская мова (на жаль або на шчасце) мне бліжэй. На гэтай мове думаю, ды і працую ў Рускім тэатры. Але ў той жа час тую палітру і тыя нюансы, што я знаходжу ў беларускай мове, у рускай знайсці не магу, пагэтаму з радасцю звяртаюся менавіта да нашай роднай мовы. Не думаю, што ў бліжэйшым будучым буду ствараць альбом толькі на беларускай мове. Але пісаць па-беларуску мне вельмі цікава!

— Ваша першае выступленне адбылося ў клубе "Графіці", пасля гэтага вы атрымалі ганаровую ўзнагароду клуба — дыплом "Адкрыццё года". Чым запомнілася першая ўзнагарода?

— Зноў жа гэта, як і першая песня, было так даўно, столькі яркіх і цікавых падзей адбылося пасля гэтага, але я цудоўна памятаю першыя выступленні ў клубе "Графіці". Гэта мае першыя самыя трапяткія ўражанні. Адна справа, калі пішаш песні, граеш іх на рэпетыцыях, думаеш, што яны добрыя. Іншая справа — калі выносіш іх на суд "жывога" гледача і бачыш зваротную рэакцыю. Памятаю гэтыя выступленні як радасныя, яркія салюты, падзеі, калі ўсё тое, што думалася адносна творчасці гурта "Naka", адносна песень, было пацверджана гледачамі, якія ўважліва, спагадліва паставіліся і да сэнсу, і да падачы песняў. Многае з таго часу змянілася і ў манеры, і ў прафесіяналізме выканання песень, неаднаразова змянілася і каманда музыкаў, што граюць у гурце. Але тым не меней, акрамя цеплыні, яркасці гэтых выступленняў не магу больш нічога ўспомніць.

— Якія беларускія выканаўцы вам імпануюць?

— Складана вылучыць кагосьці аднаго, каб не пакрыўдзіць іншых. Мне падаецца вельмі яркім на сённяшні дзень гурт "Ляпіс Трубецкой". Не магу сказаць, што гэта на 100 працэнтаў музыка маёй душы, але іх песні мне падабаюцца, асабліва тры апошнія альбомы, шуміха вакол іх і вакол творчасці гурта ў цэлым. Кліпы, узровень выканання, безумоўна, прымушаюць іх вельмі моцна паважаць.

— Наста, вы з'яўляецеся актрысай тэатра імя М. Горкага. У якіх спектаклях вас можна ўбачыць?

— На жаль, на сённяшні дзень гэтых спектакляў не шмат, бо некаторыя з маіх любімых пастановак ужо знялі з рэпертуару, хоць, мне здаецца, яны і зараз маглі б радаваць гледача. Сёння можна паглядзець спектаклі "Бег", "Ніначка", "Ідэальны муж", "Перад заходам сонца", "Я твая нявеста".

— Ці дапамагае майстэрства акцёра вам як спявачцы?

— Па праўдзе кажучы, пра гэта не думаю і стараюся сваю акцёрскую прафесію, нейкія навыкі і тэхнічны тэатральны багаж пакінуць у тэатры. У працэсе напісання песень, каб яны атрымаліся сапраўднымі, жывымі, важна ачысціць сябе ад наносных штампаў, найгрышаў — усяго таго, чым грашаць акцёры, ды і людзі ў жыцці. У музыцы стараюся максімальна прытрымлівацца сябе такой, якая я ёсць.

Гутарыў
Уладзіслаў ШЫКУРАЎ

На здымках: Наста Шпакоўская падчас канцэртаў.

## У наступным нумары

Тацццяна Заміроўская герояў сваіх апавяданняў узнагароджвае дзіўнымі імёнамі, нібы дзяўчынка з бурнай фантазіяй. Імкнецца назваць сваіх лялек экзатычна і загадкава – так яны выглядаюць больш прыгожымі і ўмоўнымі, а значыць, і таямнічымі. Гэтым мяккім і бяскрыўдным персанажам Таццяна прапануе самае сапраўднае і дарослае жыццё, са здрадай і несправядлівасцю, з надрыўным сорамам, з чорным пылам расстання і салёным морам адзіноты. Таму персанальны лялечны тэатрык Таццяны Заміроўскай часта больш нагадвае інфернальную батлейку.
У маскоўскім выдавецтве "АСТ" нядаўна выйшла першая кніга апавяданняў вядомай беларускай музычнай журналісткі Таццяны Заміроўскай "Жизнь без шума и боли", з гэтай нагоды прапануем чытачам "ЛіМа" інтэрв'ю з пісьменніцай.

## З глыбінкі

# Паверым відавочцы і — выправім памылку

Мемарыяльная дошка, якой на доме №47 па вуліцы Савецкай было ўвекавечана знаходжанне ў Лунінцы ў 1911—1912 гг. Якуба Коласа, утрымлівае гістарычную памылку, якая патрабуе выпраўлення.

Першаадкрывальнікам мясцін, звязаных з імем народнага песняра і асоб, якія былі яго знаёмымі ў лунінецкі перыяд жыцця, быў Леў Мірачыцкі — супрацоўнік Дзяржаўнага музея Якуба Коласа ў 1960-я гг. Пра свае пошукі ён паведаміў у лунінецкай раённай газеце "Авангард". У артыкуле, апублікаваным 26 студзеня 1961 года, аўтар спасылаецца на галоўную крыніцу звестак — ветэрана педагагічнай працы лунінчанку Любоў Савінскую, дачку святара Мікалая Прорвіча, якога пісьменнік прыгадаў у трылогіі "На ростанях". Менавіта гэты лунінчанін і даў прытулак апальнаму паэту, запрасіўшы яго ў Лунінец і падзяліўшыся прыватнымі ўрокамі. Пазней у допісе, надрукаваным у той жа лунінецкай раёнцы, якая змяніла назву на "Ленінскі шлях", Любоў Савінская вітае рашэнне гарвыканкама перайменаваць вуліцу Завальная ў вуліцу імя Якуба Коласа і паўтарае словы музейнага работніка: "...Для ўвекавечання памяці паэта добра было б яшчэ ўстанавіць мемарыяльную дошку на будынку школы № 1, таму што на гэтым месцы калісьці стаяла старая народная школа, у якой часова жыў Якуб Колас у свайго сябра Вікенція Філіповіча".

Мемарыяльная дошка, устаноўленая да 80-годдзя знаходжання народнага песняра ў Лунінцы, сцвярджае, што ён жыў у доме, на якім яна прымацавана. Але сцвярджэнне гэтае — памылковае. На самай справе ў старажытным доме ў той час здымала кватэру сям'я Уладзіміра і Любові Філіповічаў, якіх як госць наведваў К. Міцкевіч. Але няма сэнсу карэкціраваць надпіс: колькі год таму цяперашнімі гаспадарамі дом рэканструяваны і страціў цікавы з архітэктурнага пункта погляду першапачатковы выгляд. Таму гэтую мемарыяльную дошку лепш захаваць у краязнаўчым музеі як прыклад шматгадовых пошукаў гістарычнай дакладнасці.

Канчаткова ж памылка будзе выпраўлена, калі мемарыяльная дошка з адпаведным сапраўднасці тэкстам з'явіцца на будынку СШ № 1 г. Лунінца. Магчыма, па прыкладзе Мікашэвіцкай гімназіі, уганараванай імем паэта Уладзіслава Нядзведскага, гэта натхніць калектыў школы на імкненне насіць імя народнага песняра Беларусі Якуба Коласа, што было б годным падарункам да 100-годдзя з часу знаходжання яго ў нашым горадзе.

Таццяна КАНАПАЦКАЯ

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск,
вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнеце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3057
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 15.04.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 1773
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686